# Шчырая споведзь і трывожны роздум

Адзін з лепшых на сваёй радзіме і ў свеце сучасных паэтаў прапануе сваім чытачам не зусім звычайную кнігу. Яе змест звязаны з усім жыццём і творчасцю Рыгора Барадуліна, з ягоным заўсёдным, ужо больш за палову стагоддзя, асэнсаваннем жыцця і роздумам над тым, што адбываецца побач, у родных мясцінах, там, дзе ён жыве, і ў розных краінах — і параўнаўча блізкіх, і далёкіх.

А на беларускай зямлі яўрэі і беларусы заўсёды жылі побач, у нейкім побытава-духоўным яднанні. Кантакт гэты даваў, па вялікім рахунку, толькі ўзаемную карысць. Але было і шмат трагічных старонак у гісторыі. Таму і гучыць у вершах, перакладах, эсэ, вершаваных ліставаннях Рыгора Барадуліна заклапочана-трывожны роздум пра лёс яўрэйскага народа і ягонай цудоўнай мовы ідыш, якая, на жаль, амаль знікла. Таму і ўзнікаюць думкі пра далейшы лёс і мовы беларускай, мовы тых, хто заўсёды жылі і былі з яўрэямі разам…

Гэта паэтава асэнсаванне ідзе, вядома, ад рэалій жыцця; але яно падтрымліваецца і пэўнымі традыцыямі, закладзенымі ў сучаснай беларускай літаратуры. Рыгор Барадулін усёй сваёй творчасцю, у тым ліку і гэтай кнігай пераконвае, што ён падхапіў творчую эстафету ад Янкі Купалы, працягваючы словам і вобразнасцю уздымаць да незвычайнай вышыні, як філасофскай, так і эстэтычнай, такія светапоглядныя катэгорыі, як мова, народ, свабода, незалежнасць. Міжволі прыгадваецца славуты Купалавы зварот да яўрэяў, што жылі побач:

Нявольнікі вы сёння з намі разам
На беларускай змучанай зямлі,
Дзе чорны здзек, пасвенчаны абразам,
Гняце нас разам, як звяр'ё, ў крутой пятлі.

У тым жа вершы Янка Купала нагадвае яўрэям, што «адны вас беларусы шанавалі, як блізкіх родных — да святлейшае пары» і што «Беларусь пад крыллямі сваімі вас грэла й вашым нянькаю была дзіцям». А Рыгор Барадулін у сваіх перакладах твораў яўрэйскіх паэтаў, у нарысах пра іх і пра вядомых дзеячаў яўрэйскай культуры і мастацтва своеасабліва працягвае купалаўскую думку-выснову, звяртаючы асаблівую ўвагу на тых творцаў, якія давалі ўзоры выдатнейшага вобразнага беларуска-яўрэйскага сугучча. Напрыклад, на Марка Шагала. Прыгадаем толькі вобразныя кампазіцыі шэрагу шагалаўскіх цудоўных твораў. Закаханыя ў іх лятуць над Віцебскам, можа, таму, што імкнуцца туды, куды (напісана мастаком і паэтам амаль адначасова) і лірычны герой Янкі Купалы: «К зорам агністым, к прыволлю нябеснаму, вырваўшы з ціны жыццёвай душу, мчыся, не дайся цярпенню балеснаму, горда пакінь земляную глушу! К зорам, што так над табой разгараюцца льніста ў мільённай на небе сяўбе, рвіся, хай думы прабіць цьму стараюцца…»

Цытую ўсё гэта падрабязна таму, што інтанацыйна-вобразная сувязь з узорамі класікаў мне вельмі выразна бачыцца і ў прыцішаных, але выпакутаваных радках аўтара кнігі:

Апошнія паэты яўрэйскія.
Каму чытаць ім вершы свае на ідыш?
Ці ветру ў полі,
Ці дрэву, якому журба дагінае голле?
Верш кожны на ідыш,
Як той падкідыш, —
Прылашчыць няма каму.

І яшчэ на адзін светапоглядны аспект Рыгора Барадуліна нельга не звярнуць увагу, чытаючы гэту кнігу. Маецца на ўвазе ягонае агульнае адчуванне і разуменне творчага працэсу, і арыгінальнага, і перакладнога, заснаванага на вельмі глыбокім вызначэнні-закліку славутага Максіма Багдановіча «не толькі свайму народу, але і сусветнай культуры несці свой дар». Адсюль і мастацкі ўзровень і арыгінальнай творчасці Рыгора Барадуліна, і яго самаадданай перакладчыцкай дзейнасці. Ён добра разумее неабходнасць увесці ў нацыянальны беларускі культуралагічны кантэкст шэдэўры сусветнай класікі і лепшыя творы сучаснай літаратуры розных краін і народаў. Прапанаваныя ў гэтай кніжцы пераклады твораў яўрэйскіх паэтаў — толькі невялікая частка той спадчыны розных народаў з розных краінаў свету, якую Барадулін цудоўна агучвае на сваёй роднай мове. Адначасова ён яшчэ і яшчэ раз паказвае чытачам неабмежаваныя магчымасці беларускай мовы, на якую могуць быць паспяхова пераствораны іншыя сугуччы з блізкіх і далёкіх моваў, не падобныя і своеасаблівыя рытмы, вобразы, думкі…

Найвышэйшы мастацкі ўзровень вылучае вершаваныя прысвячэнні Рыгора Барадуліна вядомым дзеячам яўрэйскай культуры — Марку Шагалу, Рыгору Бярозкіну, Заіру Азгуру, Рыгору Рэлесу і многім іншым. Найцудоўнейшыя ўзоры сапраўднай паэзіі — вершы паэта, створаныя непасрэдна на тэмы са шматпакутнага жыцця яўрэяў: «Апошнія паэты яўрэйскія…», «Над Ямай», «Шалом, Ерусалім» і асабліва кранаючы душу і сэрца цыкл «Стане Віфлеемам сэрца», напісаны ў выніку спаткання са святой зямлёй Ізраіля. Асобныя радкі з гэтага выпакутаванага паэтычнага асэнсавання ўваходзяць у свядомасць адразу і застаюцца з табою на ўсё жыццё.

Чый Бог
Адзін за ўсіх хварэе?
Смяецца з нашых звадаў
Лёс.

Бо ў старасці мы ўсе —
Яўрэі,
Як малады Ісус Хрыстос.

Падзякуем Рыгору Барадуліну за падрыхтоўку гэтай унікальнай кнігі з такім вельмі аналітычным і актуальным гучаннем. Яна не падобная да многага, што выдаецца сёння ў многіх краінах свету. Але яна вельмі патрэбная і як кранальны напамін аб тым, што было, і як заклік задумацца над многімі праблемамі будучыні.

*Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ,*
*Чыкага*

# СТВАРАЛЬНІКІ ВЫСОКАЕ КРАСЫ

## Толькі б яўрэі былі!

Чакаюць, прыйдзе светлы год
І голас кожны будзе ўчуты.
Яўрэі — праведны народ,
Абраны Богам
На пакуты.

І такі чакаюць. З сівых вякоў.

Думаю, не будзе кашчунствам, калі да Усявышняга суаднесці зямную пoслаўку: «Хто каго любіць, той таго й чубіць».

Бог любіць яўрэяў, Бог ніколі не пакідаў іх, бо яўрэі заўсягды жылі з Богам у душы.

Выгнаннем і валачомніцтвам правяраў іх ды гартаваў душы пабожныя. Адлучаў ад спаконнае радзімы, каб жыло жаданне вярнуцца на радзіму, мець сваю радзіму, а значыцца, шанаваць яе, сніць яе, не магчы жыць без радзімы.

Часам думаеш, а ці не шкодзіла б і нам, беларусам, пабыць выгнанцамі, каб шанаваць сваю святую зямлю. Пісаў жа вялікі сын Беларусі Адам Міцкевіч, што радзіма, як здароўе, толькі тады й вяльмуеш яго, калі страціш.

Беларусь стала для яўрэяў цёплай хатай. У нас яўрэі ніколі не адчувалі сябе прыхаднямі. Для беларуса яўрэй гэтулькі свой, што не кожны беларус ды яўрэй помніць пра ўцёкі яўрэяў у Беларусь ад праследу ў сярэднявечнай Еўропе.

З Беларусі выйшла безліч славутых дзеячаў культуры, літаратуры, палітыкі. Адзін толькі пералік назыўны заняў бы добры том.

Яўрэі захавалі сваю мову й добра засвоілі беларускую. Некаторыя да таго добра, што сталі класікамі беларускай культуры. Не гэтак і шмат хто з беларускіх пісьменнікаў так глыбінна адчуваў беларускае слова, народны дух, як Змітрок Бядуля (у яўрэйстве Самуіл Плаўнік).

Мовы нашыя ўзаемаабагачаліся. Словы, як тыя птушкі, пераляталі з-пад аднае страхі пад другую.

Гэта ў асноўным праз ідыш з нямецкае мовы ў беларускую прыйшлі й цэгла й дах, і цыбуля й цвік. Ды шмат іншых словаў, якія неслі гандляры, майстры, дарожныя людзі.

А паколькі ідыш узнікла на грунце пляцдорф, а класікі жылі ў пераважнай сваёй на Беларусі, беларускія словы прыжыліся ў мове яўрэяў. Тут і татэ й ласкэ, бульба й вечэрэ (вячэра), сажалкэ й самагон. Усяго не злічыць. Кажуць жа: жыдоўскі зараз, як беларускі пачакай.

Паслаўка «дарагі куток, дзе адрэзан пупок» датычыцца ўсіх людзей. Пра гэта і ў ксёнжцы Змітрака Бядулі «Жыды на Беларусі»:

«І ні адпаведаюць праўдзе паказанні большасьці антысэмітаў, што жыды ні маюць пачуцця кахання да таей зямлі, дзе яны жывуць… Гэта было б проціў законаў прыроды. Адно толькі — гэта цяга да бацькаўшчыны ў іх абвеяна асобым трагізмам. З аднэй стараны — жыццё на чужыне соткамі год, дзе даконывалі іх розныя антысэміты і жыдаеды, хочучы ні толькі зьнішчыць іх фізычна, як пагромамі і грабежніцтвамі, але таксама і апаганіць іх душу — рэлігію — пад відам розных крывавых нагавораў і крытыкі Тальмуду. З другой стараны — далёкая Палестына, з якой яны выгнаны ўжо 2000 гадоў, — акрапляла самабытнай расою ў душы кожнага жыда тыя карэнні, якія зьвязваюць яго з зямлёю, дзе ён жывець. Яго каханне да новай бацькаўшчыны — нэрвовае, балючае і нізразумелае прэдстаўнікам другіх нацыяў».

Бедната ўвогуле не мае вялікае адрознасці. Беларуская й яўрэйская не выключэнне. Разам гаравалі, разам весяліліся, нязлосна адзін аднога спрабавалі абхітрыць.

Яўрэй-гандляр не драў так з пакупца скуру, як савецкія ды постсавецкія гандляры. Ён тут жыў стала, ён дбаў, каб і заўтра прыйшоў да яго купляць ці браць у доўг Янка ці Мікіта.

Верхавінне любога народа болей падлеглае вятрам часу, вятрам зменаў, чымся карані. Зноў жа Змітрок Бядуля піша пра гэта:

«Што датычы дальнейшых адносін жыдоўскіх сьвядомых сфэр да беларусоў, то гісторыя іх так вышколіла, што, на жаль, па большасьці яны арыентуюцца толькі грубай сілай. Чый верх — таго і праўда…»

Гэта не папрок, а проста канстатацыя: меншына беларускага яўрэйства падтрымала ідэю беларускага Адраджэння, беларускай дзяржаўнасці на звілістых паваротках нашае пакутнай гісторыі.

Тут варта горка заўважыць, што яўрэі ў гэтых стасунках падобныя да нас, беларусаў. Узаемаўплыў.

Аж яшчэ хочацца цытаваць Змітрака Бядулю з той жа ксёнжкі «Жыды на Беларусі». Выйшла яна ў 1918 годзе, а гучыць да болю сучасна:

«У пэрыядзе амерцьвення беларускаго нацыянальнаго асьведамлення, жыды, як і самі Беларусы, хоць добра ведалі беларускую мову, але глядзелі на яе як на «мужыцкую», і, русіфікуючыя самі, нісьвядома служылі русіфікатарскай ідэі Вялікаросіі. Але гэта быў той багаты кляс, каторы атрымаў сваю навуку ў расійскіх школах, а што тычыцца простых местачковых жыхароў, то апрача роднай мовы яны ведаюць толькі беларускую.

Ад самаго пачатку беларускаго адраджэння, амаль ні побач з першымі піанэрамі беларускаго руху пайшлі, хоць і ў малым ліку, і жыды, выйшоўшыя з вёскі; хаця шырэйшыя інтылігентныя масы жыдоўства, асабліва ў местах, ні могуць ішчэ пазбыцца сукцэсаў расійскаго тут уладання і ўсё ішчэ служаць праваднікамі русіфікацыі».

І гэта і пра яўрэяў, і пра нас, браткоў беларусаў. Час бяжыць хутка, а гісторыя змяняецца марудна. А калі й змяняецца, дык не на нашую карысць, на карысць Беларушчыны.

У Беларусі гістарычна ніколі не было антысемітызму. Бо не па Хрыстовых гэта запаведах гнаць гнаных, цкаваць прытуленых, рабаваць сваіх. А яўрэі сталіся беларусам сваімі.

Міхал Федароўскі ў адным з тамоў «Люду беларускага» прыводзіць народную параду: «Калі хто цяжкахворы, то трэба даць на жыдоўску школу, рабінові, калі хто можа, то яны найлепей Бога ўпросяць, каб выздаравеў». І тут жа робіць заўвагу:

«Гэта ёсць найлепшы довад, што люд тутэйшы ўмее шанаваць сурова рэлігійнасць і ў іншых веравызнаннях».

Папераблытаўся, перамяшаўся нават сам побыт. І дзяцей ад змешаных шлюбаў так і звалі мяшанцамі. Без малейшае ноткі знявагі.

З усмешлівай сур'ёзнасцю даводзілі, хто жэніцца на яўрэйцы, у тога свінні вядуцца.

Кпіны заўсягды былі нязлосныя. Натуральна, што народ любіць пакепліваць з самога сябе дый са сваіх суседзяў, сяброў, пабрацімаў.

Гэта не праява антысемітызму, калі малыя забягалі ў краму дый пыталіся ў крамара-яўрэя, ці прадаюцца свіныя падкоўкі.

Па вуліцы йдзе беларуская маладзіца, а з адчыненых дзвярэй крамы крамарка гукае:

— Сяроўка, сяроўка, хадзі да мяне!

Маладзіца недачуе, што крамарка наўмысна прапускае адну літару ў слове «сяброўка», зычліва кажа:

— А мая ты сяброўка, часу не маю, шыю, мыю, печ палю. І крамарцы наплывае анекдот пра мытую шыю й гасцей. Дагэтуль смачна мне ад салодкай тушанай морквы. Мама тушыла яе амаль па рэцэпту цымесу. І калі на згоне стагоддзя быў я ў гасцях у былога рэжысёра тэатра імя Якуба Коласа ў спадара Казіміроўскага, частуючыся цымесам, узгадаў маміну тушаную моркву. Гэта ў Стакгольме жонка Казіміроўскага на чысцюткай беларускай мове запрашала мяне за стол, успамінала, як працавала яна да вайны ў газеце «Піонэр Беларусі», і ў Швецыю бабруйчанін Казіміроўскі ды жонка ягоная ўзялі з сабой родную ім беларускую мову.

Дома ў нас, бывала, казалі, што трэба йсці да шаўца й даць ботам асаюзкі. Бо так гаварылі шаўцы-яўрэі — асаюзкэ.

Пра дзяўчыну, у якой было багата кавалераў, казалася: «У яе ахосалы завяліся». Пра маладзіцу, асабліва папулярную ў мужыкоў, заўважалі: «Да яе ўнаначкі бахары ходзяць». А на ідыш ахосэлэ — жаніх, бохэр — кавалер. Яшчэ было ў гэтым шэрагу й слова «сюбар». Яно неяўрэйскага паходжання. Але таксама ад нейкіх нашых сужыхароў.

Як карані зялёных дуброваў, перапляліся, перавязаліся беларускія й яўрэйскія песні, казкі, паданні, прыбабунькі. Колькі, да прыкладу, іскрыстасці ў папеўцы:

Гірша з Моўшам добра жыў,
Гірша кроіў, Моўша шыў.
Гірша з Моўшам дровы сек,
Гірша Моўшу хвост адсек.

Альбо ўзор эратычнае народнае лірыкі:

У балоце пад кустом
Цяцера нясецца.
Любіць жыд жыдоўку так,
Аж ярмолка трасецца.

Неапуджаны беларускі краявід. Беларуская рахманая птушка. І на гэтым тле трасецца экзатычны галаўны ўбор. Як сказалі б савецкія літаратуразнаўцы, паэзія сацыялістычная па змесце й нацыянальная па форме.

Фальклор зафіксаваў і сацыяльныя змены ў грамадстве.

Рыса аселасці стрымлівала яўрэяў, не давала выйсці за межы заварожанага кола ні думцы, ні слову. Адсюль і фанатызм. Адсюль, пры ўсёй мудрасці, і празмерная даверлівасць яўрэяў. Бальшавікі сыгралі на даверлівасці. Як бы размылі рысу аселасці, нават дапусцілі яўрэяў да нейкіх пасадаў. І пяялася таму ў народзе:

Гоп, мае драчанікі,
Ўсе жыды начальнікі,
А ў калгасе дуракі
Дзеруць межы, як быкі.

Сярод яўрэяў бытаваў такі як бы анекдот. У яўрэйскае мястэчка прыехаў Борух ледзьве не камісарам. (Мама мая некалі называла камісараў камісраямі.) Борухава маці й хваліцца суседкам:

— Вой, прыехаў Борух міт партупей, міт наган, міт оп тваю мацъ!

Усё, што дала рэвалюцыя былому рысааселаўцу.

Гэта ўсё жарты-шмарты. Без іх яўрэй не яўрэй.

А глыбінная душа яўрэйства ў досціпах, у казках, у песнях, у зычэннях, у заклёнах кшталту гэтага:

У чорным моры чорны камень маўчыць.
У горле вароніным костка тырчыць.

Паганая свечка з сала свінога.
Для п’яніц карчма,
Для праведнікаў сінагога.
Ляціць Гурмізах на перапудзе,
Дзе не стаялі ніколі людзі,
Дзе не пасвілася вясёла жывёла,
Дзе ўся з жалеза зямля наўкола,
Дзе неба з медзі на сто зямель.
Ратуй мяне, Зэдыкіэль.
Ацалі мяне,Тафтыф’ях.
Бог праўдзівы, прымі мой страх.
Душа мая ў Тваёй правіцы.
Хай мне ўсё існае
Бачыцца й сніцца,
Як аб сустрэчы з Табой
Напамін. Амін.

Душа. На яе палююць усе ідэолагі, усе спадручныя дыктатараў рознага калібру.

Бальшавізм як працяг вялікадзяржаўнага шавінізму спачатку, калі трэба, вытварае й нязграбную альфабэту й мову перайманоўвае, а пасля ўсё зачыняе цяжкім векам дамавіны русіфікацыі.

Яўрэям напачатку адчынілі школы, газеты, тэатры. Ідыш назвалі яўрэйскай мовай. (Як у Малдове вынайшлі малдоўскую мову.) А потым школы і ўсё друкаванае й вуснае яўрэйскае зачынілі.

Перад вайной 1941–1945 гадоў мне, малому, балюча запала жудаснае відовішча. Праз вокны зачыненых яўрэйскіх школаў ляцелі кнігі, як тыя птушкі з адарванымі крыллямі. Літары, як птушыныя лапкі на снезе, на старонках гэтых бяздомных кніжак поўніліся лютай роспаччу, немым жалем.

Пазней зразумеў, што яўрэйскія кнігі — сумны лёс беларускіх старадрукаў, вуніяцкіх і глыбінных крывіцкім духам нашых фаліянтаў.

Антысемітызм і вялікадзяржаўны шавінізм, як пісаў пралетарскі паэта Маякоўскі, «близнецы-братья».

Спрадвеку ў беларускае мове слова «жыд» не мела й слабога водценю абразы, прынізу.

Натуральна гучаць выслоўі: жывіце, як брацці, а рахуйцеся, як жыддзі; пагавары з ім, як цар з жыдам; у яго грошы, як у жыда; пайшлі нашыя жыдкі ўгору.

Бальшавікі з Масквы прынеслі ў слова «жыд» значэнне абразы, непрыхаванай нянавісці. Быў прыняты ўказ, па якім за слова «жыд» давалі да пяці гадоў турмы. І гэта пачало мацаваць і без таго моцную сталінскую дружбу народаў.

Стахван ці Якута, ад прадзедаў сваіх засвоіўшы слова «жыд» як самае нармальнае, не маглі зразумець, у чым тут тоіцца зло. Збяруцца за чаркай, бывала, а Янкель і пад'юрлівае Івана:

— Ну, хто я? Скажы.

— Жыд! — вырываецца само з вуснаў Іванавых.

Так, далёка не ходзячы, нявогляддзю й заробіць рахманы беларус тэрмін. Адыходзячы ў турму, грозіцца, што, адседзеўшы, адпомсціць. І гэтак чым далей, тым меней дроў, бо дрэвы ўсе павысечаныя.

Пачаліся звадкі на пабытовым узроўні.

Згадваецца перадвайна. У нашага суседа Васілька было ажно пяць дачок. Біўся як рыбіна аб лёд, зарабляў дзе мог на хлеб надзённы. За нешта схапіўся Васілёк з Іцкам, а той яму й кажа:

— Ну што, Васілёк, мы вас у торбачку пасадзілі, засталося толькі зашморгнуць.

А што сам Іцка сядзеў у савецкай торбачцы, яму і ў галаву не прыходзіла. Савецкая прапагандысцкая малатарня добра малаціла мазгі ўсім нацыям.

Прыйшлі немцы. Абгарадзілі некалькі вуліцаў, у асноўным тыя, дзе жылі яўрэі, абнеслі калючым дротам, загналі туды ўсіх вушацкіх яўрэяў.

Ідзе Васілёк і бачыць за дротам Іцку. Дый пытае:

— Ну, хто каго пасадзіў, хто зашморгваць торбачку будзе?

Гэта абсурдна-сумны дыялог двух вырачэнцаў.

Немцы ў люты мароз рабілі пажар у гета, а пасля брандспойтамі аблівалі ўсіх вязняў, быццам тушачы пажар. Рабілі герояў «Камсамольскага білета» Аркадзя Куляшова.

Бальшавікі ўвялі пятую графу ў анкеце, правакавалі справу крамлёўскіх лекараў, перад смерцю «бацькі ўсіх народаў» забівалі апошнія цвікі ў нары ў Бірабіджане, куды бацька гэны меўся звезці яўрэяў з усяе савецкае імперыі.

Гітлераўцы ў Празе рабілі унікальны музей зніклай нацыі.

Сталіністы да музея не датумкалі.

І абаранялі бальшавікі жыдоў ад іхняга ж наймення, душачы яўрэяў у сваіх гарачых абдоймах.

У народзе хадзілі розныя каламбуры, як: «Жыд — доўга будзе жыць, яўрэй сканае скарэй».

Веселуны прапаноўвалі замест формы «жадаю» — «яўрэю». Прыкладам: «Яўрэю вам моцнага здароўя».

Шасцідзесятыя гады. Дачка мая Ілона летуе ў бабы Куліны. Маці ейная пайшла ў госці да апошняй у Вушачы сям'і Допкіных. Ілона й пытаецца:

— Дзе мама?

Мая мама адказвае:

— Пайшла к жыдам.

Малая перапытвае, да каго.

— К яўрэям, — удакладняе мая мама.

Тады Ілона зноў пытаецца:

— А кляўрэі кусаюцца?

У мамы блыталіся два назовы, адзін звычны, другі навязаны ўладамі.

Адну зіму ездзілі мы з Хаімам Мальцінскім да мамы маёй у Вушачу. Я перакладаў вялікую па сучасных мерках паэму Мальцінскага «Двойра». Дарэчы, аўтар прысвяціў гэтую паэму маёй маме Куліне.

Хаім на мыліцах (на фронце пакінуў нагу), хадзіць яму цяжка, але ідзем, як у Вушачы кажуць, на той бок. Там ля Бутаўскага могільніка жудасная магіла з болей як дзвюма тысячамі яўрэяў, расстраляных гітлераўцамі. Ніякага знака, не тое каб помнік ставіць, савецкія ўлады забараняюць. (Не па-савецку загінулі няшчасныя.) Вяртаемся назад, поўныя жальбы й смутку, а насустрач нам вушацкая маці-гераіня, вострая на язык Грахольская. Спынілася, узрадавалася:

— Ай, як я рада, што хоць жывога жыдка ўбачыла! А то звялі зусім у нас.

І абдымаць Хаіма. Узрадаваўся й Хаім. І ў галаву яму не прыйшло крыўдаваць за слова «жыдок».

Ішоў час. Засвойвалася, заганялася ў мазгі, што слова «жыд» гучыць як лаянка, як абраза. І цяпер ужо цяжка ўжываць гэтае спаконнае, законнае ў шмат якіх мовах Еўропы слова.

«Яўрэй» даслоўна перакладаецца як «з тога берага чалавек». А з якога?

Куды дзець іўдаізм, Вечнага жыда, ідыш?

Можа, слова «габрэй» і прыжывецца. Гэта зноў жа пераагучаны яўрэй.

Слова «жыд» мусіць заставацца ў гістарычным кантэксце.

А мова, на якой мала ўжо хто з яўрэяў размаўляе й піша, называецца ідыш.

Тут мне прыгадаўся анекдот-побыль: «Гэта яшчэ тады дзеялася, калі ў нашых рэчках было шмат рыбы, а ў местах ды мястэчках шмат яўрэяў».

Па тэлефоне доўга, як гэта любяць не толькі яўрэі, размаўляюць удвох. Раптам у размову ўрываецца расійскі голас маладога гэбіста:

— Перестаньте разговаривать на иностранном языке. Я ничего не понимаю!

У ранейшыя часы тэхніка падслухоўвання была не такая дасканалая, як у нас цяпер. Усё рабілася, што завецца, уручную.

Сумна, але гэтая «замежная» мова амаль ужо не гучыць на беларускіх вуліцах. Яе вывелі з ужытку, як слова «жыд». А яна ж пачувала сябе як дома у нашай талерантнай Беларусі.

Следам за ёй ідзе й мова-гаспадыня. І гаспадыні сказалі гжэчна: не выганяем, але просім вон!

Няхай сабе жыд будзе называцца яўрэем.

Толькі б яўрэі былі! […]

***2000***

## Пастаялец нябёсаў

Марк Шагал, як і вялікія мастакі Адраджэння, паэт. Ён хацеў пакінуць слова, бо слова трывалейшае за палатно, няхай і вячнейшае ва ўспрыманні наступных пакаленняў палатно. Слова ідзе ў неба да Бога, бо само слова ад Бога. Відаць, і Гамер пісаў палотны ці разьбярыў, але вечнасць захавала ў памяці сваёй толькі гамераўскае слова.

І ў сваіх палотнах Марк Шагал ішоў ад слова. Гэта ж слова задоўга да жывапісу малявала, як хата ідзе, як чалавек губляе галаву, як дождж ідзе, як смяецца сонца. Слова ўсё можа.

Бо карані слова ў сівым паганстве, язычніцтве. Паганства ж інтэрнацыянальнае па сутнасці сваёй, хіба ў канкрэтыцы球 рознае. Невыпадкова з’яўляецца певень на палотнах майстра, бо гэта птушка — служка бога агню, пажару. А пажар якраз і свяціў Марку Шагалу ў першыя хвіліны з’яўлення на свет. Свяціў сімвалічна, свяціў фатальна.

Ад слова і касмічнае бачанне Марка Шагала. Гэта маленства ўспамінае: «Галава ў мяне ўжо ціха лётае па пакоі. Столь — празрыстая. Аблокі і сінія хмары ўваходзяць у хату разам з пахам поля, канюшні, дарог».

Біблія, у аўры якой спасцігаў свет Марк Шагал, дыктавала яму вобразы, давала апратку слоў фантазіі мастака. Адсюль і анёльскія крылы: «Мае цёткі, Муся, Хая і Гуча! На анёльскіх крылах лёталі яны па базары — над кошыкамі ягад, вінаграду, груш…»

Адчуванне свайго роду ў вяках, у зямным космасе таксама ад боскага слова. «А Пасха! ні маца, ні хрэн не хвалявалі мяне гэтак, як Агада і чырвонае ў поўных шклянках віно. Мне хацелася апаражніць усе шклянкі! Нельга, немагчыма. Віно ў бацькавай шклянцы часамі здавалася чырванейшым. Яно зіхцела цёмнафіялетавым каралеўскім пурпурам, святлом усіх гета, наканаваных майму народу, ззяннем спякотнай пустэльні, пройдзенае ў гэтулькіх пакутах…»

Здаецца мне, што слова пасылаў Марк Шагал у перапыты, у выпыты і на зямлю, і на неба, а следам ішлі фарбы. «Фэст фарбаў, фэст персанажаў. І слова слухалася мастака, слугавала яму. «На самой справе, такой розніцы — паветра выдыхаеш альбо слова», — прызнаваўся падданец слова і арбы.

Ад будучых войнаў, ліхалеццяў, пажараў пасяляў абачліва сваіх людзей, коней, козачак мастак на небе. «Калі быў я яшчэ хлапчуком, мне ўвесь час здавалася, што нехта за намі гоніцца. Вось чаму персанажы мае сягнулі ў неба задоўга да касманаўтаў…»

Цяпер ведаем мы, што з космасу ўсё відаць на зямлі, да драбніц. А Марк Шагал яшчэ ў 1944 годзе пісаў: «Дзясяткі гадоў майго лунання ў нябёсах добра паказалі мне, што адбываецца на зямлі…»

Пастаялец нябёсаў Марк Шагал зноў паяднаў разлучаныя вякамі гук і колер, паяднаў двухкрыла, па-анёльску.

У сталым сваім вяку маэстра зазначыў: «Калі ж казаць пра жывапіс, дык я вельмі шмат раздумваў пра фарбу, якая завецца любоў».

Словам мацаваў, доўжыў жыццё фарбы, якой маляваў аблічча неўміручасці. Сваё аблічча.

І спадзяваўся: «…а мне будзе здавацца, што ўсе жыхары Віцебска і ваколляў глядзяць здалёк на тое, што я намаляваў за сваё жыццё».

І глядзіць свет і Сусвет, і пазнае сябе, і дзякуе вялікаму Марку Шагалу.

*1992*

# І кожны ў мур цаглінай лёг жывой…

Сапраўдны паэт адкрыты, як бор, дзе неруш можа знайсці толькі той, хто бор гэты любіць і ведае.

Сапраўдны паэт шчыры ва ўсіх праявах сваіх. Шчыры ў прароцтве, шчыры ў споведзі, шчыры ў памылках сваіх.

Сапраўдны паэт — летапісец не дакладны ў датах і ў розных лічбах, але шчымліва дакладны ў душэўных парываннях, у паказе бяды і радасці сваіх адначаснікаў, дакладны ў сваім часаўспрыманні, сугучны агульнаму настрою.

Яўрэйскі паэт Ізі Харык быў паэтам сапраўдным. Ды тут адразу хочацца зрабіць папраўку. Нельга, відаць, пра паэта казаць «быў». Паэт, калі перафразоўваць Шолама Алейхема, як талент: калі ёсць, дык ёсць. Дык вось, Ізі Харык — паэт сапраўдны. І гэта ў свой час ва ўступным слове да аднатомніка паэта пацвердзіў выдатны знаўца паэзіі, незабыўны Рыгор Бярозкін: «Ізі Харыку пашчасціла пры жыцці зведаць гучную славу і папулярнасць. І славу натуральную, што ідзе ад арганічнага ўзаемаразумення паміж паэтам і яго чытачом».

Адданасць. Гэтым актыўна-эмацыянальным словам названа адна з лепшых па выкананні паэм Ізі Харыка, гэтым падкрэслена-прыналежным словам іменаваны і томік яго выбранае паэзіі. Адданасць свайму народу, сваёй мове, нарэшце, адданасць справе рэвалюцыі вылучала Ізі Харыка з усёй паэзіі, што ўзнікла пасля

Кастрычніцкага перавароту. Менавіта рэвалюцыі ў бальшавіцкім разуменні быў найболей аддадзены Ізі Харык. Сын местачковага шаўца-рамесніка паверыў бальшавікам. Паверыў, што будзе развівацца мова ягонага народа, што ўсе будуць роўнымі, што новы лад нясе шчасце, пра якое вякамі марылі шмат якія народы Расійскае імперыі. І шчыра апяваючы ўсе рэвалюцыйныя змены, паэт тым самым пакінуў сведчанне абуджанага да дзеяння хамства натоўпу, якое звалі справядлівым гневам рабочых і сялян:

І добра так, і люба так
Цяжкім абцасам — на гардзіны,
І добра так,
І люба так
У ботах тупаць цераз залу…

Гераізацыя працы ўспрымалася тагачасным чытачом як належнае. Сёння ж гэта — паэтычны дакумент аб рабскай працы, толькі пад сацыялістычным лозунгам:

Было чутна, як людзі стараюцца вочы самкнуць…
Спяць героі мужнай працы і не бачаць зор.
І цяпер ім, мусіць, сніцца той жа самы торф.

Ды калі паэт адыходзіў ад маштабаў сусветнай рэвалюцыі, услаўлення сацыялістычных будняў, ён рабіўся паэтам вобраза, радка, дэталі. Бо глядзеў на свет вачыма сына рамесніка, вачыма чалавека, цесна звязанага з Беларуссю. Нават трамвай яму здаецца жывой істотай:

Выпаўз апошні трамвай
І спіць на хаду, нібы конь…

Толькі вока паэта, які ўвесь час думае пра вечнае, пра жыццё і смерць, магло ўбачыць:

Ціха цягнуцца калёсы,
Ды ўсё роўна мерцвяку.

Славіў рэвалюцыю, блізіў прывід, які доўга блукаў па Еўропе, а душой паэта адчуваў чорнага чалавека, як і Сяргей Ясенін. Ці быў гэты чорны чалавек з адпаведнай савецкай установы, ці

спадручны лёсу, не мог адказаць паэт. Дый думкі адганяў гэтакія, бо быў членам ЦВК БССР, членам-карэспандэнтам АН БССР, рэдактарам часопіса «Штэрн». Таму і неадумная ўпэўненасць:

Можа, нехта ў мяне
Будзе ноччу страляць,
Але хіба са мною
Сустрэнецца куля?

І сустрэлася. І савецкай была. І адліта была рабочым, якога ў вершах узносіў паэт. (Памятаеце верш Мікалая Гумілёва: «Пуля, им отлитая, просвищет / Над седою, вспененной Двиной, / Пуля, им отлитая, отыщет / Грудь мою, она пришла за мной»?) І зорка (штэрн) лёсу не памагла.

Але паэзію не забілі. Паэзія Ізі Харыка засталася. Як кожнага сапраўднага паэта Ізі Харыка трэба чытаць у арыгінале. Ды бальшавікі забівалі і паэта, і мову. Мёртвы паэт і мёртвая мова не страшныя ніякой ідэалогіі. Халадзее нутро ад двух несумяшчальных слоў — мёртвая мова.

Беларускаму чытачу асабліва прыемна чытаць словы любові паэта яўрэйскага народа да Беларусі:

Я знаю цябе, Беларусь, як пальцы свае і далоні,
Апоўначы нават змагу пазнаць твае сцежкі крывыя.
І мяккі, пявучы заход, палаюча-смольны сасоннік,
Бярозы у снежнай імжы, і рэкі, і тракты сівыя.

Гэтак можа сказаць чалавек толькі пра роднае яму. Трэба нарадзіцца на зямлі, любіць яе па-сыноўску, каб убачыць, як «Дарогай прабег маладзік…». А як гэта па-фламандску важка, па-беларуску асязальна напісана: «Дойны статак па вымя ў траве…»

Паэт Ізі Харык блізкі і свайму яўрэйскаму чытачу, якога ён чаруе непаўторным гучаннем ідыш, і беларускаму, які бачыць сваю Беларусь вачыма яўрэйскага паэта.

Паэт Ізі Харык імкнуўся зазірнуць у наступнасць. Яго турбаваў і лёс роднай мовы, і лёс паэзіі, і сваё імя. Пра гэта ў радках, па-майстэрску перакладзеных Рыгорам Бярозкіным:

Век настане такі:
                    ўсім на зайздрасць вякам,

А ні я, а ні ты — будуць іншыя там…
Ноч за ноччу мінае, дні ідуць чарадой.
Калі што застанецца, дык наш неспакой.

Калі што застанецца, дык вецер, які
Нас узносіў у будучыя вякі.

Застаўся неспакой паэта Ізі Харыка. Застаўся і вецер, які круціў ветракі спадзяванняў паэта Ізі Харыка. Засталося слова паэта Ізі Харыка, якое сваёй віртуознай вытанчанасцю і ўзнёслай важкасцю ацаляе ідыш, грэючы гарачымі вуснамі паэзіі. Засталіся мары паэта Ізі Харыка.

Мы першыя цагліны закладалі,
І кожны ў мур цаглінай лёг жывой…
Мы ўсе да болю ў сэрцы смуткавалі
Аб пары крыл мяцежных за спіной.

Мяцежныя крылы спаліла полымя рэвалюцыі, якое раздзьмухваў паэт. Анёльскія крылы бальшавікам па пераконанні не належыць мець. І жывыя цагліны не сагрэлі халодны мур.

Вопыт вавілонскае вежы ўжо аднойчы быў.

Чытайце Біблію…

*1993*



# Хаім Мальцінскі

Хаім Мальцінскі да канца дзён заставаўся яўрэйскім паэтам, пісаў на ідыш, калі большыня яўрэйскіх пісьменнікаў добраахвотна-прымусова забылася на сваю мову. Гумар і задзірыстасць трымалі яго ў цяжкія хвіліны. Малады Мальцінскі прынёс у БелАПП (Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў) ката з белымі лапамі й заявіў: «Ніякія вы не БелАПП, вось сапраўдны белап». І пасадзіў ката на стол старшыні.

Ваяваў. Пры штурме Берліна быў цяжка паранены ў нагу і застаўся інвалідам. У 1948 годзе арыштаваны ў Бірабіджане за «спробу прадаць Далёкі Усход ад Уладзівастока да Чыты амеры-

канцам». І парторг батальёна Мальцінскі як не месяц начаваў на парашы ў турме. Яўрэй, ды яшчэ без нагі, не мог знайсці сабе месца на савецкіх нарах. Ордэны Айчыннай вайны 1-й і 2-й ступені, Чырвонай Зоркі, медалі не давалі права на камфортны начлег.

Калі наважыўся ў 1970-х гадах паехаць да дзяцей у Ізраіль, мусіў падаць заяву аб выхадзе з шэрагаў кампартыі. У Саюзе пісьменнікаў на сходзе камуністы не выключылі аднацэхоўца. Падалі справу ў райкам, бо без выключэння з партыі Мальцінскі не мог паехаць у Ізраіль. У райкаме таксама ўгаворвалі: як гэта франтавік, ардэнаносец хоча ў варожы свет?! Усё-ткі ўгаварыў — выключылі.

Зайшоўся Мальцінскі да Навума Кісліка і спытаўся, ці мае што выпіць. Кульнуў кілішак і выдыхнуў: «Мір із геворэн грынг», што значыць — «мне зрабілася лёгка».

Я шмат перакладаў Мальцінскага, Хаім быў частым госцем у мяне дома ў Менску і ў Вушачы ў маёй мамы. Жартавалі мы, бывала: «Як прыходзіць дзядзька Хаім, сустракаем дружным хаем».

Гэтыя радкі пісаліся на ад'езд Хаіма Мальцінскага:

Быў камуністам верным дзядзька Хаім,
Канкрэтна трызніў абяцаным раем.
Зняважаны прыйшоў дамоў з вайны —
Пра камунізм дасніць спакойна сны.

Ды ў роднай партыі суровы гнеў,
Яна ані даруе ашуканцам.
На мыліцах адступнік не паспеў
Прадаць Далёкі Ўсход амерыканцам.

А мог бы, і за добрыя грошы. Ды партыю не ашукаеш, яна пільная сваімі органамі.

*2004*

# Заір Азгур

Заір Азгур, не шкадуючы сябе, працаваў і працаваў. Скульптар, дасціпны суразмоўца, цікавы мемуарыст. У майстэрню ягоную было шчасцем зайсці. Як у музей. Аж сам маэстра здаваўся жывым манументам.

Мне прыйшлі было радкі:

Ад успамінаў пацяжэла кайстра,
Ды не зважае на гады свае,
Ідзе —
І помнікі вітаюць майстра.
А ён між іх сябе не пазнае.

Пра яго працы хадзілі і вясёлыя анекдоты. Так турысты з Каўказа дзівіліся: «У Менску мы ўпершыню ўбачылі Леніна сядзячага. І такі ён сумны-сумны. Ці не каецца, што заварыў кашу».

Гэта пра помнік Якубу Коласу перад Камароўкай.

У Заіра Азгура была цяга да партыйных ідалаў.

Азгур першы ўбачыў мэту,
І стараўся шчыра дабрадзей
Ідаламі партыі планету
Засяліць замест жывых людзей.
Ідалам лягчэй з цяжкой задачай —
Дабудуюць камунізм, няйначай.

Неяк сумнавата Васіль Быкаў зазначыў: «Азгур нарадзіўся камуністам, а памёр яўрэем». У майстра хапала натхнення на ўсіх.

Лепшыя творы будуць яшчэ доўга жыць і жыць…

*2004*

# Іскра ў попеле

Драўляны дом па вуліцы Энгельса. Халодная падлога, бо зямля блізка. На вакне ляжаць спелыя, сакавітыя, як лаянка балаголаў, ігрушы. П’ём нейкае саматужнае віно. Не слабое й не моцнае. Хаім Мальцінскі, якому радзіма аддзячыла ссылкай за тое, што дайшоў да Берліна, страціў нагу, ды я, вастракадыкі й стогачупрынны малады паэт, у высокага, танклявага, спакойнага настаўніка школы рабочае моладзі й яўрэйскага паэта. Мне гаспадар дае самую большую ігрушыну. Мне ў выдавецтве даверылі перакласці кнігу вершаў Рыгора Рэлеса. З гэтае кнігі, якая выйшла й называлася «Бяроза пад вакном», пачыналася мая перакладчыцкая праца, праца, якую аднойчы Васіль Быкаў назваў дужа смалістай.

Вершы й разважлівыя, роздумныя, й па-яўрэйску хітравата-мудрыя, паэмы з незабытым местачковым каларытам. Перакладаць было й цяжка, бо першы раз цалкам кніжку рабіў, і ўсцешна, бо пазнаваў і сваё мястэчка. Вушача й Чашнікі — радзіма Рыгора Львовіча Рэлеса — геаграфічна й душэўна блізкія.

Быў у рукапісе верш «Іскра ў попеле», ён тагачаснай рэдактуры на чале з загадчыкам, якога мастак Юзаф Пучынскі называў варшаўскім афіцыянтам, здаўся крамольным. Відаць, адчулі, што гэта была не марксісцкая іскра ды яшчэ ў попеле. Знялі, каб не азмрачаць ясныя й пільныя вочы цэнзуры, якая цнатліва, быццам тая прасталытка, называлася Галоўлітам. Пра аплату й казаць не варта. І аўтару й перакладчыку заплацілі па стаўках меншых, чымся плоцяць машыністкам за перадрук. Яшчэ ва ўмовах канспірацыі па-бальшавіцку насіў аўтар сувеніры ў шкляной упакоўцы памянёнаму загадчыку рэдакцыі. Але кніга выйшла й разышлася. Не залежалася. Хоць, як цяпер разумею, рабіў я з сырадою парашковае малако.

Потым перакладаў падборкі вершаў Рыгора Рэлеса й паэмы. Што называецца, ужыўся ў паэтычны свет, на жаль, апошняга яўрэйскага паэта ў Беларусі. А Беларусь жа была фактычна калыскай яўрэйскай (на ідыш) паэзіі. Паколькі класікі нарадзіліся ў нас, дык шмат якія беларускія словы ў першародным выглядзе абжыліся ў ідыш.

Рыгор Рэлес з’ездзіў усю Беларусь, запісваў, збіраў рэшткі мудрасці свайго народа. Пісаў пра яўрэяў, якія ацалелі ад навалы.

Дый сам паэт цудам ацалеў ад перадваеннага й пасляваеннага хапуна. Можа, таму, што прымаў, як яўрэі кажуць, лыжку нематы. І яшчэ ратаваў Рыгора Рэлеса гумар. Відаць, і ў пекле жыве гумар. Забылася чорнае, страшнае, засталося ў памяці вясёлае. Смех праз слёзы, ці што. Помняцца Чашнікі, помняцца землякі, якія таксама ратаваліся гумарам.

У першыя гады савецкай улады суддзёй зрабілі шаўца Мэндэле. Першы суд. Судзяць канакрада. Новапрызначаны суддзя пытаецца:

— Як па старым кодэксе, колькі гадоў?

— Чатыры.

— А скідкі ёсць?

— Парабак.

— Два гады далоў.

— У Чырвонай Арміі служыў.

— Яшчэ два гады скінуць.

— У арцель уступіў першы.

— Яшчэ два гады далоў.

Атрымалася шэсць гадоў скідак. І ў выніку вынеслі рашэнне: цяпер, калі ўкрадзе збрую, будзе ў разліку.

Праўда, пазней, калі савецкая ўлада ўбралася ў пер'е, як кажуць, судзілі прасцей. Суд над Ізі Харыкам са смяротным прысудам доўжыўся 15 хвілін. Нарасло савецкіх прафесіяналаў.

А чаго варта лірычна-камічная навела пра чашніцкага ваданоса. Калі Рэлес вучыў Біблію, дык Майсей уяўляўся яму гэтым ваданосам. Насіў ваду з крынічнай Вулянкі. За суды (два вядры) браў пяць капеек. Калі яму аднойчы гаспадыня хацела заплаціць 3 капейкі, аднёс ваду назад і выліў у рэчку. Палічыў за абразу вады. Па ваду йшоў задворкамі, каб не сустрэць каго з пустымі вёдрамі. Шанаваў беларускую традыцыю. Бо сустрэць каго ці перайсці дарогу з пустым — на няўдачу. І наадварот, ад рэчкі з поўнымі вёдрамі йшоў па галоўнай вуліцы. З поўным — на шчасце, на шанцаванне. Ваданос дужа клапаціўся пра рэчку. Глядзеў, каб не пралі бялізну, каб дзеці купаліся ўніз па плыні. І калі пабудавалі каля ракі фарбавальню, прыгразіў, што спаліць яе. За гэта пасля прыпісалі яму правы ўхіл. Нейкі час працаваў на каланчы ў пажарнай. А пасля змушаны быў уцякаць ад рэпрэсіі як праваўхіліст.

У тых жа Чашніках цырульнік некага галіў і на момант пакідаў яго намыленага, каб паглядзець у вакно, якая ўлада на вуліцы.

У Віцебску, як малады журналіст, часта сустракаўся Рэлес з Пэнам — настаўнікам Шагала. Неяк Пэн расхвалявана заўважыў пра свайго вучня:

— Я яго вучыў-вучыў, а ён малюе чорт ведае што.

— І сапраўды, мазня, — захацеў падтрымаць старога майстра Рэлес.

Ды Пэн адразу ўзарваўся:

— Не ўздумай так называць!

Рэлес не здаваўся:

— У яго й людзі й каровы лётаюць.

Пэн працягваў:

— Ты пішаш як усе. У цябе ў вершах могуць людзі лётаць?

— Могуць. Гэта ж у вершах, — пасмялеў малады паэт.

— Дык вось у Шагала яны лётаюць на палотнах. Вуха да гэтага прывыкла, а вока не прывыкла й ніколі не прывыкне, — скончыў гаворку Пэн.

Альбо як Пэн хадзіў на базар. Усе яго ведалі. Віцебск да вайны быў хатнім горадам. Пэнавы творы выразалі з газетаў і на сцены вешалі. І, зразумела, прадавалі яму ўсё віцяблянкі за сімвалічную цану. А Пэн, прыйшоўшы з базару, дзівіўся:

— І чаму гэта скардзяцца, што на базары дарагоўля? Усё дужа танна…

Ахвотна распавядае Рэлес пра літаратурнае жыццё з яго рэвалюцыйным пафасам.

Ізі Харык сабраў маладых ударнікаў у літаратуры. Перад гэтым на нейкай гарбарні сказалі напісаць хто што можа, бо будуць вызначаць па жанрах. І напісалі, й сабраліся. Адзін чытае: «Шумеў лес. Па лесе бегла дарога. Па дарозе ехала фурманка». Значыцца, празаік. Другі чытае: «На суку сядзела варона. Лісіца пытаецца ў вароны…» Байкар. Самы нервовы пачынае лямантаваць: «Рукі мае, ногі мае, вочы мае…» Заключаюць:

— Лірык.

— Абы не поц! — сказаў той пакрыўджана й сеў.

А нехта заяўляе, што ён на беларускай мове напісаў, і чытае:

Іду па цаху я,
А вецер лютуе.

Андрэй Александровіч, пралетарскі паэт, зазначае, што паэт піша адразу на некалькіх мовах.

Слухаю Рыгора Рэлеса пра ўдарнікаў у літаратуры, а сам прыгадваю, як у сярэдзіне шасцідзесятых гадоў на Усесаюзнай нарадзе маладых да нас (мы з Міхасём Стральцовым былі па-маладому захмялелыя) падышла карэспандэнтка з ГДР і запыталася, ці ёсць сярод удзельнікаў нарады паэты й празаікі з заводаў. Мы скіравалі яе да Івана Шальманава, бо ён напісаў «Цагельню».

[…]

Гарэзлівы ўспамін у Рэлеса пра Цодзіка Даўгапольскага, якога я застаў і запомніў старым класікам яўрэйскай літаратуры. Малады Цодзік Даўгапольскі ў творчае камандзіроўцы ў мястэчку ходзіць і лічыць зоркі ў небе. Падыходзіць стары яўрэй і пытаецца:

— І чым вы гэта займаецеся?

— Паэзіяй, — адказвае Даўгапольскі.

— А што такое паэзія?

— Ну як вас завуць?

— Мота.

— Ну вось: Мота, сюкай у балота.

— І гэта паэзія? Дык і я так сумею. Ну, а як вас завуць?

— Цодзік.

— Цодзік, сюкай у лазні.

— Дык не гучыць.

— А ты падстаў тазік.

Дарэчы, калі я сказаў неяк Рэлесу, што ён яшчэ маладзявіта выглядае, ён мне адказаў: «Цодзік Даўгапольскі ў такіх выпадках удакладняў — пераніцаваны на трэці бок».

І вясёлыя й сумныя гісторыі, здарэнні, прыгоды. Усё гэта можна пачуць ад Рыгора Рэлеса, рупнага ахавальніка агменю яўрэйскага.

І калі я даволі-такі не мякка запытаўся ў Рыгора Рэлеса, чаму ён не едзе ў зямлю абяцаную, адказаў мне яўрэйскі паэт прыпавесцю свайго старога знаёмага: «Бачыш гэтую шафу, яна стаіць, а пачні рухаць — рухне».

Выпіўшы чару гаркоты поўную, аж з коптурам, Рыгор Рэлес захаваў мудрую ўсмешку і нават насмешку з сябе. Гэта й трымае яго.

Як іскра ў попеле, паэзія Рыгора Рэлеса. Не дае прыску роднае мовы астыць.

*P. S.*

У чарнавіках знайшоў я гэтую «Іскру». Перачытаў, і не магу даўмецца, што ў ёй крамольнае знайшлі ў Галоўліце.

Іскра ў саломе —
жах.
Полымя ўспыхне кудлата.
Сотні па сцежках, шляхах
З торбамі пойдуць па хатах.

Іскра ў снезе —
вада,
Кропля, што знаку не кіне.
Дзьмухне вятроў валадар —
Белай лядзяшкай застыне.

Іскра ў прысаку —
тлен,
Нельга атухлай сагрэцца.
Бо адпалымнеламу —
тлець,
Двойчы агню не ўзгарэцца.

Гэтая іскра —
ўспамін,
Робіць далёкае блізкім.
Ёй полымем цемру не змыць,
Ды ўсё-такі гэта —
іскра.

*1993, 1998*

# На палях вечнасці

Ён любіў жыццё апантана, да самазабыцця. Любіў, нібы наганяючы той час, які забралі ў яго вайна і суровыя дарогі лёсу. Любіў, нібы адчуваючы, што шлях да роднага парога не бясконцы. Любіў жыццё і за тых сяброў і таварышаў сваіх, якія недасталіся дадому.

Ён быў дасціпны і непаўторны і ў вясёлым застоллі, і на афіцыйным пасяджэнні, і ў сваіх артыкулах, сваіх выступленнях, сваіх рэпліках і заўвагах.

Ён валодаў амаль забытым у апошні час у нашым літаратурным асяроддзі ўменнем радавацца ўдачы калегі, паплечніка, рабіць чужы поспех уласнай радасцю. Адзін радок, слова, нечаканая рыфма маглі зрабіць пагодным настрой яго, найтанчэйшага знаўцы і, я сказаў бы, дэгустатара паэзіі. У ім арганічна, па законах таленту спалучаліся прызнаны мэтр і захоплены юнак, эрудыт і вастраслоў, даследчык і публіцыст.

Ён увесь час быў апанаваны нецярпеннем адкрываць, нават газету, часопіс, зборнік паэзіі раскрываў па-асабліваму нервова, па-ранішняму, з чаканнем шчаслівага адкрыцця. І ён умеў адкрываць новыя таленты, новыя імёны. У яго была лёгкая рука на гэта, а галоўнае — душа. Умеў і наноў прачытаць паэта, драматурга, празаіка.

Менавіта ён адкрыў Аляксея Пысіна і для чытачоў, і для самога ж паэта, адкрыў як самабытнага майстра, як непадобную асобу.

Помніцца, з якім непрыхаваным гонарам паказваў ён ліст ад Міхайлы Грамыкі, у якім старэйшына нашай літаратуры дзякаваў крытыку за шчырыя словы, за тое, што прыўзняў века над ягонай труной, труной забыцця і маўчання.

Калі выйшла пасмяротна кніга Уладзіміра Лісіцына, які нарадзіўся ў канцлагеры ў 1944 годзе, — не чакаючы, пакуль наша крытыка прымерыцца да непрывычнай паэзіі, у «Литературной газете» быў надрукаваны ўзнёслы і дасведчаны артыкул прызнанага крытыка.

Рыгор Бярозкін.

Ён першы парушыў тыя каноны і тую традыцыю, па якіх на крытыка пазіралі як на чалавека, што недалюблівае паэзію, слабавата ў ёй разбіраецца, а павучаць любіць, бо прафесія вымагае.

Артыкулы Рыгора Бярозкіна гучалі як паэтычныя старонкі, напоўненыя гневам і спагадай, мудрасцю і віртуознай дасканаласцю кожнага слова.

Настолькі была магутнай слава крытыка, настолькі магічнай была думка ягоная, што многія паэты за асабістую крыўду лічылі і схаваць гэтае пачуццё не маглі, калі іх не заўважаў Рыгор Бярозкін. А калі ўжо сам Бярозкін сказаў колькі станоўчых слоў, яно ўжо і з сабратам па пяру можна было здароўкацца не першаму. Ну, вядома, такое было ўласцівей маладым.

Не магу забыцца, як наш любы і не пакрыўджаны ўвагай Пятрусь Броўка ў дні свайго 70-годдзя па-юнацкаму расчулены быў і адкрыта радаваўся артыкулу Рыгора Бярозкіна, надрукаваным пра яго ў «Вячэрнім Мінску». А Рыгор Саламонавіч са звычнай яму іроніяй казаў, што пасля «Вячэрняга Мінска» на вуліцы і нават у пад’ездзе больш вітацца сталі — паславуцеў.

Ён паспеў яшчэ напісаць артыкул да двухтомніка Аляксея Пысіна і рэцэнзію для выдавецтва на выбранае Еўдакіі Лось.

Апошнія гады перад цяжкой хваробай сваёй Рыгор Бярозкін шмат пісаў, выступаў — спяшаўся выказаць хоць трохі свайго запаветнага, выпакутаванага, яшчэ развітваўся з людзьмі, з жыццём, якое да яго жорстка ставілася.

Назаўсёды застанецца жывы для мяне Рыгор Саламонавіч. Крыху закінутая назад галава. Губы, яшчэ сцятыя на момант пасля чарговай зацяжкі цыгарэтай, пасля чарговага глытка радасці ад знойдзенага ў некага слова ці вобраза. Вось рука зрабіла лёгкі рух з непагаслай цыгарэтай, і са здзіўленай пасмай пабялелай чупрыны пераплятаецца пасма дыму. Вочы крыху прыжмураныя, насмешлівыя і разгублена-даверлівыя. Зараз ён скажа нешта раптоўнае, бярозкінскае.

Тое, што паспеў сказаць Рыгор Саламонавіч, што засталося ў кнігах ягоных, і жыве, і жыць будзе і ў нашчадках нашых.

*1981*

# А пісаць Грыша ўмее...

— Дык, значыць, малады чалавек, на чым мы спыніліся ў мінулы раз? — спакойна і сур’ёзна запытаўся следчы.

А на плячах у маладога чалавека толькі што былі капітанскія пагоны, на грудзях — баявыя ордэны высокае пробы. І прысудзілі яшчэ дзесяць год. Прычым адным з асноўных злачынстваў значыліся ўцёкі.

А ўцёкі былі такія. Вайна падыходзіла да Мінска. Урад і партапарат уцякалі першыя на чале з Панамарэнкам. Вязняў мінскае турмы вывезлі ў лес пад Чэрвень. Перад тым як замесці сляды (сталінскі афарызм быў у дзеянні: «Есть человек, есть проблема, нет человека, нет проблемы»), прапанавалі крымінальнікам адысці ўбок. Ён быў палітычны. Не выйшаў. Калону энкавэдысты расстралялі з кулямётаў і, каб не было памылак, у давяршэнне закідалі гранатамі. Калі заціхлі стрэлы і выбухі, малады чалавек (чуў, як у яго каля вуха прасвісталі дзве кулі) падняўся. На супрацьлеглым канцы крывавага капца ўбачыў жывога. Бег да яго сапраўды ашалеўшы. Гэта быў паляк аднекуль з-пад Брэста. Паляк запытаўся: «То тэраз до немцув?» Малады чалавек заківаў галавой: «Не могэн, естэм жыдэм». Паляк удакладніў, ці абрэзаны ў яго, малады чалавек адказаў, што так. Абняліся і разышліся ў розныя бакі.

У бліжэйшым ваенкамаце малады чалавек сказаў, што ён з мясцін пасялення. Стомлены паджылы капітан цвёрда перапыніў: «Нічога я не чуў. Забудзься, што казаў мне. Вось табе прадпісанне, ваюй!» І ваяваў. І даваяваўся.

У Патсдаме забралі ваеннага карэспандэнта Рыгора Саламонавіча Бярозкіна. А перад чарговай пасадкай (першы раз пасадзілі ў 37-м) паспеў атрымаць водпуск, пабыць у Маскве. Не ўцярпеў і ў Мінск наведаўся да сваіх, да родных. А нехта даў сігнал куды трэба. Кажуць, што, магчыма, той, пра каго пісаў пасля лагераў Рыгор Бярозкін як пра здольнага, той, што ў апошнія гады жыцця найлепшага крытыка ў п’яных прыступах даводзіў, быццам Бярозкін у скрынках з-пад артылерыйскіх снарадаў развозіў на фронце сіяністкую літаратуру. Бярозкіна няма, а гэны пільны пляткавоз нешта іншае пра некага хрыпіць.

І рэдка каму магло прыйсці ў галаву, хто першы раз бачыў, чуў Бярозкіна, што прайшоў гэты дасканалец думкі і слова кругі не Дантавага, а яшчэ страшнейшага савецкага пекла. Бо ў часіны добраахвотна-прымусовага зліцця моў асобу «опрометчивую» кіравалі ў апраметную.

У канцы 50-х гадоў добры лёс звёў мяне, маладога і аблавухага паэта, з мэтрам, крытыкам, чыйму слову давяралі, нават позірк чый улавіць стараліся. Асабіста мне ўсмешка Рыгора Саламонавіча, ягоны зварот да мяне — Грыц, не кажучы ўжо пра нейкую пахвалу, значылі ўсё. Нядаўна Навум Кіслік прыгадваў, як на вяселлі ў мяне мама мая пераказвала мае словы і Бярозкіну, і яму: «Вось калі Рыгор Бярозкін скажа, што я паэт, тады ўсё!» І не раз мы сыходзіліся з Навумам на думцы, што трэба было запісваць за Бярозкіным ягоныя жарты, хохмы, выдумкі, выхітрыкі.

Не хацеў і ніколі не казаў Рыгор Саламонавіч пра ўсё чорнае і пакутнае. Свой боль, свой жах насіў у сабе. І міглівымі іскрынкамі жартаў і досціпаў адганяў змрок напамінаў і ўспамінаў. Хоць такім чынам уцякаў ад цяжару, які цісну ў на ягоную ўражлівую, поўную дзяцінасці душу. Таму і засталося ад Бярозкіна шмат вясёлага і задзірыстага, светлага і радаснага, бяскрыўдна-хітрынкавага і глыбока роздумнага.

І ўсплывае, выплывае, наплывае ўсё Бярозкінава, што грэе, радуе, журботіць.

Заходжу ў «Неман». Рыгор Саламонавіч праглядае рэдакцыйную пошту. Разгарнуў «Знамя юности». Там асвятляецца тыдзень саду. На развароце шапка: «Пасадзіш дрэва — друг вырасце». Заядлы курэц завівае колькі пасмаў дыму за вуха і працягвае ўслых: «Пасадзіш друга — дрэва вырасце». Захінае газету.

У Віцебску па бруку падскоквае матацыкл. Матацыкліста абдымае, каб не ўпасці, дамачка. Бярозкін кінуў сваім пашчупаковаму пукатым вокам і патлумачыў: «Перед употреблением взбалтывать». Якраз стаялі мы непадалёку ад аптэкі.

У выдавецтве «Беларусь» была пышнагрудая, з асабліва крутымі клубамі бухгалтарка. Трапна, як тую кнігу, назваў яе Бярозкін «метательницей бедра». Плоцева і неабразліва.

І, не ўсміхнуўшыся, казаў: «Заходжу я ў майстэрню да Азгура, а на галаве ў Сакрата Кірэенка».

«…Мангол ажаніўся з яўрэйкай. Нарадзіўся сын. Назвалі Чынгіз-хайм».

Аднаго паэта ён празваў Хрыстапор Калун.

«…Раманіст, узяўшы сэрца ў далонь, як гранату, заплюшчвае вочы і кідаецца на дзот, а адтуль куры фур-фур-фур…

…Пэўным крытыкам уяўляецца, што паэт-трыбун і спіць у трыбуне…»

Сустракаю на радыё Рыгора Саламонавіча. Захоплены: «Чытаў новыя вершы Ігарка Шклярэўскага. Хлопчык вершы з паветра робіць. Гэта ж не пасляабедзенны трагік Вінакураў».

Уяўна глыбакадумнага крытыка ахрысціў Бярозкін вундэрхундам. Гэта пра яго распавядаў. Ідзе згорблены, нібыта пуды мудрых думак нясе. Бярозкін у яго і пытаецца, чаму такі замаркочаны, такі заклапочаны? Адказвае, што дужа хвалюе яго лёс паўднёвав’етнамскай паэзіі.

Любіў Бярозкін распавяданне нібыта Рыгора Няхая. Гэта пародыя на псеўдапартызанскую гераіку: «Сяджу ў стозе сена. Вакол немцы. Выпіць хочацца, а ў кішэні ні рубля…»

Пра адну літаратурную даму казаў, што ў яе вочы, як у назіральніцы Равенсбрука…

Паказваў у асобах сцэну ў Саюзе пісьменнікаў, калі было шмат сакратароў. Прыдумаў псіхалагічна дакладна. Прымаюць у Саюз былую партызанку, журналістку з «Советской Белоруссии».

Шамякін кажа пераканаўча, што ведаў мужа пісьменніцы, рэдактара абласной газеты, сапраўднага камуніста. Трэба прыняць.

Брыль на правільнай рускай мове гаворыць коратка, падтрымлівае прапанову.

Мележ кажа, што нічога не чытаў паступанткі, але неяк ішоў ля «Сінтэтыкі», пачынаўся дождж. Стаў пад дашак магазіна. І тут паступантка сказала, што ёй дужа падабаюцца «Людзі на балоце». Гэта сведчыць пра тонкі густ пісьменніцы. Трэба прыняць.

Панчанка маўчыць, нервова змагаючыся з самім сабой.

Ставіцца на галасаванне пытанне аб прыёме ў Саюз пісьменнікаў. Усе падымаюць рукі. Панчанка з-за пляча паўдалані…

Пра паэта, які ценем хадзіў за Куляшовым, — двухспальны халадзільнік…

існаваць, таго паветра, тых пахаў. А мастака праследуе пах цёплага пылу на летніх вясковых вуліцах. Між іншым, прыйшло мне на памяць, як баяўся Шагал сустрэчы з родным Віцебскам, бо ён жа пранёс свой Віцебск праз усё жыццё. Ягоны, шагалаўскі, Віцебск застаўся жыць на палотнах.

У Барыса Заборава свая Беларусь. Ён баіцца яе страціць, убачыўшы не такой, якая жыве ў ім. Можа, яшчэ прымешваецца боязь выйсці з паўсядзённага творчага рэжыму, бо на першых паравінах мастак працаваў да дваццаці гадзін у суткі.

І ў дзень нашае апошняе сустрэчы пахла маладою парыжскай вясной. Паўсюль прадавалі канваліі. Каштанавыя скроні Люксембургскага саду пабялелі ці, можа, цёпла пасняжэлі. У магазінах, як у нас бульба, толькі ў каляровых капронавых сетках, ляжаць дровы. Настолькі ашчадна акуратныя, ажно і паліць іх шкада. Адчуваю, што рука б не паднялася кідаць у агонь. Дарагая такі вячэра ў камінаў.

На тратуарах упокат ляжаць клашары ў вяльможных позах. Цягнуць проста з горла сапраўднае французскае віно. (Гэта ў нас пра гегемонаў хадзіў жарт: «Бач, Вася, за рубель дзве, а п’ецца, як за рубель сем».) На адным занадта ж дарагая па нашых мерках дублёнка. Клашары — гэта людзі, якія падчас пакінулі фамільныя замкі і вілы і абралі вольны чын жыцця. Яны пачцівыя, ненахабныя. Калі іншы раз і папросяць, дык з пачуццём уласнае годнасці, з панавітымі манерамі. Гэтак мне патлумачыў Барыс.

На рагу вуліцы катрынка. Здаецца, што і не скранулася з месца з мінулых стагоддзяў. Кот і сабака на роўных — на павадках. Катрыншчык круціць катрынку, ці ручны млынок, каб змалоць зярняты кавы на кубачак вясёлага настрою. Мім, нібы акцёр, што ажыў з нямога кіно. Катрынка пастаўлена на дзіцячую калясачку, на вазок з гумовымі коламі. У нас у раёнах бабулі і дзядулі, выгадаваўшы гарадскіх унукаў, на такіх вазках возяць на імправізаваны, звычайна каля аўтобуснае ці чыгуначнае станцыі, базар яблыкі, моркву, агуркі, вішні.

І сёння мне гучыць катрынка. Вярэдзіць сум і леціць радасць.

Барыса (часцяком казаў мастак пра гэта) разам з пахам пылу на летніх беларускіх вясковых вуліцах хвалюе і паўночны беларускі пейзаж. (Мне па-асабліваму чулася прызнанне сябра,

бо радзіма мая — якраз паўночная Беларусь.) І калі ў Англіі нешта падобнае (без сілуэтаў прамысловасці і горада) убачыць, зашчыміць сэрца. Нават рускі лясны пейзаж не дзейнічае на мастака так, як родны, беларускі.

Слухаў я Барыса Заборава і міжволі думаў, колькі паразгублялі мы талентаў, аддалі іншым народам, іншым культурам. Ці гэта чэрствасць, ці няўменне ацаніць дадзеную нам Богам набыць? Шчодрасцю гэта ніяк нельга назваць. Няўжо Беларусь толькі і будзе рабіць, што раскідваць скарбы свае і карміць выхадцаў сваіх настальгіяй?

Чытаю заключныя словы аўтаэсэ Барыса Заборава, а мне гучыць ягоны голас: «Ужо даўно Парыж перастаў быць для мяне пустэльняю. Кожны дзень набліжаў мяне да тых рамантычных карцін, якія маляваў я ў маладосці…»

Дзве сустрэчы ў Парыжы. Хай Бог дасць, каб трэцяя была ў Вушачы. Пыл на летніх вясковых вуліцах там пакуль яшчэ не радыеактыўны…

*[1993]*

# ГАЛАСЫ НЕЎМІРУЧАГА ХОРУ

## Хаім Нахман Бялік

### ЗАБЛУКАНАЯ ЗОРКА

Зорка-заблуканка, ты глядзіш звысоку,
асвяці мне, зорка, шлях сляпы ад змроку.

Не! Пакут пякельных я ўжо не баюся,
ўшчэнт жыццё стаміла, выпетрала ў скрусе.

Я — жабрак убогі, ёрмавы вучомнік,
кутнік дому бедных, вечны валачомнік.

Бацька — крык выгнання, маці — чахласць плахі,
кія не баюся, торба мне не ў страхі.

Бо жыццё жахае ў лютасці ва ўладзе,
без цяпла надзеі, без святла ў паглядзе.

Ціснуць тлен і мукі — ім не скажаш «хопіць»,
як свінец, цяжкія, лёгка ў цемру топяць.

Быццам той сабака, не ўцячэш галодны,
горам навязаны на ланцуг халодны.

Вызвалі душу мне, зорка, ад адчаю,
ад чужое працы, ад чужога краю.

Дык свяці, каб зніклі змрокавы аковы,
я ісці рашучы, я чакаць гатовы.

Знаць каму, калі ўжо ноч мая прыстане,
колькі Бог паслаў мне цемры ды блукання?

Будзе час, і з ночы гляну небу ў вочы,
каб святло пабачыць і пагляд прарочы.

І пакуль іскрыцца кропля слёз на веі,
напаі святліста цвет маёй надзеі.

Даўнюю іскрынку сэрца захавала, —
тое, што не згасла, загарыцца дбала.

Рэштка сілы зноўку запульсуе ў сыне,
і яна дарэшты ў барацьбе загіне.

*1898*

## МОЙ САД

Можа, маеце ахвоту
паглядзець мой дзіўны сад, —
дык глядзіце, калі ласка,
вунь стаіць на ваш пагляд!

Не сурочыць бы — адзіны,
вам кажу, ў мястэчку сад,
рад у ім, багатадрэвым,
ліст лісту, як брату брат.

Добра мыцца ў чыстых росах,
выкупацца ў прамянях.
Дрэвы ўсе стаяць з пладамі,
як з малымі на руках.

Яблыні пачырванелі,
цяжка долу гнуць сукі,
грушы — гляньце ж вы на грушы —
змоўклі вунь, — каб гук які.

Вішні з чорнымі вачыма
зыраць, быццам байструкі,
па-зладзейску… ну, а слівы —
слівам чырванець з рукі…

Персікі — сама пяшчота! —
пухлыя, гараць цішком,
рыхтык шчокі пятнастоўкі
з сарамяжлівым пушком.

Сад багаты, дзякуй Богу,
і крамяны, і ў красе!
Ў ім плады — каб не сурочыць —
на гатункі й густы ўсе.

Сад люблю — няхай не ўбачыць
вока дрэннае яго, —
як жыццё, кажу вам, як бы
бацьку роднага свайго.

Скажам, з’еўшы за абедам
смажаніну ды булён,
летам я глыбей заб’юся,
лягу ў засень, як у сон —

ну, напрыклад, тут, пад грушай
пад старой… як не мільён
розных птушак на галінах,
чорт не ўспомніць іх імён —

гм… ну, скажам, канарэйчын
спеў, і свіст, і перабой
сыплецца на галаву мне
разам з сонечнай мукой…

Толькі дрэва скаланецца —
разбягуцца хто куды
мышкі — плямы залатыя,
ўвесь я ў золаце тады…

Зыркацінкі ў вочы лезуць,
блытаюцца ў барадзе
козытна — спытай, навошта?
Так, лухта лухту вядзе…

Соўгаюцца, кпяць з яўрэя,
ўспых ім любы ці ўскалых?
Слізгаюць па мне, блазнуюць —
чарцяняты, цьфу, каб іх!..

Бачыш, як смуга трасецца,
кожны ліст дрыжыць прытым, —
здасца, што мяне люляе
нехта ў крэсле залатым…

Блізка так кавалкі неба,
хоць рукамі іх вазьмі…
І дрымота ціха, мякка
саладзее пад вачмі…

Так вось, мякка ды салодка…
Подум на юрлівы лад…
Скажаце — каб не сурочыць —
дзякуй Богу, гэта сад!

Угадайце пра намер мой?
Ледзь тамуз міне, хутчэй
я хачу, як Бог дазволіць,
груз у сада зняць з плячэй…

Перш з дазволу дрэваў вішні
я здыму, палову так
на гарэліцы настой,
рэшта будзе цукру ўсмак.

І настоіцца вішнёўка —
пі ды саладзі душу…
О, на персікі ля плота
не забыцца папрашу…

З тых вось персікаў, пабачце,
толькі ім паспець лацно,
з іх мая варэнневарыць —
так, шыкоўнае яно!

На такое варта глянуць,
хоць бы позіркам уцяць…
Персікі, як журавіны,
ад сіропу аж зіхцяць…

Так, шыкоўнае, сказаў я,
можаце паверыць мне;
бо мая ўжо, дзякуй Богу,
разумее, што ў цане…

І раздзел наступны — слівы…
Дайце мне сказаць, аднак —
робіцца са сліў павідла,
а павідла — райскі смак!

Двое сутак прэе ў печы
у пузатым сагане
з пернасцю, і дабаўляюць…
ды не гэта важна мне…

Смакаццё, кажу вам, можна
хлеб намазаць хоць няшмат…
Ну, а зараз — пані бэра!
Проша, груша, ў марынад…

І народ у рух прыходзіць —
сківіцы трашчаць, ілбы
запацелі, — гэту працу
не адрозніш ад гульбы.

І цяплеюць нават свечкі,
грэюцца ў сваім святле,
бліскавічна палымнее
лямпа на маім стале…

Языкі, як брытвы, рэжуць,
слова колецца смялей,
і да картаў пераходзім,
і вядзе лагода рэй.

Выйгрыш, пройгрыш, шум, ды чую
я адзін у гамане:
ціха грукаецца дрэва
ў ваканіцы да мяне:

«Гаспадар! вой, як мне цёмна!
Гаспадар! вой, горка мне!
Вецер б’е маім жа голлем,
б’е мяне і долу гне…»

Карты одумна тасую,
а душу скрабе жуда,
і ўздыхаю: «Бедны, бедны
сад мой, як цябе шкада».

## У КАГО ДЫК ЖОМЧУГ…

У каго дык жомчуг
ды золата ў злітках,
а ў каго — хвароба
у кашэрных нітках.

Тры дачкі я маю,
ім гадоў хапае,
мужыкоў ім трэба.
Вось бяда якая!

Мужыкоў ім трэба.
Дзе шукаць іх, людцы?
Каб у што надзецца,
каб у што абуцца.

Сёння хоча кожны
(сумны ці забаўны),

каб, пералічыўшы,
даў пасаг наяўны.

Жаніхі, вядома,
адыходзяць з носам:
сорамна й балюча
размінацца з лёсам.

Пачастунак ходзіць —
той жа ўсё да змоўку —
да стала ад шафкі
і да шафкі зноўку.

Пачастунак — гэта
ўсе тры апельсіны,
жаніхоў знаходзіць
спосаб мой адзіны.

Ды яшчэ арэшкі
ў сподку на паспытак…
Маладосць праходзіць,
як у сне набытак.

Маладосць праходзіць…
Радасць сумам стала.
Да маёй старэйшай
сівізна прыстала.

І тры апельсіны
ўсе гніюць, хоць трэсні.
Збэшчана сурвэтка,
есць арэшкі плесня.

Лёс каму дасць жомчуг
ды золата ў злітках,
а каму — хваробу
у кашэрных нітках.

Тры дачкі я маю…

## ТЫ ХОЧАШ...

Ты хочаш ружу, а ў руку
калючка хоча ўпіцца;
калі табе не шэнціць, брат,
дык лепш не нарадзіцца.

Хто б мог такое змергаваць,
што доля ляжа ўлогам,
што гэтакі благі канец
наканаваны Богам…

Няма ні грошы, ні бацькоў,
бяда ў дугу сагнула,
і я вучыўся на шаўца
ў латунніка Саула.

Бог даў яму аж дзвюх дачок,
даў Перале ды Мейту,
красуня першая, як свет,
другая — канец свету.

Як Перале пабачыў я,
аж знепрытомнеў чула.
І думаў толькі дзень і ноч
я пра дачку Саула.

І вось аднойчы ён пачаў:
«…даўно я назіраю…
…ты птах самотны… без гнязда…
…табе хачу дабра я…

Ёсць, значыць, чыстая ў мяне…
яна не без пасагу…
дзяўчына… ды навошта тут
разводзіць доўга брагу!..»

І слухаць мой не стаў адказ,
быў спех і паняверка.
Заручыны… гарэлка ды
разбітая талерка…

Памылка можа быць малой,
ды выесць селязёнкі.
Па Перале я сох, а мне
уперлі Мейту ў жонкі.

Так ашукаў мяне Саул,
аж пацукі прыціхлі.
Ну, маладзён, да скону дзён
здыхай ля гэтай здыхлі!

Калі табе не шэнціць, брат,
не трэба й нараджацца!
Альбо павесіцца зусім,
каб маладым застацца!

## З НІЗКІ НАРОДНЫХ ПЕСНЯЎ

### 1

Ніхто не адкажа,
адкуль узялася
ды ўсіхнія вочы
адразу забрала.

Дасталася з нейкай
далёкай краіны,
з вачамі сардэчнымі,
светлым аблiччам.

Уся, як з павеву,
і рада патанчыць —
малое мястэчка
святлом заліла ўсё.

Зрабілася ўтульна
ў ляску маладзенькім,
смяюцца кусты,
дрэўцы ў скоках трасуцца.

Двух дзён не мінула,
як бедныя хлопцы
спакойна ўжо спаць
не маглі, як бывала.

Трох дзён не мінула,
як вэрхал узняўся,
ўзгарэліся спрэчкі
у жонак з мужамі.

2

І шэпчуць хусцінкі,
і вяжуць панчохі,
бароды ўздыхаюць
спалохана трошкі.

Бацькі ўжо не могуць
заснуць ні на волас:
Бог ведае толькі,
што стала з зяцямі…

Ды ў нейкае ранне
яна як растала.
І чорнаю птушкай
жалоба зляцела.

І мятлічак пырхаў
у кветках вясёла —
раптоўна ён знік,
як раптоўна з'явіўся.

Зрабілася сумна
ў ляску маладзенькім,
каб хто засмяяўся,
каб хто звесяліўся.

Дзён колькі дажджыла,
і слота настала;

і вочы згубілі
агонь свой і полыск.

3

І хлопец сядзіць
і чытае газету…
Нявестаў наноў
жаніхі пакахалі.

Сямейнікі ціхія,
як галубочкі,
прымлела ля жонак
зяці пазяхаюць.

І гулкія вулкі
аціхлі, ўцямнелі,
дзе ўсе маладзелі
ў парыўным запале.

Бацькі па начах
сны знаёмыя бачаць;
старыя прымоўклі —
ні вохаў, ні крэкту.

Наогул — прасвету,
адна асалода,
галёкаюць пеўні
ды мэкаюць козы.

* * *

Мора цішыні шпурляе
таямніцы, змоўкнуў свет;
за млыном не заціхае
цёмнай рэчкі мокры след.

Чарната начы гусцее,
цені йдуць, нібы з гасцей;

толькі моўчкі ў мора цемры
зоркі падаюць гусцей.

І калі ўвесь свет змаўкае,
сэрца рвецца з цішыні,
адчуваю: ў ім крыніца
б’ецца ў яснай чысціні.

Сэрца мне таемна кажа:
ссохне сноў благіх палын,
зорка ўпала з неба — гэта
не твая — павер, мой сын!

А твая яшчэ трывала
ззяе ў светлай варажбе;
вочы падымі — міргае,
суцяшэнне шле табе.

І калі ўвесь свет замоўкне,
буду я сачыць маю
зорку, свет адзіны маю
свой, што ў сэрцы я таю.

*1901*

## НАД РАКОЮ ВЫРАСТАЕ…

Над ракою вырастае
піхта гонкая, густая.
У вадзе пытае сум свой:
як яна закончыць шум свой?

Вырасла, зірнула ў далі,
леты коцяцца, як хвалі;
сонца стыне, глухнуць спевы, —
шчабятушкі птушкі, дзе вы?

У святліцы неадхлынна
ўжо даўно стаіць дзяўчына
і ў люстэрка ўсё пытае:
як свой сум закончыць мае?

Вырасла, зірнула ў далі,
леты коцяцца, як хвалі.
Слёзы льюцца, як залевы.
Заляцанцы хлопцы, дзе вы?

## ПАЛА КРОПЛЯЙ СЛЯЗІНА…

Пала кропляй слязіна — ўвабрала святло
ў міг адзіны,
холад сэрца напоўніў: як і не было
цёплай маёй слязіны.

І, збяднелы, пайду я, й сябе мне шкада,
забядую —
а не кляў яе й чэрствы, не ўкрала з гнязда
ў сну былінку слабую.

А з галечай куды йсці, куды, мне няўцям.
На пасцелі
яшчэ слязіну знайду я, вам палову аддам,
рэштка сэрца заселіць.

Вера мне паспрыяе ўваскрэснуць са дна,
бо жывая;
сонца ў небе адно, песня ў сэрцы адна —
іншае не бывае.

*1902, Адэса*

## НЕДЗЕ ТАМ…

Недзе там цвіце ў спагадзе
дрэва фігавае ў садзе;
і дзяўбе, і не пытае
фігі пава залатая.

— Пава, ў край ляці зялёны:
недзе там мой наРачоны,

знойдзеш — не кажы нічога,
а звяжы й нясі жывога!

Як не маеш белі, нітак,
з ім сталкуйся ў цішыні так:
ты скажы яму, я раю,
што ад смутку паміраю.

Сад, скажы, цвіце, шалее,
а дарога ў сад травее,
яблыкаў салодкіх многа —
зласаваць няма нікога.

Жаніху яшчэ скажы ты,
што слязьмі пасцель заліта,
ўноч гарыць пярына смела
пад маім крамяным целам.

Тайну выдай, каб сурочыць, —
аж два тузіны сарочак,
шоўкам вышытыя ўзоры —
пад вянец якраз уборы.

Пух ды скубленае пер'е
у падушках — на давер.
Маці з бабкай шчыравалі,
мне адзежню зрыхтавалі.

Мой ляжыць залататканы
вэлюм і вянец чаканы,
і пасаг, і я гатова, —
што ж ён, дурань, ані слова?

*

— Веер, вэлюм, пух, — ласкава
пачала нашэптваць пава, —
нарачоны сёння ўночы
слёзы гэты ўчуць захоча.

Разам з весткай твой усё-ткі
пакажу партрэт салодкі, —
з-пад зямлі жаніх гарачы
хоць на качарзе прыскача.

Ад дарогі неастылы
скажа: «Свет мне ўвесь нямілы,
што мне скарб, адзежня тая!
Ты адна мне дарагая.

Што мне пух, падушак тоні —
на тваім мякчэй улонні,
валасы твае шаўкамі, —
гэты скарб вякі шукалі.

Не паддайся паняверцы,
вер, што я агонь у сэрцы
для цябе адной трымаю,
да мяне прыйдзі, чакаю!»

*

Ноч зірнула чарнавока,
пава паплыла далёка,
у яе ў нябёсах мілы,
мне ж, вядома, нахлусіла.

Дзень за днём лятуць завеяй,
я дасюль жыву надзеяй;
сем нябёсаў у блакіце,
дзе каханы мой, скажыце?

## АДЛЯТАЕ ПАВА ЗАЛАТАЯ

Адлятае пава залатая.
— У якую ты ляціш мясціну?
— Я лячу праз акіян вялікі…
— Жаніху ці занясеш вясціну?

— Добра, прынясу табе пісьмо я,
твой жаніх напіша, поўны ласкі:
«Тысячу цалункаў і вянчанне,
калі Бог дазволіць, пасля Пасхі…»

## ТЫМ НЕ ВЕР…

Тым не вер, што абяцаюць
гэтак шчодра зоркі.
Ашуканцы і манюкі,
іхны вырак горкі.

Над маёй страхою зорка
мне даўно міргала,
золатам маю надзею
з неба асыпала.

Абяцала мне сусветы,
мёду поўны келіх.
Я й сягоння жалю варты,
за душой каб шэлег.

Як табе не сорам, зорка,
кпіць з майго намеру
Гожа?.. Хіба ж гэтак плацяць
за надзею й веру?

Тым не вер, што абяцаюць
гэтак шчодра зоркі.
Ашуканцы і манюкі,
іхны вырак горкі.

## АХІНІ КРЫЛОМ З ЛЮБОЎЮ…

Ахіні крылом з любоўю,
будзь сястрою і матуляй,
галаву ўлюляй — гняздоўе
маіх модлаў беспрытульных.

Шчырасці даверу грудзі,
выдам тайну ўсіх пакутаў:
маладосць ёсць, кажуць людзі,
дзе мая і кім пачута?

Патлумачу не ў сакрэце,
што душа згарэла ўранні:
кажуць, ёсць каханне ў свеце, —
што такое ёсць каханне?

Верыў зорам — ашукалі,
быў і сон — ды знік, нябога, —
і цяпер у свеце жалю
у мяне няма нікога.

Ахіні крылом з любоўю,
будзь сястрою і матуляй,
галаву ўлюляй — гняздоўе
маіх модлаў беспрытульных.

*1905*

## ПІСАЛА ЛІСТ...

Лісток мне паслала,
а ў ім напісала:
«Усё, што душа мая так любіла,
усё, што пялегваў мой дух,
што было для мяне крыніцай жыцця,
ідэалам і верай —
ці гэта, сябра сэрца майго,
душа маёй душы,
ці ўсё гэта сном было?

Ты забыўся? Не, ты не можаш!
Не, не стане адвагі забыцца навек
тое, што душэўнасць дало
дыханню адзінага жыцця нашага;
што адно запаліла сонца
ў небе над нашымі галовамі,

тое, што ліла залатая мроя
на дух, які нас паяднаў.
Не, рука не адважыцца вырваць кветку,
пасаджаную Богам самім у нашыя сэрцы».
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І ў ззянні святла,
што ліецца праз вакно ў мой пакой,
зноў паўстаў перада мной
светлы вобраз яе;
гэта яна, ва ўсёй яе чысціні,
лунае, як лёткая птушка,
лёгкая на крылах ветру,
карона святла і дачка зіхацення,
створаная са святла, каб свяціць.
Вось ейныя вочы, падобныя на галубоў,
маўчання поўныя,
са зрэнкаў якіх ціха-ціха
свеціць свету святло,
святло дабрыні, душэўнае чысціні.

І ў ззянні святла
немым дакорам перада мной
вочы ейныя паўстаюць цяпер,
дакорам сваім мяне паляць,
глядзяць і моўчкі пытаюць:
«Мой любы, няўжо гэта ўсё
было адно насланнём і сном?»

Не, мая беззаганная, я кахаў
і кахаю цябеісціва;
нават калі пакінуў цябе —
дык гэта зрабіў з-за кахання:
не мусіш быць ты маёй сяброўкай,
занадта святая, каб побач са мною быць;
станься богам мне і анёлам.
Маліцца буду табе й слугаваць,
будзь мне святою памяццю,
ззяй мне ў раскошы сонца,
міргай мне з высокай зоркі,

кліч мяне з біцця майго сэрца,
дрыжы ў дрыгценні маёй слязы.
Не! Табе слугаваць Бог стварыў мяне!

Слёзы ночы, стогны мае,
сэрца майго біццё, дыханне маё
і апошнія са сноў маіх
будуць ахвярамі табе
да майго апошняга дня.

*1900*

* * *

Хацелася б ведаць, якою
Смерць будзе мая? Ці душа
Пакіне цела нямое
Са стогнам чорным употай?
Ці выплюну я душу
З разгневанай жоўцю, з гаркотай?
Магчыма, яна пральецца
Жамчужынаю-слязою
І будзе дрыжэць, зіхцецца
Пасля мяне пакаленні
У сэрцы чужым чыімсьці,
Ў кароне ў чужым найменні?
Ці суджана ёй заўчасна,
Як матыльку, трымтліва
У полымі свечкі згаснуць?
Ці будзе душа мая, быццам
Крыўдлівая свечка памалу
Згасаць, раставаць, прамяніцца
Перад вачыма бяссоння
І прападаць раптоўна
У чорным глухім прадонні,
Дзе мёртва, звуглела й нема,
Дзе вечна не будзе паветра,
Дзе ўжо й не прысніцца неба?..
Ці суджана мне знікненне

Спакойна сустрэць жывому
У папяровым саяне,
У кніжнай шафе, у цішы,
Дзе валтузню нахабна
Ўва мне ўсчыняць шэрыя мышы,
Разносячы, што па сіле,
Паўсюль мае белыя косці.
А я на сваёй магіле
Стаяць буду і сірочай
Малітвай сябе памінаць?..
А можа, з дарогі збочыць
Смерць прагная і памру я
Зусім нецікава, будзённа
У ноч зімовую злую,
Згубіўшы сябе ў завею,
Ля плота, як той сабака,
Галодны, я акалею?
Ніхто мяне не абароніць.
Апошні мой стогн і праклён
Далёка вецер пагоніць…

## СХІЛЕНАЯ ГАЛІНА

Галіна да агароджы схілілася й дрэмле,
Як я — бязвінны…
Плод долу ўпаў, — і што мне да кораня,
Да роднай галіны?
Плод долу ўпаў, як цвет, і толькі жывыя
Лісты з іх страхам!
Бура гняўлівая іх неўзабаве развее
Бяздомным прахам.
Адно будуць ночы ды жах, дзе ніколі
Не ведаць мне заспакаення,
Дзе льга будзе біцца мне ў змроку
Галавой аб каменне.
Панура буду гібець у шатах
Зялёнай вясной да скону —

Дубец адубелы, бясплодны й голы,
Між цвету й звону…

## МАЛЕНСТВА

У новых птушак — новыя песні,
А шум у шатах не месціцца весні.
Ці гэта вайна, ці з ёй падабенства?
Пытацца не мае часу маленства.

А можа, у гэтым уся перамога?
Раз так — уставай, нас чакае дарога!
Раз так — ані сорамна нам, што старэем!
Раз так — не старэць яшчэ нашым надзеям!

Пакінь іх, няхай нагуляюцца ўдосыць.
Гульня іх прыспіць, як пеўня куросадзь.
Нам светлае бачыцца будзе і ўпрыцем,
Мы іхнюю люльку люляць яшчэ прыйдзем.

А як падурэюць — забудуць на цацкі,
Наладзяць нам баль Саламонаў, па-царску.
Пакуль мы сустрэнемся ўрэшце за чаем,
Дык разам вясёлы гарох пакачаем.

Калі ж час чаканы падкрадзецца ўпотай,
Сваю галаву мы акрыем з ахвотай,
На макаўку голую ўжо не знянацку
Пральецца кпіністы посмех юнацтва.

*1897*

## ВЕЧНЫ ДОМ

Хіляцца моўчкі дубы да маёй галавы:
рупся пад намі ў імгле гніць, чалавек жывы!

Сцішаны ўзгорбак зямлі, дзе надтрунне ўстае,
здыме халоднай рукой немачы ўсе твае.

Тысячакротна штодня паміраеш, а тут
толькі аднойчы памры й спачывай ад пакут!

Моўчкі падзелім цябе, паспрыяе пясок:
чэрві палову з’ядуць, рэшту возьмем на сок.

Зводу не мае жыццё, поўнае тлуматы, —
будзеш у кветцы цвісці ці станеш дрэвам ты.

Жыцьмеш ва ўсім, ды адно мусіш да нас прыйсці,
ты не пазнаеш сябе, тленны, у новым жыцці.

Гэтак маўчалі дубы мне аб глухой труне.
Нават надтрунні без слоў шкадавалі мяне.

*1900*

## АПОШНЯЕ СЛОВА

### Прароцтва
*Урывак*

Вам паслаў мяне Бог, ён убачыў,
што вы пачалі задыхацца;
Ён пабачыў — вы занепадаеце і гніеце;
парахнееце з кожным днём;
і апусціліся рукі,
і сіла ўцякла, —
і Бог пра вас узгадаў,
і прывёў Ён мяне да вас.

І сказаў мне Бог:
«Ярмо зацяжкое — больш не магу!
Ідзі, вырві з іхняга сэрца «Ой!»
і выбі з іхніх вачэй слёзы!
І цяжкой хай будзе сляза і горкай,
і гулкім хай будзе апошні стогн,
так — каб зямля задрыжэла
і стрэсла з сябе ўсё зло».

Я паслухаўся і пайшоў,
мой шлях быў выбіты камянямі,
і толькі ў жылах маіх гарэлі
адно пачуццё й адно жаданне;
я адчуваў: вы сярод змей,
а з вамі, побач — нікога, нікога…
Боль ваш прыспешваў, я меркаваў:
вы прагнеце маёй дапамогі.
Бог сэрцам мяне пакараў:
такое яно, што за іншых баліць,
што курчыцца ад чужой пакуты
і згарае ад пекла чужога…

Я адчуваў — вам цяжка, я думаў —
вы разумееце ўсё і пакутуеце,
і ціха давіцеся слязамі,
і шукаеце выратавання,
і моліце аб суцяшэнні, —
і таму дарагая хвіліна кожная…

Я іду, я спяшаю —
разам з вамі крывёю сцякаць,
буду ле́чыць раны,
і перавяжу іх, і выліжу кроў,
калі трэба.
Я суцешу і буду маліцца,
плакаць й будзіць —
і не дам апусціцца на дно!

Я іду, я спяшаю — радасць нясу,
нясу вясціну аб суцяшэнні;
Бог духам мяне блаславіў, —
і я душу вам сваю падарую…
Я акуты мужнасцю Богам,
што горы перастаўляе і не стамляецца,
гнуцца спіне маёй не дае,
злу ў вочы глядзець дазваляе;
і Бог падарыў мне мову,
грымотную, як звон, —
калі вы з каменя — яна з жалеза,

калі вы з жалеза — яна са сталі…
Як толькі з’яўлюся я —
вы адразу паўстанеце!

І вось стаю каля вашых дзвярэй —
і мову ў мяне адняло;
нада мной ноч цяжкая навісла —
іскра мая, святло маё згаслі:
вы сустрэлі мяне кпінамі й ганьбаваннем,
вы перада мною бразнулі дзвярыма —
Боскую руку адпрэчылі
і Боскае слова высмеялі…
У мяне і словаў няма больш для вас —
вам і Боская мова чужая й мёртвая.
Я слова прамовіў — дык яго
адным подыхам вецер знёс;
я толькі аднюткае слова сказаў — а яно
ўпала іскрай на дол
і ўмомант згарэла,
і ад яго толькі попел застаўся.
Я крыкнуў з адчаю —
і крык паляцеў снарадам,
як гром пракаціўся
ў распагоджаны сонечны дзень
і пацэліў вам проста ў сэрца, —
і вырваўся ўрэшце праклён!
І хлынулі слёзы залевай!..
Ды гора мне! Плач ваш фальшывы!
Ніхто яму болей не верыць,
ані Бог, ані я, ні вы самі…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І сказаў гэтак Бог мне:
«Апошні раз выгукні «Ой!»,
стогн разняволь у астатні раз,
каб задрыжэлі горы й даліны;
набярыся жоўці й скажы:
«Чуйце, глухія, чуйце:
настане дзень — я выкачу сонца
і свет святлом залію,

але вы застанецеся рабамі,
і, слепакі, з дочкамі і сынамі
туды-сюды мітацца будзеце тысячы міль
і прагнуць й вымольваць промень…
Ды паўсюль вас сустрэне смех,
куды ні прыйдзеце — вы спазніліся».

Я раскрыю радовішча сілы й жыцця
і дні радасці пачну раздаваць;
вас адных будзе мучыць смага,
ды я высушу вашу крыніцу;
і, ссохлыя, з дочкамі і сынамі
грукацца будзеце ў дзверы чужыя,
ніцма прыпадаць да зямлі,
над чужымі крыніцамі гнуцца,
і прагна выцягваць вусны,
і смягнуць, прасіць крапліну.
Але замкнёныя вашы крыніцы.

Я пашлю жыццядайны дух,
што, як божая раса, асвяжае
і пазначае дарогі новыя,
да новых нябёсаў, ды вы
стахлыя будзеце, як салома,
і раса вас не наталіць.
А вы? — вы цвілець будзеце й прахнуць,
і калі ў вас з мінулых часінаў
яшчэ застануцца іскры
духу, пачуццяў і веры,
журботны ўздых, гарачая сляза, —
я іх адбяру адно за адным.
І спустошацца вашыя сэрцы:
не будзе ў іх смаку, ні паху,
ані мілосці, ні мары…

І жытло вашае асірацее,
і цягацца будзеце ў стоме,
у свеце чужым чужакі,
жабракі пры багатым застоллі,
і, стоячы ля парогаў чужых,

агаляць будзеце вашыя раны
перад чужымі вачыма,
і руку ў дрыготцы цягнуць,
і лісліва выпрошваць дробязь,
пераняўшы жаргон пабірушак.
Ды, вымольваючы грошы,
будзеце жыць на грашы…»

І цяжкім зробіцца вам жыццё —
даўгою ноч, і аніводнай зоркі…
І стогн ваш вецер знясе,
і голас ваш Бог не ўчуе…
І абрынецца страшэнная нэндза,
як вялікі й жудасны грэх;
і вы прагнуць будзеце смерці,
і смуткаваць па жыцці,
ды Бог вам адмовіць у іх.
І лютымі будуць пакуты.
Нават уласнае сэрца
скаргам вашым верыць не будзе.
Захочаце падняцца нарэшце,
уздыхнуць на поўныя грудзі —
і не зможаце. Гэта — магіла,
ды закапаныя вы там жывыя.
Гэта пекла вогненнае,
якое ніколі не скончыцца —
бо гэта пекла без смерці…

І сказаў мне Бог:
«Цяпер пайдзі да ганчара,
і купі гаршчок,
і бразні яго штомоцы,
і выгукні гэтак голасна,
каб усе пачулі:
«Гэтак і вы будзеце струшчаны!» —
і не кажы больш нічога,
не плач, не крычы,
адвярніся і анямей.
Дзень ідзе, ён прыходзіць, прыходзіць…»

* * *

А святло здабыў я не з пустэчы,
не па спадчыне зляцела з высяў,
выбіў са скалы сваёй скупечай,
з сэрца свайго высек.

Гэту іскру, ясачку надзеі,
што ў скалы, сваячцы паднябесся,
не выпрошваў і не краў нідзе я,
бо яна ўва мне ўся.

І калі пад молатам нядолі
рухне сэрцава скала ў нясноту,
іскра пырсне ў вока мне міжволі,
з вока ў рыфму — з лёту,

з рыфмы ў вашы сэрцы, каб журбою
разгарэцца даць нарэшце вершу.
І сваёю плоццю ды крывёю
я агонь завершу.

*1902*

## Мошэ Надзір

### ЯК СТАЎ РАБІН ЭЛІМЭЛЕХ...

Як стаў рабін Элімэ́лех
Поўны радасці, што келіх,
Як вясёлы стаў наш Элімэлех,
Камізэльку зняў з плячэй,
Капялюш напяў глыбей,
І паслаў ён па двух скрыпачоў.

Скрыпачы скрыпелі чула,
Аж смычкі перасмыкнула,
Вой, скрыпелі скрыпачы будзь здароў!

І як рабін Элімэлех
Пасвятлеў, што новы шэлег,
Весялейшы стаў наш Элімэлех,
Ён зрабіў абрад хаўдолі
Разам з шамесам Нафтоляй
І паслаў па цымбалістаў двух.

Цымбалісты зацымбелі,
Аж цымбалы засмылелі,
Вой, цымбелі, аж з кручкоў нагнулі дуг!

А як рабін Элімэлех
Звесялеў, што на вяселлях,
Як зусім звесялеў Элімэлех,
Скінуў свой халат зразмашша,
Крыкнуў: «Марнасць — доля наша», —
І паслаў па двух бубначоў.

Бубначы як забубнелі
Так, што зоры забуйнелі,
Вой, бубнілы забубнілі слухачоў!

## Міхл Гардон

### ЧАРАЧКА ГАРЭЛКІ

Неяк раз да майго дзеда сват прыйшоў,
Каб зашлюбіць маму з татам з добрых слоў.
Вой, без толку гаманілі да святла,
Покуль чарачка гарэлкі не прыйшла.

Дзякуй чарачцы — адбыўся гэты шлюб,
Дзякуй чарачцы — стаў тата маме люб.

І гулі ўсе нашы госці, як чмялі,
І гарэлку ноч вялікую пілі.
І музыкі гралі так, што свет прыціх,
І скакала мама ў цэнтры лепш за ўсіх.

Дзякуй чарцы — быў на маме тата мой,
Нарадзіўся я, і стала свята, вой!

А калі мяне абрэзалі, калі,
Дык гарэлку цэлы дзень тады пілі,
Мазалтоў мне шчыра зычылі да слёз,
Каб на рабіна вялікага я рос.

Дзякуй чарцы — быў на маме тата мой,
Нарадзіўся я, і стала свята, вой!

## З народнага

### ТУМБАЛАЛАЙКА

Хлопец-зух стаіць наўзбоч,
Хлопец думае ўсю ноч:
Як такую ў жонкі ўзяць,
Каб пасля не шкадаваць.

Тумбала, тумбала, тумбалалайка,
Тумбалалайка, тумбалалайка,
Тумбалалайка, грай, балалайка,
Грай самайграйка, граіста грай.

Што, дзяўчына, на мяжы
Без дажджу расце, скажы,

Што палае і ў мароз,
Рвецца, плачучы без слёз?

Адкажу тваёй лухце —
Камень без дажджу расце,
І ў мароз гарыць мілосць,
Бо мілосць мацней за злосць.

Сэрца рвецца і без слёз
Плача, каб не бачыў лёс.
Ды не думай і не стой.
Ты, здаецца, хлопец мой!

Тумбала, тумбала, тумбалалайка,
Тумбалалайка, тумбалалайка,
Тумбалалайка, грай, балалайка,
Грай, самайграйка, граіста грай!

# Іцык Кацнельсон

## ЗДАРЫЛАСЯ НАГОДА

Сумных гісторый многа.
Крыўды сплывуць, як трэскі.
Я раскажу спачатку:
Жыў-быў кароль яўрэйскі.

Люлінькі, птушанятка,
Знік маладзік між хваль.
Знікла маё каханне,
Плача мой боль, мой жаль.

У караля, вядома,
Мелася каралева,
Мела свой вінаграднік,
Мела малое дрэва.

А на галінцы ў дрэўца
Высілася гняздзечка.
Птушка жыла ў гняздзечку,
Птушка грэла яечка.

Люлінькі, птушанятка,
Знік маладзік між хваль.
Знікла маё каханне,
Плача мой боль, мой жаль.

Смерць караля забрала,
Жонку яго забрала.
Вецер зламаў галінку,
Птушкі ў гняздзечку не стала.

Дзе той мудрэц, што можа
Зоркі злічыць уночы?
Лекар дзе той, што сэрца
Вылечыць мне захоча?

Люлінькі, птушанятка,
Знік маладзік між хваль.
Знікла маё каханне,
Плача мой боль, мой жаль…

## РАЗЫНКІ І МІГДАЛ

У сінагозе ў закутку
Сядзіць удава самотна,
Калыша сынка-малютку,
Спявае яму пяшчотна:

«Як вырасцеш, мой яўрэйчык,
Запомні спеў, верабейчык.
Разынкі і мігдал у песні
Табе пасалодзяць лёс.
І ты свой занятак песці.

Спі, вінаград падрос…»

# ЦЯЛЯТКА

Апавітае вяроўкай,
Едзе на базар цяля.
Птах ляціць высока ў небе.
Шэпча з коламі зямля.

У густым калоссі вецер
Пагубляў свае ключы,
І шуміць, шуміць, бяздомны,
Цэлы дзень аж да начы.

Божа-Божа, Божа-Божа,
Божа-Божа, Божа-Божа!

«І чаму ты стаў цяляткам? —
У цяля спытаў дзяцюк. —
Не рыкаў бы, стаўшы птушкай,
Хоць варонай, меў бы сук».

Беднаму цялятку лепей
Зразумець бы з дзецюком:
Узляціць, хто мае крылы,
Каб не быць паслугачом.

У густым калоссі вецер
Пагубляў свае ключы,
І шуміць, шуміць, бяздомны,
Цэлы дзень аж да начы.

Божа-Божа, Божа-Божа,
Божа-Божа, Божа-Божа!..

# Ізі Харык

## АДДАНАСЦЬ
*Урыўкі з паэмы*

### *Раздзел першы*

### Мы — маладая гвардыя

Яснага неба шыр і прыволле.
Смуткам асеннім поўняцца вочы.
Цягнецца, стогне фурманка паволі.
Ці дапаўзе яна? Ці дасклыгоча?

Морыць пясчанай нудой дарога.
Вёрсты — і вёрсты — і вёрсты
Скразныя.
Хочацца ўзняцца — валіць знямога,
Цела дзяўчыны знямела ные.

Хутка мінулі гады вучобы.
Вечара не забыць выпускнога.
Хопіць, мястэчка, быць вузкалобым!
Тут для размаху прастору многа!

Зараз жаданне адно ў дзяўчыны —
Працы аддацца душой і целам.
Хіба мястэчкі знікнуць павінны?
Сумна вам, гнёздам асірацелым.

Можа, мястэчкі, як козы ў прадвесне
Пасвіцца будуць, думаць не варта?
Чуеш, фурман, гэту знаеш песню:
«Мы маладая гвардыя…»?

## Чарнавокая цыганка

Мястэчка пройдзеш за хвілін пятнаццаць.
Ссівелі вуліцы ад палыну.
Тут ёсць над кім уволю пасмяяцца.
— Ты на яе зірні!
— Паслухай…
— Ну?

Хацела глыбы ўзваліць на плечы.
Прасіла ў глуш паслаць — усім на зло.
З чаго пачаць?
І з кім пачаць, дарэчы?
Тут бур’яном усё пазарасло.

Павесіла яна аб’яву.
З ранку
Мястэчка рагатала:
— Справа швах.
Глядзі на чарнавокую цыганку, —
Задумала малых вучыць танáх…

Калі ж закрыўся у мястэчку хедар
І сам меламед беспрацоўным стаў,
Навек знікае нешта — кожны ўведаў.
А прыйдзе што?
Маўчаў, чакаў праяў…

## Хлопчык вучыцца ў школе

«Мудрасць кемлівых бачыць сама,
Не са школы прыходзіць старая».

Бацька супраць: вучыцца — дарма.
Маці супраць: вучыцца — дарма.
Сын здзіўлёна на іх пазірае.
Бацька: «Не!»
Маці: «Не!»
Крыўдна стала, прасіўся ў мамы.

Ноч праплакаў малы ў кутку,
Сам у школу прыйшоў нацямку,
Як і ўсе, стаў вучыцца таксама.

### Калі яна ідзе па вуліцы

Варта выйсці ёй,
Ёсць для кпін прычына
Вуліцы усёй:
— Хлопец ці дзяўчына?

— Вывучыць дзяцей, —
Здзекуецца голас, —
Розум карацей
У яе за волас.

— Нашы справы дрэнь.
Тут зусім не смешна…
Скажа: «Добры дзень», —
І пакрочыць спешна.

## *Раздзел другі*

### Маладосць, маладосць

Маладосць, маладосць,
Як світанне…
Што за радасць з табой ісці!
Ёсць запал малады ў мястэчку,
Ды не знойдзе дарогу ў жыцці.

Рукі дужыя, маладыя
Зачакаліся лепшай пары.
У местачковыя сцены глухія
Б’юцца нават бадзягі-вятры.

Сход сабрала,
Без лішняй дакукі

Гаварыла пра ўсё пакрысе.
І здалося: працягваюць рукі
Да яе, як да маці, ўсе.

Ёй хацелася, каб разабрацца
У падзеях змаглі яны.
Пра машыны казала.
— Працы… —
Быццам хлеба,
Прасілі сыны.

## У дарогу

Заспаная раніца,
Святы прайшлі.
Маўкліва збіраюцца людзі.
Аблокі паўзуць па згалелай зямлі.
Вятры свае глоткі лудзяць.

Вязе землякоў у трывожны шлях
Фурманка са скарбам цяжкая.
Збянтэжана шэпчуць,
З тугою ў вачах
Глядзяць, як дарога знікае.

Свет вабіць шырокі,
Як смачны пірог.
Усе хатулі павязалі.
Здаецца: мястэчка —
Толькі парог,
Маленькі парог
Да вакзалаў.

## Добра ў Маскве

Цяпер назавём і палічым
Усіх, хто ў Маскву падаўся:
Разнік, і чатыры крамнікі,
І восем дзяўчат на вучобу.
Тры ці чатыры меладзім,
Дванаццаць здаровых хлопцаў —
На працу уладкавацца.
Паехала Дабэ-Таўстуха
Да саматужніка мужа
З усімі пяццю малымі.
І Бэйлке — да мужа (ён рускі
І ў акадэміі вучыцца).
І рабін, старэнькі рабін,
Ён едзе ў Маскву таксама.
Дадому з Масквы прыязджае
З вазамі ахвяраванняў.
А потым бесперастанку
Адно толькі ўсім і кажа:
«Як добра ў Маскве, цудоўна,
Прыемна ў Маскве між яўрэяў…»
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## *Раздзел трэці*

## У снягах

Снег падаў, рыпеў, снег рыдаў у адчаі,
З абразай рыпеў, ныў балючай журбою.
Здалося: ніхто яе не выручае
З панурай цямніцы — з глухога пакою.

Ахоўнік пад вокнамі — трэба баяцца,
Рыпіць ён настылымі ботамі зрану.
Ён ходзіць, ахоўнік, у белым вар'яцтве,
У белым вар'яцтве сівога бурану.

Маўчыць цішыня. Не галосіць палоззе.
Завеі засыпалі ўсё наваколле.
Іх двое ў мястэчку, відаць, засталося:
Яна ды буран, што паглядамі коле.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

За вокнамі — ўсё так, як многа зім,
Снег мякка падае ў далоні ночы.
Стамілася настаўніца зусім.
Трывожаць думкі.
Бессань рэжа вочы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Святло здабудзе! Дзецям данясе
Яго ашчадна у далонях кволых.
Як праца рухаецца пакрысе!
Пагасла свечка.
Поўнач беліць полаг.

Бялюткія змяркаюцца лісткі,
Ды ёй, стамлёнай, засыпаць не раяць.
І зрэнак карыя маладзічкі
У цёплым золаце вачэй ныраюць.

## Трэці ўрок

Каміны дымяць блакітначуба.
Быццам цукар, на зубах мароз.
Беласнежны дзень. Усё ёй люба.
Клас да парт, прыцішаны, прырос.

Ходзіць па пакоі ўсхвалявана.
Сонца жмурыцца каля акна.
Каб не голас стомлены, сарваны,
Верыла б: здаровая яна.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Слабне голас. Пёрак звыклы рытм.
Беласнежны дзень. Наўкол краса.

Ціха на ілбе яе адкрытым
Выступае лёгкая раса.

## Бацька застаецца бацькам

Дзеці спявалі, гулялі вясёла,
Гоман гарэзны раптам знік —
Вартаўнік пазваніў. Змоўкла ўсё навакола.
У калідоры стаіць вартаўнік.

Нехта чытае засценліва, ціха.
Чацвёрты ўрок. Дванаццаць гадзін.
Голас знаёмы.
Што гэта за ліха?..
Так,
Чытае ягоны сын…

Што вучоба?
Часу лішняя трата.
З сына вырасце ветрагон.
Толькі вось
Прачынаецца ў бацьку тата,
Падыходзіць бліжэй ён,

Слухае ён.
Дзеці-дзеці, мілыя шалапуты,
Не бярэце нічога да галавы.
Ці помніць будзеце нашы пакуты
І з якога племені вы?

Маўчыць ён і слухае,
Жмурыць вочы.
І сам бы пайшоў да іх, каб мог.
Маўчыць ён,
Слухае,
Перашкаджаць не хоча.
— Дзеткі, дай вам здароўя Бог!

## Хай будзе святло!..

Мамы, добрыя мамы ва ўсіх.
Пабурчаць таты маюць ахвоту.
Хочуць што ад дзяцей сваіх?
І чаму папракаюць іх?
Не даюць адпачыць у суботу.

Не адбіліся дзеці ад рук,
Ля ўваходу гасцей сустракалі.
Прачытаў справаздачу хлапчук,
Верш дзяўчынка — худзенькі плячук.
А бацькі іх з усмешкай маўчалі,
Потым дзеці спявалі, скакалі.

І Лейба-каваль, што аброс, як мядзведзь,
Маўчаў,
Хоць не звык ён без справы сядзець,
Няўклюдна камячыў сваю бараду
Ды раптам — падняў кулакі па пуду.

Б’е ў грудзі сябе, потым — гак па стале:
— Я б чорныя літары ведаў, але
Хіба меў магчымасць вучыцца раней?
А зараз хлапчук за мяне разумней.
Збянтэжыўся, сціх, таямніча ізноў
Ва ўласную ён бараду адышоў.

Чытаюць і слухаюць, ды спакваля
Сутонне прыйшло. А няма каваля.
І Лейбу чакалі, яго не было.
Ён з лямпай вярнуўся:
— Хай будзе святло!

Народ рагатаў: «Эх, каваль, не дурэй.
Сягоння субота, ты ж, Лейба, — яўрэй…»
І Лейба стаяў ля парога, як стаў.
Усе рагаталі, і ён рагатаў.

## Экскурсія закончана

«…Дзеці вясёлыя з нізкіх хатак,
Голыя, з парэпанымі нагамі,
Пойдзем са мною, будзе занятак,
Як бацькі жывуць, паглядзіце самі.

Сёння мы злічым дамы з дварамі,
Крамы ўцалелыя ўбачыць паспеем.
Складаць, адымаць, множыць зможаце самі,
І дзяліць вы сумееце?» — «Ўсё сумеем!»

У краўца, у шаўца пабылі. («Што за дзіва?»
Дзецям даўно гэта ўсё знаёма.)
Каля хаціны стаялі маўкліва,
Ля паўразваліны, крытай саломай.

Глядзець больш прапала ў яе ахвота:
«Мы на гэтым
Закончым экскурсію, дзеці!»
Навошта ім бачыць сумоту, галоту —
Хай растуць у легендах
аб светлым свеце.

## Адзін на адзін з сабой

Ці багацейшага ў свеце
Можна каго знайсці?..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Дзеці мае, дзеці,
Як вам ісці ў жыцці?

Гора няма ў паміне,
Адкуль жа ён — смутку цень?..
Дзеці, куды вас закіне
Заўтрашні дзень?

Мужным хай будзе сэрца,
Выкіньце з сэрца страх.

Можа, вам жыць давядзецца
Аж на Уральскіх гарах.

Можа, сустрэне Крым вас
Статкамі туманоў.
Можа, сасной акрые
Тула, нібы сыноў.

Будзеце новыя людзі,
І пра мяне
Вы праз гады забудзеце,
А мабыць, не…

Для вас усё на планеце.
Не думайце, плачу — дарма…
Дзеці мае, дзеці,
Яшчэ я дзіця сама…

## *Раздзел чацвёрты*

## Сустрэча

Калі б хто-небудзь завітаў сюды,
Жаданым быў бы і развеяў смутак.
На шыбах стынуць прыцемку сляды.
Ёй хочацца ў акно глядзець чаму так?

Мароз пацісnуў. Змерклася даўно
Гарыць ліхтар, пагойдваецца ў зморы.
Агонь сагрэў суседскае акно.
Яна ж глядзіць з халоднага на зоры.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ніхто не пройдзе позняю парою.
Ніхто ў акно не грукне ўсё адно.
Яна смяецца ціха над сабою
І расчыняе стылае акно.

Заснежаную сінь вартуе поўня.
Зіма маўчыць, ёй цёпла ля акна,

Блакіт і белата. Пакой, як ёўня.
А ў растрывожанай душы — вясна.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
— Ну пачакай, буланы-апантаны!
Так мы дамоў прыедзем без саней, —
Паволі ён страсае снег рахманы,
А шапку — на патыліцу хутчэй!

Надзейна прывязаў каня ля плота,
Мяшок з аўсом памалу развязаў.
«Мароз злюцеў. А ў вас, гляджу, ахвота
Ёсць застудзіцца. Каб далей ад спраў?
А я сюды зусім не для забавы,
Такі ўжо ў вазака нялёгкі лёс, —
Ад рання сварацца ў арцелі бабы
І загадалі мне, каб вас прывёз».

Стаіць хлапец у кажуху калматым,
Вушанку ўпарта круціць у руках.
Што ж, трэба ехаць, хоць і пазнавата.
У холад кідае?
Ці нейкі страх?

## Белае ззянне

Настылая поўня, нямая, цяжкая,
Паўнеба закрыла, прастору шукае.
І раптам адчула: яна засынае —
Пусцілася ў шлях наўздагон за санямі.

А вёрсты бягуць, зоры сыплюцца недзе,
І сосны ў сумётах храпуць, як мядзведзі.

Імчыцеся, сані, шчаслівыя сані,
Хай белыя іскры палоззе красае.

Імчыцеся, сані, ў смугу раздарожжа.
Хай гоніцца поўня, сагнацца не зможа!

Няўлоўныя сані, эх сані, эх сані!
Імчыцца прастор, вы ўсярэдзіне самі.

Зараз здарыцца ў прасторы
Казка, я вам раскажу.

Ззянне белае
І зоры.

Поўнач.
Зоры. Лес. Кажух.

Поўня больш не насядае,
Дрэмле сонная сава.
Кроў хмялее маладая —
Кругам ходзіць галава.

Стынуць белыя харомы,
І яны для іх дваіх.
— Ай ты, хлопец, ай харошы,
Нешта ты зусім заціх…

— Ай ты, хлопец…
— Ай, дзяўчына…
— Хлопец… дзеўчына…
— Ой, дзе…
Пахне мурагом аўчына.
Конь у снезе —
Ледзь ідзе.
Хай брыдзе, куды ён хоча.
Белы свет… Яны адны…
Спёка ночы.
Вочы ў вочы.
Конь стаіць… Плывуць яны…

## Дзень добры, свет!

Дарога ў маладых снягах,
Зіма плыве, як белы лебедзь.

А сонца песціцца ў палях,
Смяецца так, аж вочы слепіць.

Нябёсы ў ранішняй журбе.
Мароз прапах вінам і мёдам.
«Дзень добры, свет, паклон табе!»
Кажух, акрый тугу і одум!

Хлапец маўчыць, адно ўвесь час
Насвіствае ў журлівай зморы.
Нарэшце ўжо відаць калгас —
Дамы. Дымы. Зімы прасторы.

## Выслухайце нас

Камін гарэў, як калісьці.
Палац сягоння сабраў усіх.
І клалася цішыня залатая
На зморшчыны сцен старых,

На тлустыя, зблытаныя бароды,
На суровыя твары людзей.
А людзі цiснуліся, маўчалі,
Чакалі нейкіх падзей.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А… а… І лопнула цішыня
Ад воплескаў у імгненне.
На змрочных, маўклівых сценах
Згінаюцца, скачуць цені…

— Цішэй! Не шуміце!
(З падлогі ўстаюць пастунова.)
Не разам адразу!
Па аднаму!
Усе атрымаюць слова.

— Нас выслухайце — і нам палягчэе,
Пагутарце з намі — нам лёгка стане.

Мы не шукаем скарбаў Кашчэя
І па нябеснай не тужым манне.

Што хочам? Якая у нас турбота?
Працуем, маем і хлеб, і да хлеба.
Ды часта агорне такая самота,
Што слова жывое паслухаць трэба.

І раптам назад у мястэчка пацягне,
І сэрца ные, і сэрца смягне…
І рупіць сказаць, адагнаўшы тугу:
«Цяжка у калгасе,
Больш не магу!..»

Спрачаемся — стане лягчэй,
І адыдзе трывога, —
У спрэчках таксама свой смак.
Ды, мабыць, я гавару замнога.
Тады няхай!
Ну, прабачце!
Вось так.
. . . . . . . . .

Стамлёныя людзі сядзелі і слухалі.
Ды хіба яна гаварыла?
Толькі думала ўслых,
Што і самой бывае нялёгка ёй,
Што калі ноч белая разляжацца
Над белаю цішынёй,
Ёй хочацца — на званіцу.
І — ў звон што ёсць сілы!
Звон! Звон! Звон!
Зараз — пачнецца…
Коцяцца медныя крыкі,
Рыдаюць у вышыні.
Зараз мястэчка замітусіцца, прачнецца,
У дым апранецца і загудзе ў агні.

І вырывацца будуць,
З дамоў — вырывацца,

Дабро ў агонь пакідаюць: «Гары!»
Ратаваць будуць душы,
Самі ратавацца,
А мястэчку збуцвеламу скажуць:
«Памры!»

З балотамі
Будзе кароткі торг —
Даволі ліхвярыць торф!
І ток, абуджаючы правады,
Як цёплая кроў,
Пацячэ сюды.
. . . . . . . . . . . .
Ці, можа, таму,
Што моцна яна гаварыла,
Ці, можа, таму,
Што ноч распасцёрла крылы,
Ускочыла зала раптам,
Загула, як вулей малады.
Да яе цягнуліся людзі.
Яна ж закашлялася, схапілася за грудзі
І, бледная, папрасіла: «Вады…»

## Зваротны шлях

Шлях зваротны. Малады прастор.
Поўня — як замёрзлае азерца.
Чутна ў цішы —
Ад саней да зор —
Звон сняжынак: стукаюцца ў сэрцы.

Дык трымай мацней, рука, руку!
У снягах губляйся, шлях далёкі!
І па вецярку,
На сівярку,
З губ сплывайце, лёгкія аблокі!..

— Гані! —
Не слухае ані,

Адно трымае лейцы.
— Хутчэй! —
І не падняў вачэй.
Маўчыць і не злуецца.

— Маўчаць так будзеш і глядзець?
Не май мяне у легцы!
Ану! — Сама не ўпала ледзь
І выхапіла лейцы.

І зямля памчалася, бяжыць,
На ўсю моц стараецца сваю.
Сцелецца — хістаецца — дрыжыць,
Сцелецца — хістаецца — і —
Ўю!

## У мястэчку кажуць…

Вось як пра дзяўчыну казалі пасля,
Як чуткі плылі пра яе спакваля:
…Яны удваіх. Захліпнуўся агонь,
Ноч. Ціша. Ля вокан запрэжаны конь.
— Паедзем, — ён кажа, — да ціхіх
дымоў,
Цябе прывязу гаспадыняй дамоў,
Цяпер мне с табою дарога адна…

Ды толькі вясёла рагоча яна.
— Цябе падабаецца, хлопец, любіць,
Ды вольнай, як вецер,
Мне хочацца быць.
Табе галаву закружыла, ну хоць
Штовечар ка мне асцярожна прыходзь.

— Ну? —
Дзёрзка пытае (смяецца ўвесь час).
— Ну? — хлопец збянтэжана у адказ.
— Дай тыдзень, мой свет,
Каб абдумаць як след.

— Дам тыдзень, мой свет,
Каб абдумаць як след.

А потым не раз у світанкавы час
Спяшаліся сані з мястэчка ў калгас…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Вось як дзяўчына сябе ачарніла.
Потым мястэчка так гаварыла,
Так менавіта пасля гаварыла.

## *Раздзел шосты*

## Самотная прагулка па горадзе

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Запоўнен горад. Народу шмат.
Раку не стрымаць людскую.
Шуміць, віруе шырокі Арбат,
Адсюль ідуць на Цвярскую.

Трамваяў, аўто, саней касякі
(І толькі адкуль бяруцца)
То сыдуцца разам на міг які,
То зноў убакі разбягуцца.

Не чуюць вясёлай людской гаманы,
Не чуюць вітанняў трамваяў.
Шчаслівыя, поплеч ідуць яны,
Ідуць і на ўсё забываюць.

Снег ружавее, апаў, аціх.
Дамам не абтрэсці плечы…
І ціха кажа адзін з іх:
— А што ты робіш, дарэчы?

Ты вучыш дзяцей у нейкай глушы?
Скажы, ці варта старацца?
Паразлятуцца твае малышы,
І пойдзе, як кажуць, праца…

Спыняецца і гаворыць тады:
— Бадай што довады неблагія!
Ды трэба, каб светлымі, як гарады,
Мястэчкі сталі глухія!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вядома, так.
Сэрца ж нешта шкрабе:
Мястэчку трэба адкрыць вочы.
Прыходзяць белыя ночы ў сябе,
І шэпчуць з мальбою ночы:
«Лепш уцякай,
Глухамань не хвалі —
Прысыпіць цябе тут завірухамі скруха».
І хочацца да марознай зямлі
Прыкласці цёплае вуха.

Грымяць недзе светлыя гарады,
Там ззяе кожны каменьчык.
Звяртацца з просьбай,
З жальбой куды?
Ну хто яе смутак зменшыць?
Яна тут глухне ад нематы.
Каб хто прыехаў.
Тут праца злая.
«Тут цяжка адной,
Гарадскія браты,
Да справы такой
Не дарасла я».

Час зменіцца.
Знішчыцца карчаўё.
Ёй толькі б здароўе паправіць.

«О дарагое мястэчка маё
У серабрыстай аправе…»

## Відовішча

…Закончыўся мітынг.
Чакання атака:
— Даволі! Хопіць!
Даеш спектакль!
Заслона.
Агні запалалі імгненна.
Выводзяць дзеці легенду на сцэну:
Апрануты ў сіняе, поступ гулкі,
Ідуць з ламамі хлопцы, іх многа.
Гэй, вузкія, цесныя вулкі, завулкі,
Зламаем вас, трэба святлу дарога!

Ламаюць! — ад хатак хмурына густая,
Крывыя вулкі ўцякаюць ад страху.
І фабрыка светлая вырастае,
І нізка пад небам каменнаму гмаху.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Мы фабрыкі ўзводзім, хаваем былое,
З ахвотаю мы памагаем машынам!
Таму загрубелі так нашы далоні.
Та-на-нім, та-на-нім, ці-нам!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зачараваныя людзі любуюцца,
Баяцца з легендай расстацца.
Сагнуўшыся, у суфлёрскай будцы
Вядзе спектакль настаўніца.

## Пісьмо ад яе

«Што цяжка мне, не адмаўляю я.
Пагарду сеюць на даверу гоні.
Але здаецца часта: глуш мая
Бярэ ў баях таксама ўдзел сягоння.

І мне лягчэй, забытай у снягах.
Ды з кім тут радасцю я падзялюся?..

Ды іншы раз агорне сэрца страх:
Яшчэ маўчаць мястэчкі ў ціхай скрусе.

Ты першай ластаўкаю па вясне
З мястэчка вылецела на світанні,
Знайшла свой шлях.
Ды ўсё ж здаецца мне:
Мястэчка хутка ля машыны стане.

А я? Змагаюся, і добра мне!
Пляткарацъ языкатыя багата…
Не вер. Вось кашаль б'е. Кагал кляне.
А ўсё чакаю — заўтра будзе свята.

Ёсць радыё — глухому сну назло.
Ёсць клуб у нас, жыві, і гора мала.
Калі б мне зараз крыкнула: "Ал-л-ло!" —
Табе б адсюль "Ал-л-ло!" я адказала».

## *Раздзел сёмы*

## Калі яна ідзе па вуліцы

Па вуліцы ідзе —
Ўсе пальцамі паказваюць,
Калі яна ідзе —
Ўслед песенька з абразаю:

«У рэб Хацкеле дочкі, —
Лах-цы-ды-рай.
А ў дочак жываточкі, —
Лах-цы-ды-рай.
У адной вось так, —
Лах-цы-ды-рай.
У другой вось так, —
Лах-цы-ды-рай».

Чужы рот — не гарод,
Не паставіш варот.

Што зробіш з імі ўсімі.
На помач кліч не кліч…
— Дзяўчына — самы цымус.
— Ты ложак ёй пазыч.
— Пялёнак у вас ці хопіць?
— Адстаньце — застудзіце рты.
— Знайшоўся ж увішны хлопец.
— Хто ж бацька?
— Не я і не ты…
— Ва ўсім, брат, трэба старанне…
— А бацька гол як сакол.
— Наладзіць абрад абразання
Наш рэб камсамол…

## Што ж далей?

Тры дні працавала
канферэнцыя краявая,
Яна прабыла восем дзён.
Прывязлі яе сані ад гулу,
Ад звону трамвая,
Калі мястэчка бачыла першы сон.
Пад кажухамі здоўжыліся гадзіны.
Выйшла сама з саней.
Паднялася на ганак,
усміхнулася дзіўна
І не змагла адчыніць дзвярэй.

Селянін лейцы выпусціў —
добрага мала,
Падхапіць паспеў яе ледзь.
А яна на плячах у яго абвяла
І так засталася вісець.

## Хвіліны

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
У 10 гадзін 20 хвілін
Пайшла ў яе горлам кроў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
У іскрах… У іскрах…
У полымі… сцены.
Ці гэта хлопцы
Проста са сцэны?
У простых куртках
З дужымі рукамі.
— Ляжыце чаму тут?
— Пойдзем з намі!

І зноў агонь… забыццё…
— Вы нас не пазнаяцё?
— Гэта мы вярнуліся з працы.
— У нас зараз фабрыкі, як палацы.
Агонь рэжа вочы!
Хістаюцца сцены.
Хістаюцца сцены лена.
Падняцца хоча,
Рукі не падняць ані,
Балюча глядзець на агні.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
13 гадзін 40 хвілін.
Мястэчка ў белым рыданні.
Шукае прычын
Для апраўдання.
З трывогай няма як расстацца.
Кепска табе, настаўніца,
Табе будзе лепш, адпачні,
Паляжы ў цішыні.
Ноч пройдзе — адступіцца ліха.
Зноў ціха.

## Канец

Прывезлі доктара. Позна, аднак, —
Злаваўся і не прапісаў нічога.
Маўчалі таварышы каля парога
І моўчкі ўсю ноч прасядзелі так.

Яна не ўздрыгвала, у вачах
Святло згасала памалу.
А потым — белая ўся ляжала.
І свечкі не плакалі ў галавах.

## Хаўтуры

Хаўтуры. Хаваюць. Ну і што з таго?
Быў чалавек — і няма яго.
Так павялося ўжо з веку ў век:
Жыў чалавек — памёр чалавек.

Жыла, шумела — і на табе.
Залішне пяцца не варта.
Трынаццаць камсамольцаў змоўклі
ў журбе.
Сорак піянераў — маўклівая варта.

Прычынены дзверы, на вуліцу ўсе
За дамавінай ідуць пакрысе.
Нехта вымавіў слова.
І зноў цішыня замаўчала сурова.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А Лейба-каваль, што зарос, як мядзведзь,
На зямлю апусціў дамавіну ледзь
Ды так і стаяў з сагнутай спіной
І па-дзіцячаму плакаў над ёй.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А пакуль хлопец коней у сані запрог,
Дамавіну ўжо вынеслі за парог.

А калі ён, як чутка, імчаў наўпрасткі,
Ужо вочы закрылі ёй пятакі.

І калі на мястэчка ён глянуў крадком,
Засыпáлі дзяўчыну ўжо свежым пяском.

### *Раздзел восьмы*

## Мы — маладая гвардыя

Яснага неба шыр і прыволле.
Смуткам асеннім поўняцца вочы.
Цягнецца, стогне фурманка паволі.
Ці дапаўзе яна? Ці дасклыгоча?

Морыць пясчанай нудой дарога.
Вёрсты — і вёрсты — і вёрсты
Скразныя.
Хочацца ўзняцца — валіць знямога,
Цела дзяўчыны знямела ные.

Стогне фурманка, цягнецца кляча.
Шляху няма ні канца ні краю.
— Гэй, ці дагоніш, фурман?! — І скача.
На рамяньку ў яе сонейка йграе.

## Помніце, што здароўе...

Ніхто не выйшаў прывітацца з ёю,
Ні з крыўдай, ні з абдымкамі не лез.
Сачыла ў смутку з ціхага пакоя,
Як сонца жнівеньскае йдзе за лес.
Аднекуль саматужнікі узніклі,
І палюднела ад такой гурмы.
— Вось так, таварыш…
— Можа, вам нязвыкла?
— Не бойцеся, ўсё уладкуем мы.
І помніце, здароўе, як багацце,

Яго бацян з гнязда не прынясе… —
Пасля агонь зацеплілі у хаце,
З усмешкамі расселіся усе.

## Калі яна ідзе па вуліцы

Па вуліцы ідзе —
Ні кпіны наўздагон.
Насмешнікаў — нідзе
З нядаўніх сумных дзён.
— Дай бог здароўя ёй,
Хоць гэтай вось, другой!

— Дзень добры! — Добры дзень! —
Дабрэе белы свет.
— Дзень добры! — Добры дзень!..
Ёй кланяюцца ўслед.

*1927*

# Рува Рэйзін

## ФАНЬКА

### I

Ты ўзнялася першая на дах,
І наўкол ад здзіву і ад страху
Толькі ўсе казалі:
— Вой-вой! Ах!
Як гэта дзяўчына
І на даху?

Потым стала больш
І больш дзяўчат
І на дахах, і на рыштаваннях.
У спяцоўках цешылі пагляд,
Непаўторныя ў сваіх стараннях.

Слухаюцца спрытных, маладых
Пэндзлі барадатыя і кельмы.
На будоўлі ўдарнай
Кожны міг
Дарагі і працавіты вельмі.

II

Як Фанька з прафтэхшколы ўпершыню
Прыйшла ў малярны цэх,
Усе наўкола
Замоўклі,
Ды парушыў цішыню
Хлапечы бліск вачэй
І смех вясёлы.

Як Фанька пэндзаль захацела ўзяць,
Усіх ад рогату аж захістала…
Было самую можна фарбаваць —
Калонай знерухомелай стаяла.

І да яе ў мурзатым хвартуху,
З запэцканай у фарбу барадою
Сам майстра падышоў
І стаў крыху
Далей,
Бо сукня ззяла чысцінёю.

— Вы сапраўды
Зрабіцца маляром
Надумалі, таварыш дарагая?
Вас не палохае ні град, ні гром?
А хлопцы толькі зыркалі й міргалі.

Спыталася:
— Не бачылі людзей? —
І падняла пакрыўджаныя бровы.
Зняла апратку верхнюю хутчэй.
Сказала:
— Рукі працаваць гатовы.

Нібыта нехта падмяніў хлапцоў,
Збянтэжыліся ўсе й пачырванелі,
І адракліся ўраз ад грубых слоў.
Спяцоўкі перад сукняй анямелі.

### III

Хто гэта смяяўся?
Хто спяваў?
З малярамі смелая дзяўчына
Дах фарбуе,
Ёй хапае спраў,
Абагнаць хлапцоў
Яна павінна.

Толькі ружавее далягляд,
Фанька па драбінах хісткіх вёртка
Узлятае ўгору,
Акурат
Па сасне замроенай вавёрка.

Падымаецца наўслед за ёй
У нябёсы сонца залатое.
Быццам хочуць дружнай талакой
Цэлы дзень папрацаваць абое.

Маладыя, ясныя яны,
Сонейка і Фанька.
І абоім
З вышыні ўсе далечы відны.
І абое дружаць з неспакоем.

Вочы — іскры чорныя,
Ад іх
Сэрца ў хлопца полымна ўзгарыцца.
Фанька між напарнікаў сваіх
У сукенцы лёгкай, як царыца.

Жмурыцца прыціхлы краявід.
Ахалоду толькі сніць спякота.
Падахвочвае мужчынскі спрыт
Светлая дзявочая пяшчота…

## Сара Каган

### СЯБЕ МАЛАДЗЕЙ АДЧУВАЮ…

Як мне не спяваць з агнём,
Не радавацца без краю,
Калі з кожным новым днём
Сябе маладзей адчуваю.

Дачка старэйшая ужо
Іграць мяне вучыць
На скрыпцы,
Сын вучыць трымаць ружжо,
Ад шчасця ажно іскрыцца.

Дачка другая са мной
Жартуе
І кружыць у танцы.
Дом поўніцца гаманой,
Не хоча
Са смехам расстацца.

Сынок малодшанькі мой,
Як ветрык той, налятае.

І гальштук агністы свой
На шыю мне прымярае.

У светлым палоне ў жыцця
Не ведаю часам,
Дзе я,
Ці маці я, ці дзіця?
Адно ведаю: маладзею!

## СУСТРЭЧА

Хто ў вакно мне
Грукае так рана?
Хто там грукае
Спаважна так?
Прачынаюся расхвалявана:
«Я ўжо йду.
Ну што там за дзівак?»

Сонную фіранку адхінаю
І ў вакно ўзіраюся хутчэй.
Радасць заіскрылася жывая —
Бачу двойцу маладых вачэй.

— Мама!
— Вой! Дачушка дарагая,
Ты не напісала мне чаму?
Я б сустрэла,
Бо даўно чакаю.
Рада слову кожнаму твайму.

— Мама,
Дакараць мяне не трэба.
Быццам на валах вязуць лісты.
Да цябе я прыляцела з неба,
І мяне зямную бачыш ты.

У небе расцвітаюць парашуты,
І хмурынкі песцяцца ўваччу.

Я скакала долу без пакуты
І цябе расцалаваць хачу.

Расчыняю вокны ўсе і дзверы.
Як галубка, заляцела ў дом.
Сонечным зрабіўся ранак шэры,
Дзень будзённы
Стаў святочным днём.

— Будзь здарова, мама залатая!
На хвілінку заляцела я
І цяпер у неба адлятаю.
— Будзь шчаслівая, дачка мая!

## Генадзь Шведзік

### ПА КЕТУ

Восень. Ды пахне ўжо снегам, зімой.
Уцякае ў нару сваю цёплую
Маленькі лясны бурундук.
Востры восеньскі холад
Да рыбакоў няпрошаным госцем прыйшоў
У баракі шырокія да маладых,
Да хлопцаў плячыстых.
Холад моцны,
Ды моцныя ў рыбакоў
Целы,
Як цвёрды брызент настылы.
Хораша спаць, нырнуўшы стомлена
Ў цёплую рэчку сну.
Які тут здаровы сон!
Як смачна храпуць рыбакі.
Нібыта коміны ў завіруху,
Свішчуць насы.

Ноч восеньская на Тунгусцы.
Стары Макар
Задуменна, ціха
Сядзіць ля прыціхлай ракі.
У вадзе адбіваецца
Сіняя строгасць
Манчжурскіх сопак.
За сопкамі да Кітая —
Рукой падаць.
Цурчыць вада:
«Кулі вы любыя, кепска вам,
Кепска вам, вай!»
Раптам рака рабаціннем пакрылася:
«Робя, заламывай».
Эх, як хараша спаць
У абдымках у цеплыні.
Эх…
Сон салодкі начны
Праганяй!
І выходзь да ракі
Ў здубелых брызентавых балахонах,
Што прапахлі луской і цінай,
Дзе, Тунгуска, твая цішыня?!
Толькі крык,
Толькі свіст,
Толькі ўдары тугога вясла.
Толькі ўчуеш:
— Трымай карму!
На буйках закідваюць невад.
Канаты закідваюць на берагах.
Невад з кетой цяжкі.
Б'ецца ў адчаі рыба
На берагах Тунгускі.
Брухатыя бочкі глытаюць кету.
Чырвоная кета,
Чырвоная кета, як сонца,
Што зараз закідвае невад у рэчку.
Стары Макар не нацешыцца
З маладых рыбакоў.

— Эх, камунар мой, бацька Макар, —
Чуецца голас вясёлы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Зябка пацягваецца Тунгуска —
Світанне яе халадком разбудзіла.

*1932*

## ФАРБЫ

Вясна прыходзіла —
Кветкі цвілі.
Я іх асцярожна гладзіў.
Чырвоных,
Блакітных —
Усіх не злічыць!
Радасць у кожным паглядзе.
— Тата,
А што гэта там расце?
— Кветкі, мой сын,
Ты ж бачыш…
І гэтую справу, бывала, мне
Ён падрабязна тлумачыў.
— Ёсць колер чорны,
Ёсць белы.
Вось табе — два.
Кветак жа чорных
Не знойдзеш ніколі.
Чорны вугаль,
Чорная мая барада.
А кветкі —
Белыя толькі.
Іншых ён фарбаў не прызнаваў.
А назвы кветак —
Скуль ведаць іх тату?
Была, праўда, назва адна —
Сірэн, —
Так называўся бэз,
Што грукаў у шыбіну веткай.

Сірэн —
На канцы гэта «н» было
Цвёрда падкрэслена невыпадкова.
І так не вязалася з бэзам яно,
З пяшчотным,
Што хмельна кружыў галовы.
А дрэвы?
З «насамі» дрэвы былі
(так называў ён клёны)…
А птушкі?
Адно было імя для іх —
Убогае імя — вароны…
Маленства,
Ты бедным на фарбы было,
На ўсмешку,
На позірк ветлы.
Мне крыўдна!
Я, прагны да фарбаў,
Хаджу —
Патрэбна мне кожную кветку
Ведаць!
І шчодра
Я назвы ім сам даю.
Бывае часам
Надзвычай цікава…
Зусім нядаўна
Я кветку адну
Назваў нечакана:
Хава.
І гэтая назва не проста так —
Кветка была
Сарамлівай дзяўчынай:
Лісцем акрыла
Цела сваё,
Пачырванела, глядзіць нявінна.
Маленства маё,
Ты без фарбаў было,
Як шэрая ноч без прасвету.
Я, прагны да фарбаў,

Хаджу і хаджу…
Мне давеку не вычарпаць
Фарбаў гэтых!

*1940*

* * *

Ці бачыў ты жыты густыя,
Як лёгка ліпеньская ноч
Галовы гладзіць каласам,
Калі за лесам сонца сядзе?
Глядзіш ты на жыты густыя —
Задумліва-ўрачыста ўсё!
Ды тут прахопіцца вятрэц,
І каласы зашэпчуць шумна…

Ці бачыў ты жыты густыя,
Ці бачыў ты жытнёвы шквал?
Жыты хвалююцца, бягуць, —
Куды ні кінеш прагны позірк.
Адно ў жыты густыя кінься,
Цябе падхопіць, як дзіця,
І чуеш, як цябе нясе
Да сініх-сініх даляглядаў…

*1938*

## МОРА

Колькі адценняў мае яно,
Ну хто так адкажа скора?
Колькі настрояў мае яно, —
Само толькі ведае мора.
Настрояў і фарбаў —
хоць адбаўляй.
Мора — паэт найвялікшы самы.
Вось паэтычную б школу стварыць,
І я ўзяў бы гэты напрамак.

Які ж у яго непаўторны стыль,
Пра гэткі паэты трызняць вякамі.
Тады, калі мора шалёна шуміць,
Тады, калі мора зацята маўчыць,
У ім і святла, і жыцця —
з берагамі.

Вечна няўрымсны, новы паэт,
Вечна неперамальны, натхнёны.
Ну як жа магу я
яго не ўслаўляць,
Не быць пад уплывам ягоным?!
Мне хочацца быць, як яно,
круглы год
Лагодным,
бадзёрым,
заўзятым.
Падобным на пакаленне маё
У бурным стагоддзі дваццатым.

*1940*

## МОРА І ЗЯМЛЯ

Я чуў, што мора не любіць зямлі,
І з гэтым згадзіцца варта, —
Пабачыў, як тупа, цяжка яно
Шпурляе каменне ў твар ёй.

Пабачыў, як з пенаю на губах
Зямлі яно шле праклёны,
Ды крыўды не мае зямля, нібы
Не бачыць злосці ягонай.

Усё гэта так. Ды калі ўжо зямля
З морам ваюе да зморы,
Чаму ж тады, як сабака, цішком
Да берага лашчыцца мора?

З маленства просіць прабачыць яму,
Нібы вінаваты школьнік.
Мора ў адчаі: не можа яно
Зямлю угнявіць ніколі.

Мора ў адчаі: маўчыць зямля,
Усё ёй, нібы забава, —
Ці мора хоча каменне шпурнуць,
Ці лашчыцца, як сабака.

*1939*

## МОРА І ПТУШКА

Пашчасціла бачыць мне дзіўную дружбу
Чорнага мора
З маленькай птушкай.
З мокрай далоні карміла мора
Сяброўку —
І цешылася пястушкаю.

А мора такое вялізнае — ўміг
Захоча — і сонца патушыць,
Пушынка — маленькая птушка,
Ды дружба мілая, чыстая ў іх.

Напэўна, мору страшэнна самотна,
Што месца сабе не знаходзіць, смелае,
Таму яно ноччу наўзрыд галасіла,
І выйсці яму з берагоў хацелася.

А зараз сіняе, як птушаня.
Сябрамі любуецца цішыня.

Калі я самотны буду ў жыцці
І сэрца ў гаркоце затужыцца,
Хай гэтая дружба прыпомніцца мне
Чорнага мора
І птушачкі.

*1939*

# МАЁ РАЗВІТАННЕ З МОРАМ

Развітацца клікала да сябе
Мора ўладнаю позвай.
Прыйшоў — і толькі спытала яно,
Чаму я так сёння позна.

Дзіўна паспакайнела пасля,
Гайдала мяне ў калысцы вясёлай.
Мора за мною і пада мной,
Як глянуць — мора наўкола.

Пачаставала сваім вінам,
Вытрыманым, салёным, —
Так што мяне прасаліла ўсяго —
Не возьме ні сум, ні стамлёнасць!

Я разумею сябра свайго,
У нас з ім — паўнейшая згода.
Заведзена так — дарагому гасцю
Падносяць хлеб-соль заўсёды.

Праўда, хлеба няма ў яго,
Затое ж удосыць солі.
Падзякаваў сябру, ні кроплі я
Піць не магу ўжо болей.

Такое слова маё было,
Калі я выйшаў з Чорнага мора:
— Дружа, ты ў сэрцы маім навек,
Са мной ты і ў шчасці, і ў горы.

Дзе б толькі па роднай адмалку зямлі
Нага мая ні ступіла,
Мне будзе ўсмешкі тваёй не хапаць,
Шэпту, што стаў мне мілы.

А потым я доўга яшчэ стаяў.
Позірк у мора сур'ёзны.
Бачу, што зразумела яно,
Чаму я прыйшоў так позна.

*1939*

# Леў Талалай

## ТЭЎЕ-МАЛОЧНІК

Ён едзе марудна, парыпваюць колы.
Навошта спяшацца? І сонца высока.
І ўсмешка на вуснах яго. І наўкола
Ўсміхаецца ўсё задуменна й далёка.

Дзе позірк ні кінеш — раздолле без краю,
Палеткі ў зіхценні, лясы ў перагудзе,
Што ж, Тэўе, рабі так, як сэрца жадае.
Хай будуць шчаслівыя добрыя людзі.

У Бродскага множацца самі мільёны,
А ў Тэўе ўсё дочкі, хоць торбы навешай.
Каб наадварот стала ўсё, дык ягоны
Быў клопат лягчэйшы б і лёс ласкавейшы.

Ён едзе марудна, пагруквае посуд.
Ён бачыць сябе ў перапаленай блясе.
Спыніўся, бо лопнула раптам атоса.
Цяпер рамантуй, злазь у гразь, завіхайся.

І хіліцца ўніз галава ў неспакоі.
І ўсмешка ад Тэўе далей уцякае.
Якое ўжо заўтра насунецца злое,
Бяда да яго зноў прыліпне якая?

Пазнішчылі ўсё, што нажыў сваім потам.
І выгналі старцам з ягонай сядзібы.
І дзе гэта заўтра? І дзе гэта потым?
І друзам аселі пабітыя шыбы.

…Стаіць гаспадарліва восень сытая́,
За плугам яўрэй прыпыніўся на момант,
Вачыма зажураны вырай вітае,
Ну выліты Тэўе, да болю знаёмы.

У хвалях раллі маладзеюць загоны,
Цяжкая зямля на лямех наліпае.
І гэта пачатак любові ягонай,
Што з даўніх часін яшчэ ў сэрцы жывая.

Калоссе казыча брыво небакраю.
І жмурыцца сонца ратаю-яўрэю.
І кожны ў ім роднае штосьці пазнае,
А ён ад усмешкі сваёй маладзее.

Дзе позірк ні кінеш — раздолле без краю,
Палеткі ў зіхценні, лясы ў перагудзе.
Што ж, Тэўе, рабі так, як сэрца жадае.
Хай будуць шчаслівыя добрыя людзі.

## РАЗВІТАННЕ

Цяжэй, чым з усімі,
Развітацца мне
З чырваналобым цяляткам.
Тужліва глядзіць
З мокрай мордачкай ён,
Нібыта мяне лічыць таткам.

Цяжэй, чым з усімі,
Развітацца мне
З жарэбчыкам маладзенькім.
Ледзь ціха гукну —
Наўздагон да мяне
Ляціць
Са сваім ценем ценькім.

Цяжэй, чым з усімі,
Развітацца мне
З маім сябруком.
Гэта Янкель.
Залезе на дрэва,
Каб зорку дастаць,

Ён быстры, задзірысты,
Цямкі.

А вочы — агрэст,
Нос — гароху стручок.
Вясёлы любою парою,
З усімі на «ты» ён,
З усімі як свой:
Са мной, з жарабяткам,
З каровай.

Цяжэй, чым з усімі,
Развітацца мне
З Ханэлэ —
Любай дзяўчынай.
— Давай пацалуемся, —
Ёй кажу, —
Ад’езд мой
Таму прычынай.

Я еду ў краіну,
Якую завуць
Арміяй,
І, як у цудзе,
Збудзецца ўсё,
І жарэбчык канём
У кавалерыі будзе.

Хана здарослее,
З’явіцца той,
З кім паляціць
Без мяне ўжо,
Бо трапяткую душу
Заўсягды
Вабіць таемна бязмежжа.

Ах, блізка цягнік,
І цалуюся я
З бацькам калючабародым,
З мамай —

Прыцьмелыя вочы ў яе,
З Ханэлэ, —
Вусны, як мёдам,
Падсаладзіла
Ростань сама.
Ды не пыхкай
Так, паравоз!
Не забуду я ўсіх
Блізкіх
На станцыі ціхай.

## НА МАРШЫ

Тры дні і тры начы
Полк рухаецца жвава.
Налева глянеш — лес,
Зірнеш — лясы направа.

Зялёная зіма —
Хваіны ды яліны.
Калісьці як-ніяк
Лес скончыцца павінны.

Прысталі людзі ўсе.
Ступаюць коні вяла,
Стамілася звінець
І песня запявалы.

Ды адступіўся лес.
Стаяць за хатай хата.
Прыбрана вёска ўся,
Як на якое свята.

Вясёлы брэх сабак,
Нязлосны шып гусіны.
У гожых маладзіц
Ажно гарацы хусціны.

Каб стому нам прагнаць,
Рачулка з лесу выйшла.
Дзяўчаты пачалі
Бялізну мыць увішна.

Якія ў кожнай з іх
Задзірыстыя рухі,
Як вабіць кожны стан,
Як вабяць гэты рукі!

І вечар звесялеў,
І неба пасінела,
І песня над шыхтом
Узвысілася смела.

Зрабілі тут прывал.
І на вясёлым мосце
У скокі ўсе пайшлі —
Гаспадары і госці.

Палкоўнік — шэры вус,
І вочы — смех сінечы,
Як самы першы зух,
Расправіў горда плечы.

На мосце дошкі ўсе
Трывалыя, бо з клёну.
Сасновыя ніяк
Не вытрымалі б звону.

На беразе ляжу,
Папера на прыкладзе.
І пішацца ў мяне
З усімі ў добрым ладзе…

## Захар Барсук

### КАЛІ ПАДУМАЕШ...

I

Калі падумаеш, што ўжо ніколі
Дадому не прыеду я,
Тады
Душа адчуе ўвесь цяжар няволі,
І не ўцячы нікуды ад жуды.

Але тады,
Калі ў распале бою
Ўцякае вораг,
Не хапае слоў
Для радасці,
І ўжо хвілінай тою,
Здаецца, нараджаюся наноў.

II

Калі ў разведку выйдзеш
Пацямночы,
Няўтульна
Аднаму ў сваёй журбе.
Снарад
Патрапіць у цябе не хоча,
Цаляе куля
Абмінуць цябе.

З параненым табою
Смерць жартуе,
І дазваляе смерць
Табе пажыць.

Цябе здзіўленне лютае
Бінтуе,
І страшна
Скура на табе дрыжыць.

Калі з разведкі
Праз агонь і хмары
Вяртаешся,
Нібыта з небыцця,
Ты над сваім жыццём
Дрыжыш, як скнара,
Ад шчасця весялішся,
Як дзіця.

## Я РАЗВІТАЎСЯ З ЖЫЦЦЁМ…

Я развітаўся са сваім жыццём,
І мусіў я
На снег калючы ўпасці.
А мне насустрач
Раптам выйшла шчасце,
І выжыў я ў завеі пад крылом.

Пакуль застаўся я
Адзін з траіх…
Сябры мае
Халодным сном заснулі.
Гарачыя застылі ў сэрцах кулі,
Сябры недалічылі дзён сваіх.

Сябры заснулі непрабудным сном —
Акрыла цёмнай коўдраю завея.
Лютуе роспач, і мароз шалее,
І вецер б’е каляным бізуном.

Ад жаху ледзянее ў жылах кроў,
І неба нада мной
Чарнее ў скрусе.
І я змагацца з ворагам

Клянуся
І за сябе,
І за сваіх сяброў.

## Марк Шагал

### КРАІНА НАРАДЖЭННЯ

Мая прыходзіць да мяне
у госці поўня з той краіны,
мне сцяг з чырвонай палатніны
на нашай вулцы б'ецца ў сне.

Там свет абноўлены,
імкне
адтуль вятрэц на крылах лёгкіх,
там сем'яў блізкіх і далёкіх
згулі вяселлі без мяне.

Я чую радасць галасоў,
з якой жыццё займаюць людзі,
што імі ж вызвалена ў гудзе
агнём вінтовак і прамоў.

О хмара, злітуйся ў бядзе
і забяры мяне ў вышыні!
Я чую, доле голас стыне
званоў,
і дым з дамоў ідзе.

Мой рот сказацьме слова ім.
Мой край,
засыпаны снягамі,
пакуль мяне нясе дыханне,

мая душа
з табой ва ўсім.

Я ў фарбах апяваў цябе,
ці ўпадабаў ты песню тую?
Мой голас сам сябе ратуе,
як я,
стаміўшыся ў журбе.

Я маляваў да стомы воч
тваіх людзей,
лясы,
паляны,
твой твар
твару́, як апантаны,
багаслаўляю дзень і ноч…

## БАЦЬКА

Здаецца мне, бачу бацьку свайго,
ляжыць далёка ў зямлі пясчанай;
маліўся ўсю ноч ён
і збавіўся ад усяго,
і сцяў яго меч няшчадны…

Ты ў сінагозе дзівосаў чакаў,
сляза злятала на бараду сурова.
Аўраму, Ісаку, Іакаву не без падстаў
сваё ты шчыра выплакаў слова.

Ты ў поце ўсё жыццё працаваў,
і плакалі рукі твае дасвеццем,
маўклівы, бледны, нам есці даваў —
у сценах бедных гаротным дзецям.

Ты спадчыну мне пакінуў —
яшчэ
твой пах не выветрыўся,
цёмнажыла

у рысах маіх твая ўсмешка цячэ,
твая мне перадалася сіла.

## МАЦІ

Лунае ў паветры маці мая
і, мёртвая, ледзьве дыхае ў плачы:
— Дзе сын мой, якога люляла я?
На шлях яго насылаю ўдачы.

Я ў болях насіла яго,
сысуном
смактаў сынок маю свежую сілу.
Вучыла малітву шаптаць перад сном,
вяла за руку да людзей, прасіла.

Мой сын, дзе цяпер ты, ў якой старане?..
Ты ўсё ў маёй памяці, што не астыла.
Глыбока зорная ноч ува мне
начуе, і вочы мне зачыніла.

Ляжыш ты самотна сярод камянёў,
няма тваёй былой прыгажосці,
мяне тут пакінула прывідам сноў,
адно ад цябе засталіся косці.

І я б цалаваў твой пясок і траву,
і плакаў бы сам, як усохлы твой камень,
каранаваў бы тваю галаву
каронаю светлай дзвюма рукамі.

## СЁСТРЫ

Смяяцца ці плакаць сёстрам усё адно,
ці спяваць, пастаўшы ў дзвярах,
ці траскатаць па-сарочы,
адчыніўшы вакно,

глядзець, хто йдзе,
ці шчасце, ці страх.

## БРАТ

Мне цябе не хапае, Давід.
Чаму
ты не затрымаўся ў жыцці?
Быў бы рады, як роднаму,
ценю тваму.
І ад каменя
ценю мне не знайсці…

## САД

Вечар. Сад,
асветлены поўняй. І ты,
незабыўная. Дотык пяшчотны
рэзеды.

Ты пацалуеш мяне,
абдымеш мяне ці,
магчыма, мне загадаеш
адсюль пайсці?

Пяшчотны дотык прадоння.
Закаханы, заходжу вечарам сёння,
напоўнены пахам саду і, як тады,
рэзеды.

## МАЯ ЖОНКА

Насустрач ідзеш з валасамі даўгімі,
з мілосцю, дрыготкая ад асалоды,
і дорыш мне пару вачэй, як гімны,
і хочацца мне запытаць заўсёды:

— Дзе кветкі белыя, ці пажоўклі
пасля вяселля ў дарогах жалю?
Упершыню да цябе прыйшоў я,
і цэлую ноч у цябе ляжаў я.

Мы пагасілі поўні дыханне
і запалілі белыя свечкі,
маё цякло да цябе каханне,
адкрыўшы твар да апошняй павечкі.

Салодкая, як міндаль, як трунак,
ты стала жонкай, мая пашана,
жывот мне падарыў дарунак —
дачку прыгожую, як Рош-Гашана*.

Мой дзякуй табе, добры бог алтара,
за дзень той, які ты паслаў для дабра!

* * *

Хаціна старая, ані акна.
І ўночы цёмна ў любым кутку.
Я перш выйшаў з цямноча на прастору
і працягнуў руку.

## ПЕРШЫ НАСТАЎНІК

*Памяці Іегуды Пэна*

А мне насустрач старога рэбэ
ляціць галава з краіны тугі:
«Аддаў табе ўмельства сваё як трэба,
тваёй больш не будзе ў мяне нагі».

Няма ні пэндзля яго, ні бародкі,
за шэлег забіў яго злодзей злы,

* Рош-Гашана — свята.

яго пацягнуў на той свет праз вароты
конь чорны, чарнейшы ад чорнай імглы.

Пагасла лямпа, і ў дом зазірае
хмурына — кудлатая галава.
Насупраць, нібыта ўдава старая,
стаіць зачыненая царква.

Тваю карціну, яшчэ жывую,
свіння павыпацкала хвастом,
Я ўжо, настаўнік, даўно шкадую,
што я пакінуў цябе й твой дом.

## КАРАБЕЛЬ

Усе дзве тысячы гадоў
рассейвалі мяне,
але на ўзрост мая краіна маладая.
Юнак — мой сын Давід.
Я кленчу даўніне
і зоры на шчыце Давідавым шукаю.

Прарокі паўз мяне
бясшумна праплылі.
Давід світае —
чую подых і праменне.
Дзве тысячы гадоў на небе,
на зямлі
слязьмі цябе чакаў,
краіна захаплення.

Як Якаў, спаў глыбока
і сасніў я сон:
анёл па лесвіцы
мяне ўздымае ўгору,
і душы згаслыя наўкол,
знябыўшы скон,
узносяць спеў
у нечуваную прастору.

Спеў пра Ізраіль новы
і пра тыя ўсе
дзве тысячы гадоў
рассейвання без жалю
і пра Давіда —
сына ў сонечнай расе.

Чым Бах і Моцарт,
саладзей яны спявалі.

## У ЛІСАБОНЕ ПЕРАД АД’ЕЗДАМ

Расце паміж намі сцяна.
Услана гара магіламі і травой.
Нас падзяліла рука, яна
тварыла карцін і кніг супакой.

Вы бачылі вырасы твару майго,
твару, ў якога плоці няма?
Няма чалавека, што бачыў яго.
Мой покліч тоне ў бяздонні дарма.

Я зорку сваю шукаў сярод вас.
Шукаў я вашага свету край.
Стаць з вамі дужэйшым хацеў якраз,
а вы паўцякалі ад страху ў адчай.

Як сказаць вам апошняе слова, калі
вы сябе паразгублялі ў жыцці?
Не маю месца на гэтай зямлі,
куды мне ехаць, куды ісці?

Хай высахнуць слёзы, як слёзы травы,
хай сатрэцца імя на маім камяні,
я стану ценем такім, як вы,
як дым, растану ўдалечыні.

## НА КАРАБЛІ

Свой лёс прынёс даверыць караблю,
мне развітацца з вамі хопіць сілы,
вы сілай занялі маю зямлю,
забралі ля ракі вякоў магілы.
Ты смутак сцёр мой, засушыў раллю,
Ты глуха зачыніў мой дом пахілы.
Не даў надзею заглушыць быллю —
адкрыў краіны новай небасхілы.
Дык не пакінь пасярод мора Ты
мяне, дзе жорсткаю юрмой браты
згадалі мне пра ствол мой і галіны.
Хай шлях мяне вядзе на твой парог.
Як мне Цябе багаславіць, мой Бог,
скажы, ў які я дзень пасціць павінны?

* * *

Ці Бога маліць мне,
што вёў у агонь мой народ,
ці мне маляваць Яго
полымя пэндзлем суровым,
ці з месца мне ўзняцца
яўрэем прасветлена-новым
і рушыць змагацца,
каб род не пайшоў мой на звод?

Ці воліць, каб вочы
без просыху слёзы лілі,
каб роспачна слёзы
зліліся з ракою адчаю?
Жалобу сваю браць з сабою намеру не маю,
калі даплыву, ўбачу вырас жаданай зямлі.

А толькі нагою прысталай адчую пясок,
на бераг нявесту сваю за руку павяду я,
каб вы на яе паглядзелі —
ў нябёсах святую,

сніць будзе яе ў сне апошнім
мой стушаны зрок.

* * *

Я маляваў плафон і сцены.
На сцэне скрыпачы, танцоры,
Зялёны вол, шалёны певень.
Ён небакрылы,
Ён нятленны —
Стваральны дух,
Дух непакоры.
Я клікаў вас туды, дзе зоры,
Мае бязмоўныя браты,
Ноч стоміцца ад віднаты.
Сустрэчу з вечнасцю прызначыць
Плямёнам паднябесным час
Усё, што чуе,
Усё, што бачыць,
Учуе і пабачыць вас.

## ЛЕСВІЦА ЯКАВА

Я ў свеце, быццам у лесе, блукаю.
Хаджу на нагах і руках.
З дрэў злятае лістота цяжкая —
будзіць мяне і мой страх.
Я малюю мой свет, як сон саснёны:
і калі лес замятаецца снегам зім,
выглядае, як з таго свету,
мой сон утрапёны,
толькі я адзін стаю на сваім.
Я стаю і чакаю, каб ты мяне ахапіла,
каб страх прагнала і сэрца сагрэла,
я чакаю з усіх бакоў цябе, Сіла.
Болей стаяць не буду, але ўзлячу смела,

мне з табой падымацца неабыякава
па лесвіцы Якава.

* * *

Мой горад, мяне не забыў ты яшчэ?
Рака твая ў целе маім цячэ.
На лаўках тваіх я праседжваў да рання,
і ўпарта чакаў я, наіўны, прызнання.

Дзе хаты стаяць, занурыўшыся, дзе
на могільнік проста дарога вядзе,
дзе рэчка вясной не шкадуе абшараў,
я ўсе свае дні летуценна прамарыў.

Маланкаваю белізною ўначы
ўсе дахі анёл заліваў, летучы.
Анёл мне паказвае шлях мой далёкі,
імя маё ўзносіць вышэй за аблокі.

## ДА ВЫСОКАЙ БРАМЫ

Толькі тая краіна мая,
што жыць у душы маёй не перастае,
як свой, без віз адпаведных,
я ўваходжу ў яе.

Яна бачыць мяне ў бядзе,
у адчаі, ў галечы,
яна мяне спаць кладзе
і духмяным каменем
мае акрывае плечы.

Ува мне зялёныя цвітуць сады.
Кветкі выдуманыя, ўбачаныя ў сне.
Ува мне
мае вуліцы,
цягнучыся, крывуляцца,

толькі дамоў не ўбачыш на іх,
яны руінамі сталі
гадоў малечых маіх.

Жыхары ў паветры блукаюць,
як прыбышы,
яны жытла шукаюць,
яны жывуць у маёй душы.
Вось чаму, калі сонца ледзь усміхнецца,
зрэдчас усмешкай мае засвецяцца вочы,
альбо я заплачу,
як лёгкі дожджык уночы.

Я помню час,
калі меў я дзве галавы…
Гэта было якраз,
калі абедзве галовы
ахіналіся ў вэлюм кахання,
і зніклі галовы, як хмель вясновы,
як водар ружы, дазвання.

Цяпер мне здаецца,
калі я назад скірую хаду,
я ўсё роўна ўперад пайду,
у напрамку высокай брамы,
пад якой за разбуранымі сценамі храмы,
дзе начуюць адны
зламаныя бліскавіцы
і адгрымелыя перуны.

## ГОРАД ДАЛЁКІ

Ён ува мне звініць,
далёкі горад,
дзе перагукваюцца, як суседкі, веры:
цэркаўкі белыя,
цэрквы далёкія
і сінагогі. Дзверы
расчынены. Неба цвіце,

жыццё ляціць,
упэўненае ў сваёй праваце.

Ён ува мне,
іхні смутак, ные,
нудзяцца вулкі крывыя,
надмогіллі шэрыя — на гары
ляжаць глыбока яўрэі набожныя,
сум з імі іхні, як свет стары.

У фарбах і ў мазках,
у святле і ценю
стаіць карціна мая ўдалечыні,
ёй сэрца сваё засланіць летуценю.

Іду я, разліты ўвесь і распалены,
зіхцяць гады, краса былая ўся.
Мой свет у сне
прыходзіць да мяне,
а я — а я губляюся.

Не шукайце сёння мяне,
не шукайце і ў заўтрашні час,
я ўцёк ад самога сябе нечакана.
Я магілу выкапаю ў запас
і ад вялікага плачу растану.

## ВІЛЕНСКАЯ СІНАГОГА

Старая вуліца, старая сінагога.
Я летась размалёўваў сцены. Іх
не стала, ўзвіўся з прыскам
дым да Бога,
святой заслоны знік спалоханы ўскалых.

Дзе кнігі мудрасці — павадыры памкненняў?
Дзе сямісвечнікі, дзе вечны кон і скон?
Дзе дух, надыханы праз безліч пакаленняў? —
з паветрам вырваўся ён, як адэкалон.

Рукою ўздрыглівай я клаў набожна фарбы,
зялёнай смела орн-койдэш маладзіў,
схіляўся, са слязьмі глядзеў на скарбы —
апошні сведка і апошні ўздых і здзіў.

## ПАМЯЦІ МАСТАКОЎ — АХВЯРАЎ ХАЛАКОСТУ

Ці ведаў іх усіх я? Ці наведаў
майстэрні іхнія? Ці бачыў я
мастацтва іхняе здалёк ці зблізку?
Цяпер выходжу з год сваіх, з сябе,
іду да іх магілы невядомай.
І клічуць, і з сабою ў яму цягнуць
нявіннага віноўніка, мяне.
Яны ў мяне пытаюць:
— Дзе ты быў?
— Я ўцёк…

Іх пацягнулі ў лазні смерці,
дзе паспыталі ўласны пот на смак.
Тады яны пабачылі святло
іх недавершаных карцін. Яны
лічылі недажытыя гады,
якія ашчаджалі і чакалі,
каб здзейсніцца маглі іх летуценні,
што недаспалі ці праспалі, зрэшты.

Яны вышуквалі ў сваіх галовах
куток маленства, дзе ў палоне зор
прарочыла ім поўня светлы лёс.
Каханне юнае ў пакоі цёмным,
у горах, доле, на траве, чароўны,
заліты малаком, у кветках плод,
рай абяцаны.
Рукі, вочы маці
праводзілі ў шляхі далёкай славы.

Іх бачу: босыя ў рыззі брыдуць
дарогамі знямелымі Пісара, Суцін

і Мадыльяні, нашыя браты,
і на вяроўках іх вядуць нашчадкі
Хольбейна й Дзюрэра — на смерць
у печы. Як жа мне заплакаць?
Соль з’ела слёзы ўсе ў маіх вачах.
Здзек іх павысушыў, каб я
сваю апошнюю надзею страціў.
Як плакаць мне,
калі чуваць штодня,
як з даху рвуць апошнюю дашчыну
ў мяне, калі знямог я ад вайны
за лапінку зямлі, дзе я стаю,
зямлі, ў якую спаць я потым лягу?

А бачу я агонь, і дым, і газ,
што падымаюцца ў блакіт і чорным
яго раптоўна робяць.
Бачу я
павыдзертыя валасы і зубы.
Яны ў мой каларыт лютосць уносяць.
Стаю ў пустэльні ля гары абутку,
апраткі, прыску, смецця,
мармычу малітву за ўпакой нявінных душ.
Стаю — і да мяне сыходзіць
з маіх карцін Давід. Трымае лютню.
Ён хоча памагчы заплакаць мне,
псалмы найграўшы.
А за ім ідзе
Майсей, нікога не баяцца кажа.
Ён вам загадвае ляжаць спакойна,
пакуль яшчэ раз не накрэсліць ён
скрыжалі новыя для навасвецця.
Апошняя іскрынка гасне, цела
апошняе знікае, толькі вусціш
трывае, як перад патопам новым.
І я ўстаю, развітваюся з вамі,
і ў новы Храм свае кірую крокі,
і свечку стаўлю там
за кожную душу.

# МОЙ НАРОД

Мой народ,
і плакаць няма табе чым, бедаку,
перад намі ўжо больш не ідзе
ані зорка, ані аблачына,
і памёр наш Майсей,
і даўно ён ляжыць у пяску,
ён прывёў і прагнаў цябе зноў з той зямлі,
што цвіла благачынна.

І апошнія нашы прарокі
захлынуліся ў немаце,
бо ўсю глотку яны пракрычалі
з аглухлымі вамі.
Песні песняў не ўчуеш,
дрэва дрэваў тваіх не цвіце,
а ліліся ж мелодыі з вуснаў, як рэкі,
каб зліцца з вякамі.

Хочуць Бога твайго растаптаць,
знішчыць ісціны небасхіл,
рупіць кожнаму сцерці ў тваім сэрцы
святыя скрыжалі,
свет віноўны стараецца чэрпаць
з тваіх падарваных сіл,
а табе толькі месца ў зямлі
пакідае з вялікага жалю.

Ты сваімі рукамі
на шматкі неба чорнае разарві,
кінь выгнанне сваё,
апавіўшы маланкамі грому.
Хай гарыць гніль старая,
папяляе здранцвенне ў крыві,
каб ты змог сваю выдзерці праўду,
паказаць яе свету старому.

## МАЙМУ РОДНАМУ ВІЦЕБСКУ

Даўно ўжо, любы мой горад, цябе я не бачыў, не чуў, не мовіў з табою, з народам тваім, даўно не ўпіраўся ў твае агароджы.

Як падарожнік самотны, я толькі нёс праз гады ўсе твой вобраз на палотнах маіх, і гэтак мовіў з табой, і, як у люстэрку, бачыў цябе.

Мой дарагі — ты не спытаўся з болем: чаму я, любячы цябе, пайшоў ад цябе на ўсе гады даўгія?

Хлопец, думаў ты, шукае штосьці, ён шукае такія зыркія, асаблівыя фарбы, што сыплюцца, як зоркі, з неба і валяцца, як снег, на стрэхі нашыя. Дзе ён возьме іх? Чаму не можа знайсці паблізу, у горадзе, у якім нарадзіўся?

Магчыма, хлопец гэты і зусім вар'ят, але з глузду з'ехаў ён з-за мастацтва. І яшчэ думаў ты: хлопцу гэтаму, бачу, я ў сэрца запаў, але ён усё лётае, зрываецца з месца, бо ў галаве яго вецер.

Пакінуў я на зямлі тваёй, мая радзіма, магілы продкаў і рассыпаныя камяні.

Чаму ж я ад цябе гэтак даўно пайшоў, калі сэрцам з табой заўсягды, з тваім новым светам, які стаў светлым прыкладам у гісторыі?

Я не жыў з табой, але не было ніводнай маёй карціны, у якой бы не адбіліся твая радасць, твой смутак.

Я агорнуты смуткам, калі чую, як, не разумеючы любові маёй да цябе, людзі кажуць пра тое, што я на цябе забыўся. І я не магу адказаць на гэта — што казаць у адказ? Мала мне маіх пакут у мастацтве, яшчэ мушу я перажываць і выстаяць як чалавек…

У маладым веку я пайшоў ад цябе вучыць мову мастацтва. Я не магу сказаць сам, чаму навучыўся ў Парыжы. Ці зрабілася багацейшай мая палітра, ці дадалося нечага добрага да маіх наіўных малюнкаў?

Бо казалі і пісалі, што нечага я дамогся ў мастацтве.

І ўсё гэтае я прынёс і аддаю табе.

Праз усе гады маёй трывогай было адно: ці мяне разумееш ты, мой горад, ці мяне разумеюць твае грамадзяне?

І сёння, як заўсягды, мовіць хачу пра цябе.

Чаго ты толькі не перацярпеў, не вынес, мой горад! Холад, голад, рэзрух, як тысячы іншых братоў-гарадоў маёй радзімы.

Я ганаруся табой, тваёй нясхібнасцю і гераізмам, якія ты паказаў ворагу, найстрашнейшаму на свеце.

Ты адзіны ў мяне на свеце.

Але яшчэ шчаслівейшы быў бы я, калі б мог блукаць па тваіх ускраінах, збіраць камяні на руінах, дапамагаць, падстаўляючы мае ўжо старыя плечы, адбудоўваць твае дамы, твае вуліцы.

Лепшае, што я магу пажадаць сабе, — гэта пачуць, як ты скажаш, што быў я і застаўся верны табе павек. Інача й бы не быў я мастаком.

Бо ты мне не скажаш, што я фантазёр і летуценнік. Ты сам у глыбіні душы такі ж самы.

Чыстыя сны твае я толькі перадаю і цалую цябе фарбамі і лініямі. Дый хіба скажаш цяпер, што ты не пазнаеш сябе?

Я ведаю: не адшукаю болей камянёў магільных маіх бацькоў, але мой горад, ты зноўку станеш вялікім і жыццярадасным, і ўсе новыя камяніцы вызвоньваць будуць самыя чароўныя мелодыі, яны будуць клікаць да новых здзяйсненняў, да жыццепрацягу.

Калі я пачуў, што бяда стаіць каля тваіх варотаў, я нібыта сам усполымніўся і ўявіў сабе гэтакую карціну жахлівую: вораг лезе ў мой дом, у мой двор на Пакроўскай вуліцы, і па вокнах маіх б’е жалезам напаленым.

Але ты сам нясеш яму смерць, якую ён заслужыў, толькі смерць і пагібель, каб свет мог цераз гады ўзняць да сонца сваё людское аблічча.

Калі раней, здаралася, цэлая краіна гаіла раны аднаго чалавека, дык сёння ўсё чалавецтва мусіць дапамагчы загаіць, мой горад, цябе разам з братамі старэйшымі: Сталінградам, Ленінградам, Масквой, Харкавам, Кіевам і іншымі, усімі, каго можна назваць святымі.

Мы, людзі, не можам ціха і спакойна сядзець і чакаць, пакуль будзе знішчана і ператворана ў попел планета.

Я гляджу, мой горад, на цябе здалёк, як маці мая на мяне глядзела з дзвярэй, калі я ў дарогу выходзіў.

Вораг цяпер у цябе. Яму мала было горада на палотнах маіх, якія ён спаласаваў як мог, — ён прыйшоў паліць мой дом і мой горад.

Я кідаю яму ў твар тое, што ён некалі даў мне ў сваёй краіне.

Ягоныя «дактары ад філасофіі», якія пра мяне пісалі «глыбокія» словы, цяпер прыйшлі да цябе, мой горад, скінуць маіх братоў з высокага моста ў Дзвіну, закапаць іх жывымі,

страляць, паліць і ўсё гэтае назіраць з халоднымі крывымі ўсмешкамі ў свае манoклі.

Мне болей не трэба вочы мае, каб глядзець на гэтае, калі ты нават уратуеш мяне.

У сэрцы тваім б'ецца і абліваецца слязьмі крывавымі маё сэрца.

І я шчаслівы быў бы прынесці табе вясціну свабоды, як сам ты калісьці прынёс яе свету.

*15 лютага 1944 года, Нью-Ёрк* *Пераклад Давіда Сімановіча*

* * *

Маўчыш ты, ці хочаш, мая краіна,
Каб сэрца маё разламілася, мабыць?
Каб ува мне варыўся няспынна
Агонь,
А табе засталася набыць?

Кроў замроеную табе я
Пашлю, дыханне маё слязою
Сцячэ, паветра блакітна ўднее.
Ляжаць буду ціха вязнем спакою.
Ты крыўду маеш, мая краіна?
Што ў бутлі вада, я перад табою
Адкрыты,
Даўно ўжо ты кінула сына
У чуж-чужыну,
Надзяліўшы тугою.

Спаць вечна прыб'юся да роднага схілу,
І попелам ты мне пасыплеш магілу.

## МАЕ СЛЁЗЫ

Мае слязіны падаюць, як камяні,
растаюць і ў раку ўцякаюць,
яны плывуць кветкамі па вадзе, —

гэтак я пражываю дзень,
Божа мой, Божа мой, навошта?

Я жыву, і я дыхаю,
і шукаю Цябе, і шукаю,
Ты і са мной,
і далёка Ты ад мяне,
Божа мой, Божа мой, навошта?

Я слова не чую наўкол сябе,
Перасякаюцца лясы і дарогі,
з усмешкай я пачынаю свой дзень
і Цябе ўсё чакаю,
Божа мой, Божа мой, навошта?

Я нясу кожны дзень свой крыж,
штурхаюць мяне і вядуць за руку,
а наўкола мяне ўсё начэе змрок,
Ты пакінуў мяне,
Божа мой, Божа мой,
навошта мяне Ты пакінуў?

## БЭЛА

*Да чацвёртай гадавіны смерці*

Плыве збялела сукня над табою,
спяць кветкі ў некранутае красе,
мне ўсмешка цепліцца твая журбою,
як попел, я шарэю пакрысе.

Пытаюся, не маючы спакою,
ці ўслед за мной цябе твой след нясе?
Мой агарнуўся крык глухой слязою.
Што кажаш? Чуць хачу я словы ўсе.

…«Як нас у хупе паяднала згода,
так і любоў да нашага народа,
ідзі і марай іх будзі, хто ў сне.
Палі, як зэдэны ў мяне на целе,

мне ўночыззяюць зоры, што даспелі.
Ты вернешся аднойчы да мяне».

* * *

Калі настанеш, гадзіна мая,
ў якой я растану, як свечка?
Калі да цябе, далёкая, я
прыйду на спачын свой вечны?

Не ведаю, ці растаю ў хадзе,
не ведаю, хто я, з якой стараны.
Не ведаю, ці я стаю і дзе,
мая галава і душа — дзе яны?

Мая мёртвая мама, зірні
на сына, што заходзіць, як вока,
любімая крона, зірні ў цішыні,
як сонца ў мяне заходзіць глыбока.

## ГЭТУЛЬКІ ГОД

Час ад часу карціць каго-небудзь паклікаць.
Гэта цяга вялікая з сэрца ўстае
і прыносіць малітву на вусны мае:
каб над кветкамі іншымі расцвілі
ружы нябачанай дзіўнаты,
калі
да мяне прыйдзеш ты.
Я паклікаць хачу каго-небудзь з дасвецця,
каб а гадзіне трэцяе бяссонне,
якое ў сабе нясу,
ператварылася ў начную красу.
І я, галаву згубіўшы, паўраздзеты,
пайду шукаць цябе.
Але дзе ты?

Толькі што я ачнуўся ад сну,
які цягнуўся гэтулькі год.
Ты помніш: учора адно
цалаваў твой усмешлівы рот.
Ты, як лёгкі дым, мяне абвіла.
Мы с табой лёталі
ад ствала да ствала.
Я хацеў адшукаць
хоць твае прыкметы.
Але дзе ты?

Зіма і восень,
вясна і лета
мае прыспешваюць гады.
Але куды?

Дагэтуль свежы ў тваіх руках,
букет юнацтва майго не зачах,
ён уздрыгвае і чакае расчулена
ноч вяселля мінулага.
Анічога ў маіх руках,
толькі год маіх пыл і прах.
Я шукаў цябе неадумна,
без мэты.
Але дзе ты?

Кожны дзень з днём маім
спяшаецца адысці і хоча
мяне падагнаць да начы,
падагнаць уперад сілай жуды.
Але куды?

Я згодзен з усім
і не згодзен зусім.
Вось я гатовы, знікаюць сілы,
мае апускаюцца крылы,
а вось іх зноў падымае лёс,
каб мог падняць я цябе
па дарозе маёй да нябёс.
І ўвесь час, палётам

я шукаю цябе.
Але дзе ты?

Рукі цягнуцца ўслед
намаляваць твой укарочаны свет.
Я веру, што вусны мае
і сэрца ў бажбе
малітвы мае данясуць да цябе.
Мой сон няспынна цячэ
ў маіх карцінах
і спадае да ног тваіх
у запаветы.
Але дзе ты?

* * *

Мой міг, мой дзень, мой апошні год,
сляза гарачая салодка мяне казыча.
Не растае ў сэрцы маім маўчання лёд,
сонца бачу, што цячэ з гары
на свет стары —
чырвонымі промнямі ахінае маё аблічча.
Сонца мяне суцяшае у журбе,
каб болей не праліваў слёз,
каб з зоркай сваёй ішоў па лёс,
каб надзею глыбока хаваў у сабе,
каб слухаў душой
толькі покліч далёкі Твой.

## ВЕЧАРОВЫЯ МОДЛЫ

Ці калі давядзецца яшчэ
да ракі далёкай сысці?
Льецца ў мяне супакой,
цячэ
над прадоннем у гэтым жыцці.

## КАРЦІНА

Калі б маё сонца свяціла ўночы!
Сплю, вымаклы ў фарбах, адзін,
у мулкай пасцелі з карцін,
рука твая на горле маім,
душыць і катуе кожны мой міг.

Я прачынаюся з болем ад новага дня,
з надзеямі, як са скарбамі,
яшчэ не намаляванымі,
не выпацканымі фарбамі.

Я ўзбягаю высока-высока
да пэндзляў маіх засохлых,
як ўкрыжаваны Хрыстос, узнікаю,
да мальберта прыбіты цвікамі.

Са мною скончана?
Мне болей не жыць?
Мая карціна завершана?
Усё зіхаціць, ліецца, бяжыць.

Спыніся, яшчэ мазок,
там — чорны,
а тут — чырвоны, блакітны
колеры
перамяшаліся
і мяне супакоілі…

Пачуй мяне ў мёртвай пасцелі,
засланай скрухай,
трава маіх ссохлых слоў,
мілосць зніклая
і ўзніклая зноў,
мяне паслухай.

Я іду па жыццё тваё,
па душу тваю,
я рэшту гадоў тваіх п’ю.
Я праглынуў поўню твайго настрою,

тваёй цнатлівасці мрою,
каб стаць анёлам тваёй начы,
каб, як раней, цябе берагчы.

## ТВОЙ ПОКЛІЧ

Ці жыў, ці жыву, не ўцямлю як след.
Я на неба гляджу,
я не пазнаю свет.

Маё цела, як сонца, заходзіць у халады.
Карціны, кветкі, мілосць,
яны мяне клічуць туды і сюды.

Без свечкі маю не пакінь руку,
калі ахінецца цемрай маё жытло.
Як я ўбачу здалёку Тваё святло?

Як жа покліч пачую Твой,
калі застануся ў ложку сваім
і зробіцца цела маё і халодным
і ціхім такім?

* * *

Я, Твой сын,
па зямлі народжаны поўзаць.
Ты ў рукі даў мне фарбы і пэндзаль, —
я не ведаю, як выяўляць Цябе,
ці маляваць мне землі, неба, сэрца сваё?
Гарады, якія гараць, братоў, якія бягуць?
Вочы мае ў слязах,
куды мне бегчы, ляцець, да каго?

Нехта ёсць, хто дае нам жыццё,
нехта ёсць, хто дае нам смерць.
Ён можа мне дапамагчы,
каб карціна мая свяцілася радасцю.

## ЦЯПЕР

Усе мае дні я шмат маліцца не змог.
Дзе Ён?
Дзе Ён, мой Бог?
Ты чуеш, бачыш мяне?
Я хацеў цябе клікаць,
налямантавацца ўсмак,
ды я проста жабрак.

Цяпер я стары, час мяне змог.
Ты падымеш мяне да сябе,
мой Бог.

## ПРА ГЭТУЮ ЯСНАСЦЬ

Бог мой, за гэтую яснасць,
якой Ты душу маю насяліў,
дзякуй.

Бог мой, за гэты спакой,
якім Ты душу маю насяліў,
дзякуй.

Бог мой, ноч настае,
да світання зводзіць павекі мае,
і я намалюю нанова
карціны Табе
пра зямлю і нябёсы.

# Ісак Платнер

## *З НІЗКІ «ГЭТАГА НЕЛЬГА ЗАБЫЦЬ»*

* * *

Змакрэлаю і золкаю травой
У туфлях палатняных я ступаю.
Са счэзлай і схудалай чарадой
З смаленскага сюды патрапіў краю.

Паўстанак,
Поле голае вакол,
А я ў курортных туфлях недарэчных.
Чуваць, як забівае палі ў дол
Сярдзіты гром,
Падкрэктвае старэчы.

Гручыць трывога ў грудзі малатком.
А хмары дажджавыя невысока.
І матчына густое малако
На пысках у цялятак не абсохла.

Павыгнаў з дому ўсіх вайны агонь.
Кранаюць сэрца болем успаміны.
Я сам, напэўна, пападу ў вагон.
Каровак бедных тут адных пакіну…

*1959*

## АСЕННІЯ ВЕЧАРЫ

На ўскраіне люблю
Спаткаць асенні вечар,
Прыходзіць светлы сум,
Кладзе руку на плечы.

А горад даль забраў,
Наўсцяж смугой укрыўся.
Змяняюцца яго
Знаёмыя абрысы.

Хмурынак не вярнуць,
Як юных дзён, ніколі, —
Плывуць.
А з новым днём
Жаданняў новых болей.

Ты сам сябе пазнаў
Часінай звечарэлай.
У тонях воч тваіх
Змярканне дагарэла.

Ступае ноч, вядзе
З сабою тыя ночы,
Што зоркаю адной
Табе глядзелі ў вочы.

Успомніш кожны кут,
Як ты блукаў па свеце
І ўсё-ткі час цябе
Прывёў у вечар гэты.

Стараўся лістапад —
Салодка восень дрэмле.
Сканаць павінен ліст,
Астацца дрэвам дрэва.

Хапае вецер ліст
І цішыню ім цешыць,
Жыццё, што любіш ты,
Становіцца мілейшым.

*1957*

## ПЕСНЯ ПРА МЕСЯЦ

Даўно ў маіх вершах не ведае сноў
Дапытлівы месяц у небе вясновым,
Цяпер закахацца павінен я зноў,
Яго апяваць я павінен нанова.

Без зоркі світальнай, адзінай сваёй,
Без поўні і жыць немагчыма паэту.
Калі ты не можаш імчацца стралой,
Хай песня твая паляціць, як ракета.

Ракета ў Сусвет нашы мары нясе,
І Месяц асветлены сцягам чырвоным,
Ахоплены новаю радасцю ўсе,
І захапленне ў вачах міліёнаў.

Злачынства цяпер — да світання драмаць,
Як месяц глядзіцца ў прыціхлыя воды.
Ды той таямнічасці болей няма,
Якую з дзяцінства насіў я заўсёды.

Стаў месяц бліжэй, ён блішчыць, нібы сук
У гэтым пакоі на століі сасновай.
На палку я сесці гатоў, як хлапчук,
І свет за хвіліну аб'ехаць нанова.

Здаецца, што стаў я крыху маладзей,
Хаця галаву маю выбеліў іней,
Пісаць вершы цяжка, ды сёння лягчэй —
І я закахацца яшчэ раз павінен.

*1960*

## МОЙ АДКАЗ

> Паэт Анатоль Вялюгін запытаўся ў мяне аднойчы, чаму я так імкнуся, каб часта друкавалі мае творы, я ж ужо стары пісьменнік…

Спазніўся я, калі дзяліў багацце бог,
Тады з усімі разам я прыйсці не змог,
Дзяцінства сытае ў чужыя йшло двары, —
І я, засмяглы і галодны з той пары,
Калыску ўласную люляю праз гады.
І чую голас свой — як я крычаў тады!
Суметы пад акном — багацце ўсё маё.
І царства птушак — двое шэрых вераб'ёў.
І флора ўся мая — са слёзкамі вазон.
Квадрацік неба праз аконца мне відзён.
Лінеіў шыбіны асенні золкі дождж,
Я кроплі-літары чытаў ушыр і ўдоўж,
Я па замёрзлых, стылых шыбінах пісаў,
Лічыць па мігатлівых зорах спрабаваў.
І гэта школа першая мая была,
Было ў вачах замала сонца і святла.
Не мне вясна вясёлкі слала на зямлю,
Я юнаком не чуў пяшчотнага «люблю!».
І — крыўдна! — песень мала я пісаў якраз.
Які ж перад суровым часам дам адказ?
Які ж адказ на суд жыццю я панясу,
Калі пад сэрцам зноўку варухнецца сум?
Калі гады зноў прыйдуць і напомняць мне…
Бывае й так (хай кожнага яно міне!),
Камусьці хочацца душу сваю адкрыць,
А ўсе навокала маўчаць, нібы муры.
А абыякавасць — нібы туман густы.
Самотнік і паэт, каму патрэбен ты?
А я павінен з некім радасць падзяліць
І гора гараваць, надарыцца калі.
Ў маім радку жывуць боль, радасць, смех і сум
У слове — сілу, крозы ў песні я нясу.
Заззяе слова, дык падняць гатоў я крык,

Нібыта зараз зорку новую адкрыў.
Нашуся па сваёй планеце маладой,
Таварышаў-паэтаў клічу за сабой.
Любові мала мне, яе забраў не ўсю,
Хаджу, збіраю ўсмешкі з вуснаў я паўсюль.
Мне дораг кожны позірк — берагу яго,
Нібыта першабытны чалавек агонь.
Паэт!
Ты бачыў, мора ў скалы хваляй б'е,
Зіхцяць маланкі ў пырсках трапяткіх яе,
І калі ты на кроплі хвалю разаб'еш,
То захавае сонца кожная ў сабе.
І цень і сонца у сябе я увабраў,
Ды мала мне, бо гэтак многа спраў.
Ісці хачу я з маладымі у нагу,
І колькі б ні стварыў — мне мала.
Больш магу!

*1960*

## Рыгор Рэлес

### ТАКАЯ ДОЛЯ

Даўно ўжо дом пакінуў свой падмурак.
Даўно ніхто наўкола не жыве.
А дрэвы ў засені аблокаў хмурых
Стаяць здзічэла па сукі ў траве.

Пячэ спякота іх, сячэ залева,
Даймаюць беспрытульных халады.
Адно ўбаку стаіць самотна дрэва,
Ды да яго вядуць усе сляды.

Яму сукі выкручваюць, як рукі.
У ход ідуць і камяні, й кіі.

А дрэва помніць маладыя гукі,
Калі былі малыя салаўі.

Чаму ў яго такая злая доля,
Чаму за ўсіх пакуты церпіць так,
Чаму ўцячы адсюль не можа ў поле?
У яблыкаў ягоных райскі смак…

## У ДЗЯЦІНСТВЕ

Штаны я надзяваў даўгія
І тоўсты лапсердак стары
Ды з дзедавым яловым кіем
Хадзіў паважна па двары.

Мне рэзалі у нос і вуха
Два драцяныя абадкі.
І звякалі ў кішэнях глуха
Не медзякі, а чарапкі.

Я пераймаў дарослых смела,
І мне здавалася:
здаўна
Я знаю ўсё і разумею,
Але — агледзеўся аднак.

Нашто спяшацца так?
Не кепска
Быць непаседным хлапчуком,
Імчацца ў бесказырай кепцы
Навыперадкі з раўчуком.

Кій, акуляры і асколкі
Пад плот я выкінуў,
Тады
Здзівіўся і заўважыў толькі —
Дарослым стаў я сапраўды.

*1937*

## ДОМ

Не моўкне бусліны клёкат.
Мой дом не мяняюць гады.
Хоць шлях да яго недалёкі,
Ніхто не заедзе туды.

Заўсёды блішчаць аканіцы,
У печы смыляць смалякі,
Ступае прамень па масніцах,
І фікус рагаціць сукі.

А дзверы не скрыгнуць паволі,
Замок прабояў не гне.
Мой дом не прытуліць ніколі
Нікога — і нават мяне.

Той дом, дзе тугую яліну
Клаў бацька для ўсіх на вякі,
Застаўся стаяць ва ўспамінах, —
Мне пахнуць смалою сукі.

## САЛЮТ

Што гэта?
Светла стала мне ў вачах.
Я не магу ад радасці ўтрымацца:
Смяяцца хочацца і плакаць.
У дзвярах —
Гляджу: стаіць мая старая маці.

Яна ўваскрэсла,
Зноўку тут са мной,
Туга ў яе паглядзе гасне.
Яна стаіць, маўчыць.
Я сам не свой.
І ад яе усмешкі гэткі шчасны.

Не, гэта ўсё не сон!
Я чую гром.

Сто дваццаццю гарматамі віншуе
Мяне Масква.
Дзень добры, Беларусь —
мой родны дом!
Гасцінец родны,
што вядзе у восень залатую.

Чужынцы рвалі яблыкі з галлём,
І на суках віселі нашы дзеці.
— Не плач, матуля!
Зараз зажывём,
Мінула ўжо страшное ліхалецце!

Не плач, матуля родная!
Павер —
Зноў жыту красаваць на родных гонях,
І ад антонаў, і ад слуцкіх бэр
Зноў верасень аскоміну нагоніць.

*1944*

## НЯМА АДРАСАТА

Галубом-шызаром
ліст вярнуўся ізноў,
Анямелым клянецца мне плачам.
Ён імчаўся, як мог,
наабгонкі з вясной, —
Толькі выпушчан позна, няйначай.

Каля сцен абгарэлых
старая адна
Журботна глядзела на адрас,
І слязінай наклеіла
марку яна —
Не сваю апусціла радасць.

Перачытваю,
лашчацца словы ка мне —
Ссірацелае радасці дзеці.

І, як прорва марская,
нянавісць і гнеў
Закіпаюць глыбока дзесьці.

Гэта мора ўрываецца
ў мары і ў сны,
Патрабуючы лютай адплаты.
І чарнеюць над прорвай,
як два груганы,
Словы злыя:
«Няма адрасата!»

*1944*

## БЫЦЦАМ ПТУШКІ

Яны ляцяць за мною,
Успаміны,
З усіх маіх дарог,
З бароў, з яроў.
Каб толькі мог
Прагнаць я ў міг адзіны
Іх з памяці,
Як з плота снегіроў!

Вось з лесу голага
Да хат пагрэцца
Мароз іскрынкі
Зябкія занёс.
Што выглядаюць,
Быццам пагарэльцы,
З-за ледзяшоў, —
Ці свой птушыны лёс?

Тут для галодных птушак
Зерня ўволю,
Не страшныя ў зацішку
Халады.
А вы, мае ўспаміны,
Даўні боль мой,

Што жывіць вас?
Што вабіць вас сюды?

## ЗАПОЗНЕНАЯ ВЯСНА

Каштан пупышкі ў кулакі сціскае,
Не хоча выпускаць на холад лісце.
Лістам зусім няўцям, пара якая, —
Ірвуцца: «Мы на волю хочам выйсці!»

У люты час усё жывое вяне.
Сок з каранёў прэ з сілаю сляпою.
Нялёгка гэта — вытрымаць змаганне
На смерць ці на жыццё з самім сабою.

З астатніх сіл пупышкі заціскае
Каштан, каб на мароз не выйшла лісце.
І як на ліха, сівер не сціхае.
Лістам няма ратунку, просяць выйсця.

## САЛАДЗЕЙ АД МЁДУ

*Мікіту Падрэзу*

Пісаў парою сябар,
Пісаў парою брат —
З майго мястэчка Чашнікі
Ішло мне пісем шмат.

Заўжды дакладна ведаў,
Што́ ў роднай старане.
Было жаданым госцем
Пісьмо любое мне.

О, вестуны крылатыя,
Чакаў я гэтак вас —
Ажно на паштальёна
Злаваўся я не раз.

Абнялі край пажары,
Чакаў, а ўсё няма
З майго мястэчка Чашнікі
Жаданага пісьма.

Пад мірным, ясным небам
Сінее ў полі лён.
І грукаецца зноўку
У дзверы паштальён.

Мне падрабязна піша
Пра ўсё стары сусед,
Што сёлета ў мястэчку
Сады цвілі як след.

Мікітаў дробны почырк
Адразу я пазнаў.
Яны, бывала, з бацькам
Сядзелі дапазна.

«Здароў, Рыгорка!» — піша.
Яшчэ з дзіцячых год
Я помню тыя словы
Пяшчотныя яго.

А далей — папракае —
Мне беднаму бяда!
«Нядобра адракацца
Ад роднага гнязда.

Зусім ад рук адбіўся,
Дарогу мо забыў?
А ўспомні, як, бывала,
Ты салаўёў любіў.

Прыехаў бы, паслухаў,
Аж гай звініць цяпер.
Уладзілі б у школу
Настаўнікам цябе.

Ты быў бы ў кожнай хаце
Такі жаданы госць.
Цяпер у нас электрыка
І тэлевізар ёсць.

А клуб прасторны, новы,
Як гарадскі зусім.
І для твайго вяселля
Хапіла б месца ў ім.

Калі ж ты там абжыўся, —
Шчаслівы будзь,
Ды нас
Не забывай
І ў госці
Хоць заязджай падчас.

Я ад цябе сакрэтаў
Ніколі не таю —
Сасваталі нядаўна
Малодшую маю.

Калі вяселле будзе, —
Я напішу пасля.
Вітанне ад Агаты,
Ад Бэркі-каваля.

Прыедзеш — дужа рады
Ўсе будзем земляку.
Спяшай, брат, пакаштуем
Салодкага мядку.

Цябе заўжды чакаем
І ўлетку, і зімой».
Мне саладзей ад мёду
Ад землякоў пісьмо.

*1957*

## САД

Не зайсці ў гэты сад —
быццам бацькаву хату мінуць.
Тут маленькім знаёма
мне кожнае дрэва.
Помню, у сцюжу з саломы,
як з пялёнак, глядзелі яны.
А цяпер на галінах
яблыкі дрэмлюць.
Бацька дрэўцы ў мароз
спавіваў клапатлівай рукой.
Год ад году
сукоў станавілася болей.
Як румяных сынкоў,
зараз гушкае яблыкі сад.
Толькі саду не ўбачыць
мой бацька ніколі.
Чуеш, бацька,
як грукае яблык цяжкі?
Чуеш, родны? —
не згінула праца дарэмна!
Не зайсці ў гэты сад —
быццам бацькаву хату мінуць.
Тут, як сябру,
махае мне кожнае дрэва.

*1960*

* * *

Маланка, што ў глыбокай ночы
Згубіла іскру наўздагад,
Твае напамінае вочы,
Апошні, дзёрзкі твой пагляд.

Твой вокліч ростані з пяшчоты,
Хоць ты знікала неўзнаку,

Напамінаюць мне грымоты
У маладым беразняку.

Мне верыцца, што не паспела
Далёка ад мяне пайсці.
Чароды год ляцелі смела,
Не затрымаліся ў трысці.

## МАЛАДЫ БУСЕЛ

Ля хмары роднае гняздо,
Не слухаюцца крылы.
І боязна зірнуць на дол —
Яго смуга закрыла.

Цыбаты думае,
                    але
Кідаецца ў прадонне,
І — паляцеў
                далей,
                        далей!
Вятрыска шустры гоніць.

Якое шчасце —
                    першы ўздым!
Хмурынкі — лёгкім дымам.
Вышэй,
Мой бусел малады,
Усё табе магчыма!

*1936*

## АТОЖЫЛАК

У шумных прысадах гасцінца
Сваціў сваёй лысінай пень,
Любіў ля яго прыпыніцца
Пад вечар
              знясілены цень.

Стаяў, быццам камень замшэлы,
Як памяць аб дрэве старым.
Атожылак раптам нясмела
Прабіўся на свет з-пад кары.

Ранейшую сілу адчулі
Старыя карэнні ў зямлі.
І ўнука маленькага чула
Яны пад апеку ўзялі.
Нароўні з бярозамі дзяцел
Яго аглядае.
Зарой
Туманы ў затоку глядзяцца —
Атожылак мыюць расой.

*1947*

* * *

Калі вятрыска дрэмле
На йгліцы маладой,
Наведаецца ў госці
Тады да ўсіх спакой.

Званцы ў палях застынуць,
Мячэўнік на вадзе.
Чуваць:
хадою ціхай
Спакой ідзе-брыдзе.

І ў гэтай цішы раптам
Раздасца слабы шум —
Вярба да слёз жадае
Раскрыць сваю душу.

— Калі б я дубам стала,
Не слала б голле ніц,
А горда б сустракала
Атакі навальніц.

Шумела б над усімі
У сонца на вачах
І вецер бы трымала
У жылістых суках.

Калі б была бярозай,
Зялёнай, маладой,
Ураз зачаравала б
Ваколле ўсё сабой…

Спакой па травах ходзіць,
Спакой маўчыць, глядзіць.
І толькі клён нарэшце
Не вытрымаў адзін:

— Скажы, навошта плакаць,
Навошта слёзы ліць,
Ні дубам, ні бярозай
Павек табе не быць!..

Прачнуўся тут вятрыска —
Прытулак кінуў свой.
Але ж куды падзеўся,
Куды пайшоў спакой?..

*1952*

## ДЗЕ ЗНАЙСЦІ?..

Як у мяне ўсё кепска,
Хоць крычы, —
Прыходзіць добрым вестуном спагады.
Стараецца хоць чым дапамагчы,
Няўпэўненай маёй удачы рады.

Калі ж усё наладзіцца ў мяне,
І мне Фартуна хмурая ўсміхнецца,
Яго зайздросць шалёна захлыне,
Ад прагнай злосці як не разарвецца.

«І што за чалавек ён?» —
Іншы раз
Пытаюцца ў мяне,
А я ў адчаі,
Не ведаючы, дзе знайсці адказ,
Разводжу рукі, ціскаю плячамі…

## З КІРМАША

Шуміць у галаве ад шуму,
Трывогай поўніцца душа,
Хай сёння ўсе мяне віншуюць —
Іду дадому з кірмаша!

Бы ўчора выйшаў я ў дарогу.
Няўзнак за годам год мінуў.
Я нёс ці многа, ці нямнога —
Цяжар прыгнуў маю спіну.

Іду я крокам нетаропкім,
Не так, бы ў першую вясну.
Яшчэ і рана ставіць кропку,
Ды шмат чаго ўжо не вярнуць.

Мяне не памінаюць ліхам —
Вяршыў з усімі разам стог.
І чэсным мазалём,
і рыфмай
Дапамагаў — наколькі мог.

Мы ўсе ішлі не бітай сцежкай —
Уцэла крочылі ў жыцці.
Не многім выпала, канешне,
Да кірмаша хацця б дайсці.

Сігналяць іншыя, каб збочыў, —
Ім стала вузкаю шаша.
З машын пазнаць мяне не хочуць.

Няхай!
Мы разам з кірмаша…

Ківаю кветкам,
дрэвам,
травам.
Іду я, можна не спяшаць.
Я сам сабе не веру нават —
Іду дадому з кірмаша!

*1960*

## ПА ПРЫСТУПКАХ
*Урыўкі з паэмы*

Калі замоўклі грозныя гарматы,
І дым растаў, і адплыла жуда,
Узбуджаны, здарожаны, падцяты,
Вярнуўся я да роднага гнязда.

Старэла галасценная хаціна,
Маё жытло пусціў агонь на тло…
Маіх чаканых, дарагіх, адзіных
Ужо на гэтым свеце не было.

Ды спадзяваннямі добрыя суседзі
З душы маёй хацелі выгнаць страх:
А раптам ды застаўся нехта недзе, —
І нікаў я па вёсках, хутарах.

Глядзець на маладзенькую таполю
Не мог у непрытомным забыцці.
Я па начах не мог заснуць ад болю,
І месца ў хаце я не мог знайсці.

У галавах яны ў мяне стаялі,
Здаецца, чуў я крык іх і адчай.
І нават чарка не глушыла жалю.
Я свой кароткі сон лічыў за рай.

Ды трэба ўсё ж было знайсці занятак,
Да нейкай прыстані прыстаць, а тут
Яшчэ і муза да ўсяго ў дадатак
Будзіла, зазірала ў кожны кут.

І занатоўваў я радкі, дарэчы,
Усплывалі, быццам хвалі, з даўніны,
А потым кідаў іх у пашчу печы —
Гарэлі сінім полымем яны.

Задуманы, разгублены, штоночы
Будзіў, самотны, я ўцалелы брук.
І дужа рады быў, калі аднойчы
Знайшоўся ў Мінску даўні мой сябрук.

Паэт таго гарачага пачыну
І закліку магутнага таго…
Пакінуў я мястэчка і хаціну
І тут жа ў Мінск падаўся да яго.

Агульнае было ўсё ў нашым лёсе:
Ён страціў сына й жонку ў калатні,
Кватэры і ў яго не засталося,
І вершы спапяліліся ў агні.

Хоць быў са мною па няшчасці цёзка,
Яму характар іншы выдаў кон,
Як сам парыў, твары́ў, імкнуўся дзёрзка,
Напорыста ішоў да мэты ён.

І па прыступках дзёрся да Парнасу
З запалам большым, чым раней, таму
Пісаў паэмы, вершы ў гонар часу,
І слава не давала спаць яму.

Няхай стараецца мой сябар ўпарты,
Мая сцяжына іншая зусім.
Напіўся гора я з глыбокай кварты,
Хутчэй хацеў забыцца аб усім.

Каму патрэбны крык душы, адчаю
І строфы пра пакуты і пра кроў!
Бо кожнаму і так бяды хапае,
Навошта развярэджваць раны зноў?!

Ужо напісана пра ўсё нямала,
Што я магу яшчэ дадаць пра жах?..
Маё пяро паперу не кранала,
Каб гора разлівалася ў радках.

Я прызнаваў адно шляхі такія,
Дзе кожны жыць прывык сваім жыццём,
Дзе кожны быў, як вольная стыхія,
Ніхто нікога не штурхаў лакцём.

І без мяне стае, хто лётаць меціць
Над прорвай недасяжнай вышыні.
Але, калі смяецца ў небе месяц,
Душа святлее ў ціхай дабрыні.

Аформіўся настаўнікам у школе,
У працу акунуўся з галавой…
А муза што? І без мяне даволі
Такіх, хто хоча ўпадабацца ёй.

Хоць і не лічыць кавалерам сталым,
Ды чую, муза ўсё ж не адстае.
Я вучням Пушкіна з такім запалам
Чытаў, як вершы родныя свае.

І ўсё ў такім душэўным хваляванні,
Нібыта сам я гэта ўсё стварыў.
Радкі, і вобразы, і разважанні
Адзін лірычны захлынаў наплыў.

Шчаслівыя былі хвіліны тыя,
Калі я адчуваў, бы ў багастве,
Як з сэрца майго ў сэрцы маладыя
Свяшчэннае цяпло святлом плыве.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цягнулася душа на лугавіны,
Да бацяноў, да ціхашумных ніў,
Да смелай сакавітай зеляніны…
Я дні лічыў і адпачынак сніў.

Здаралася, з паважнасцю паўліна
І сябра мой тут выплываў зрэдчас,
Трымаўся гэтак годна і карцінна,
Бы з п’едэстала ён сышоў да мас.

Ішоў, нібы пазіраваў, вяльможны,
Здавалася, ён з вечнасцю на «ты»,
І пэўніўся — яго пазнае кожны,
І ўсе глядзяць, разінуўшы раты.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я зразумеў: ён цацка ў самалюбства,
Якое сустракаецца ў жыцці,
Яно падчас рабіць дазволіць глупства
І нават з музай подручкі ісці.

Як сябра мой ужо ўвайшоў у ролю
І сесці на Парнасе захацеў,
Яго бязлітасна падсекла доля.
У смутнай песні сумны быў прыпеў.

Бог ведае, за што прыняў пакуты,
За што яго змяніўся гэтак лёс?
Мяне адгадкі катавалі люта,
І мой адчай адгадак не прынёс.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

* * *

Цень і святло, святло і цень не самі
Мы ўпарта чаргавалі на зямлі.
І вось прыйшлі са сталымі гадамі,
І вось мы ў форму новую ўвайшлі.

Іду ля пастарэлага мужчыны,
Дык гэта ж сябра мой, пазнаў ледзь-ледзь.
Дзе хвалі чорныя густой чупрыны?
Няма іх, свеціць лысіна, як медзь.

Мы на сабе адчулі гора подых,
Адна дарога, іншае няма,
Па-рознаму ішлі, ды для абодвух
Гады прайшлі па-свойму недарма.

Не згас мой сябра ў ранішнім запале,
У працы засталася тая ж люць,
Яго друкуюць і ў арыгінале,
І ў перакладах густа выдаюць.

Абмежаваўшы свой парыў лірычны,
Я ад Парнаса адышоў, аднак,
Я вучняў прывучаў, да працы звычны,
У слове адчуваць душу і смак.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Два не зусім вядомыя паэты,
Ідзём за ценем адвячорка ўслед,
Я — сумны, ціхай ласкаю сагрэты,
Ён — дзёрзкі і няўрымслівы паэт.

Ён крыўдзіцца, што выдаецца мала,
Што мала ўвагі, гонару яму.
Жыццё, здаецца, добра паламала,
Ды ўрокі прыдаюцца як каму.

На ўзлёце зноў, не хоча скласці крылы,
Ён піша творы новыя свае.
Нібыта ў ім зачараванай сілы
Зашмат і сіле выйсця не стае.

Ён родным словам непапраўна хворы.
А можа, муза хоча, каб на свет
Прабіліся ў пакутах вечных творы,
Каб у душы пакінулі свой след.

А можа, самалюбства ў ім бунтуе
Ці што накшталт завеі ці дажджу.
І я яму дарую слабасць тую —
Я ўжо на гэта ўсё інакш гляджу.

А сябра пойдзе аж да небакраю,
Раз у такіх гадах такі імпэт!
А што яшчэ ў жыцці яго чакае?
Як ні круці, ён сапраўды паэт!

## Хаім Мальцінскі

### ЯДЗЕРЦА

Арэшак даспелы, што выпетраў суха,
Любіў я ў маленстве патрэсці ля вуха.
Пачуць для мяне кожны раз было нова,
Як б'ецца жывая, тугая аснова.
У ёй было столькі агню, столькі сілы!
З часін тых мне ядзерца дарага, міла.
Жыццё! Я сцвярджаць табе не перастану:
З ядром, як арэшак, будзь пругкім, крамяным!

* * *

Віцьба ціха плюскоча,
Віцьба ціха мялее.
Небу ў сінія вочы
Пазірае алея.
Ціша поўніцца шумам —
Лісце шэпчацца лена.
Крочу ўпоручкі з сумам —
Мо цябе тут сустрэну?..
Цень ад плоту драбіны

Да кляноў прыстаўляе.
Спелая арабіна
На мяне пазірае.
Ад крывава-пунсовых
Ягад стала балюча.
Мне не вымавіць слова,
Горыч — болем пякучым.
Помню, тут арабінка
На марозе залела.
Арабінка-дзяўчынка,
Ты даўно пасталела.
Біла ліўнем свінцовым,
Уцалела ты дзівам.
Як крывава-пунсовых
Ягад шмат урадзіла…

## КАНВЕЕР

Усё канвеер цягне
паслухмяны:
процівагазы, гальштукі,
бананы,
капелюшы,
дзіцячыя панамкі,
калыскі й бомбы,
трактары і танкі.

Нібы той конь сляпы
па зыбкай багне,
жыццё і смерць
канвеер моўчкі цягне.

* * *

Старая, што з базару ціха йдзе
І ў кошыку нясе антоны, моркву,
На шыі — залаты вянок цыбулі,

Не ведае, што у завулку змоўклым,
Услед ёй гледзячы, шапчу я кожны дзень:
«І заўтра ты здаровай будзь, бабуля,
З базарам разам, з горадам ты будзь
Здаровай,
Бо ноччу не магу заснуць, —
Мне сніцца злое полымя сурова».

* * *

Шліфуюць каменьчыкі хвалі да поту,
Абточаць, адкінуць — і зноў за работу.
Каменьчыкаў многа, ды марны занятак
Шукаць сярод іх двух падобных блізнятак.
Каменьчык расінкай паблісквае зыркай,
А гэты — забытай ляжыць бесказыркай.
Каменьчык нагадвае возера Рыца,
На момант застыла на тым бліскавіца.
Каменьчык — скамейка, старая камода.
І дрогнула сэрца — пад'едзе аднойчы
Такі катафалк, што чарнейшы ад ночы,
Каменьчык, як заяц, як дзядзька з бязменам,
Як бохан з патухлымі зоркамі кмену,
А той працаўніцы нястомныя — хвалі
Тугім паяском абвілі вакол таліі,
Нібы маладую бярозку-дзяўчыну.
Цюленіха сонцу падставіла спіну.
Адчай, захапленне, усмешкі, маршчыны,
Адбітак вялізнай далоні мужчыны.
Шліфуюць каменьчыкі хвалі да поту,
Абточаць, адкінуць — і зноў за работу…

* * *

*Сідару Конанаву*

У полі ў студзеньскую імжу
стаю,
не налюбуюся з пярыны чыстай…
І радасць не таю сваю,
што пачарнелым лістам
пад ёю не ляжу,
а ўсё яшчэ я мітушуся,
нібы той верабейка шустры.
Салдатам чэсным у баі
быў я,
не гнуўся да зямлі,
калі
куль смертаносныя раі
над галавой маёй гулі,
Дык асалоды кропельку
магу сабе дазволіць:
стаяць у белым-белым полі,
на міг не думаючы пра недаўгавечнасць
касцей трывалых чалавечых.

* * *

Аблачынка
белымі пальцамі водзіць нібыта.
І я ўспамінаю раптоўна жудасныя харомы…
Там пальцы мне выпроствалі, каб атрымаць адбітак.
Хоць зараз глядзець на неба
мне трэба прасцей, вядома,
Далёкія параўнанні ў памяць прыходзяць самі.
На грэшнай зямлі нікуды ад іх не ўцячом мы з вамі.

* * *

Прывёз з Сібіры прыказку
І ўраз
Задумаў перакласці —
Ў добры час!
Ды не —
Лягчэй сягаць на пікі стром!
А словы грозяць —
Не бярыся — спляжым:
«Живы будем — не умрём,
А умрём — попляшем…»

* * *

Праз трыццаць год перада мной зноў узнік
З усмешкай хітраватаю Ліпэ Разнік*.
Мне губы поўныя тады сказалі так:
«Амбон — спакуса, стрымлівай сябе, юнак.

Радзей паказваць трэба слова дыямент,
Каб ён, як бліскавіца, азараў Сусвет».
Ягоных слоў тады не зразумеў ані —
І да амбону рваўся тры разы на дні.

* * *

Мой душэўны сусед, нездарма-такі
Шчыра твой сцерагу спакой:
Ты — адзіная мне граматыка,
Ты, дзядуля, і слоўнік мой.
Сумнявацца пачну я ў выразе
(Хай свавольства радок міне!) —
Слова матчына,
Слова шчырае
Ты адразу знаходзіш мне.

* Ліпэ Разнік — вядомы яўрэйскі паэт, памёр у 1940 г.

У радзімках, у мілых крапінках…
Нібы вішня пасля дажджу,
Слова свежае з бояззю кратаю,
Размаўляю з радком, хаджу.
Льецца родная мова вершамі,
Зноў удачы са мной дружыць!
Сэрца б'ецца з трывогай першаю,
І пяро у руцэ дрыжыць.
Мой душэўны сусед, нездарма-такі
Шчыра твой сцерагу спакой:
Ты — адзіная мне граматыка,
Ты, дзядуля, і слоўнік мой.

## СЭРЦА КРЫНІЦЫ

Як добра не знацца
Са смагаю злою, —
Я студню ма́ю
З крынічнай вадою!
Над цемраддзю студні
Люблю нахіліцца
І слухаць, як б'ецца
Сэрца крыніцы…

* * *

Я ўспамінаю вір круты
І ціхую раку,
Калі мяне вітаеш ты
І падаеш руку.

Сем вуліц абысці ў журбе
Гатоў крадком,
Каб толькі не сустрэць цябе,
На твой каб не наткнуцца дом…

* * *

Колькі вёсен і зім ні міне,
Будзе весніцца мара адна:
Каб узняў добры вецер мяне,
Як пылінку,
Хоць на хвілінку,
Да разнасцежанага акна,
Запаветны
Твой сёмы паверх —
Маё сёмае неба,
Павер!

* * *

Пад нагою маёй храбусцяць камянькі —
Так авёс па начах дома хрумсталі коні.
Ад мяне, нібы сарна ў гарах ад пагоні,
Ты ўцякаеш, бяжыш наўпрасткі, нацянькі.
Я крычу. Мора хвалі сярдзітыя мкне,
Заадно з табой сёння і мора і вецер —
Заглушаюць мой крык. А пакутлівы Вертэр
Быў, відаць, разы ў тры маладзей за мяне.
Дык з табою ў нас і узросты розныя,
Толькі ж сэрца ніколі не слухае розуму.

## СТОЛЬКІ ПЕСЕНЬ У МЯНЕ

Столькі песень у мяне
Для цябе,
Мой сын,
Колькі мае майскі дождж
Сонечных дажджын.
Пералічыш
Кроплі ўсе,
Мой маленькі птах,
Пакладу табе тады

Сонца ў галавах.
Зайкі рана прыбягуць,
Толькі стане днец,
Каб на сонца
Праз свае
Шкельцы паглядзець.
А калі цябе,
Мой сын,
Зай будзіць пачне,
Не спалохай ты яго —
Слухайся мяне.
Зайчык сонечны скакаць
Будзе па сцяне.
Вось і ўся табе,
Мой сын,
Песенька ў мяне!

* * *

У мора сонца йдзе на даляглядзе.
І смужыцца зялёная гара.
І хочацца, як свойскага зубра,
Яе спіну рахманую пагладзіць.
І цягнецца рука мая.
Да дня
Так цягнецца вясной тапаляня.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Зялёная, нібыта глыбіня,
Пад вечар ласкавее вышыня.

* * *

Дыхае у духаце
Цяжка мора блізкае.
Светлячкі, як аганькі,
Летняй ноччу бліскаюць.
Іскры іскрацца чаму,

Ты ці знаеш, зорачка? —
Светлячкі цалуюцца
Да світання горача.

## МОРА АДПАЧЫВАЕ

Апоўначы прачнуўся, як дзівак:
Хто гэта дыхае трывожна так?
Цямноты аніхто не зварухне,
Чуваць трывожнае дыханне мне.
Дык гэта ж мора!
Расчыніў балкон.
Я здагадаўся —
Мора морыць сон.
Нібы пасля напружанага дня,
Стамлёная, ўздыхае глыбіня…

## У ТРАМВАІ

Імчаўся перапоўнены трамвай.
Я да рукі даткнуўся загарэлай, —
Дыхнула поўднем, сонцам пераспелым
І морам, дзе раздолле з краю ў край.

Мне трэба прабачэння папрасіць,
Ды мой язык знямеў, маўчу, прыціхлы,
І ад рукі асмуглай, як на ліха,
Адвесці пальцы не хапае сіл!

Жанчына зразумела дзівака
І мне сказала ўсмешкаю гарэзнай.
Мой гэты грэх даруе, раз прынесла
Так многа радасці яе рука.

Імчаўся перапоўнены трамвай.
Я да рукі даткнуўся загарэлай, —
Дыхнула поўднем, сонцам пераспелым
І морам, дзе раздолле з краю ў край.

## БЕЛАРУСКАМУ ПАЭТУ

Здаецца, стала неспакою меней.
Я ведаў, што мяне ты зразумееш.
І я не памыліўся, любы брат.
Ты ж сёння ў лесе чуў, як па-яўрэйску
Я з дрэвамі пагаварыць быў рад.
Крамянае, ляцела рэха гулка,
Будзіла лес асенні, залаты.
Цябе краналі
Мовы маёй гукі,
І зразумеў усё да кроплі ты.

## ЯК СЕМ СОНЦАЎ

Радкі кідаеш з хлудам,
Як бёрны злы парадчык, —
Ля іх з шархеблем, склюдам
Паходзіць перакладчык!

Не! адшліфуй да бляску
На мове маці слова,
Каб абагрэла ласкай,
Паходняй ззяла новай.

Хай свеціць над зямлёю
Ў сем сонцаў днём і ночкай,
Хай будзе, як старое
Віно ў дубовых бочках!

* * *

У цэнтры сталіцы — дзе-небудзь з краю
Дзвюх добрых бабулек-знаёмак я маю.

І Зелда, і Голда — дзве родныя сёстры.
Да іх, як дадому, заходжу я проста.

Парог пераступіш — і ўмомант з пакоя
Павее лагодай і ціхім спакоем.

Частуюць бабулькі варэннем і чаем,
А я, зразумела, ім вершы чытаю.

Пагодзяцца вочы ад ласкі і згоды
У крытыкаў строгіх — у Зелды і Голды.

* * *

*Рыгору Бярозкіну*

Калі за стол саджуся ў вечаровай цішыні,
На чысты ліст кладзецца цень майго пяра,
Глынае недзе рыба рыбу ў глыбіні,
І небяспека шэпча:
«Мне ў паход пара…»
У гурбе цвету грэе вішанька плячо.
Гарыць ля любага, як зоранька, дзяўчо.
Акраец свежы сніць знясілены малыш,
Кішыць жыццём і смерцю зманлівая ціш,
Калі гляджу на ліст, што як бяроз кара.
Стаіць, не калыхнецца цень майго пяра.

* * *

Буду ляжаць я,
спакойны, рахманы,
І не змагу я ўсміхнуцца нават.
Я, той, што ад смеху хістаўся, як п’яны,
З кім бор-тугадум рагатаў картава.

І ў шлях апошні праводзяць людзі,
Губы сціснуць вясёлыя душы.
Ніхто ні на кога глядзець не будзе,
Бо смехам раптам усіх іх здушыць.

Успомняць, як я рагатаў калісьці,
За бокі ўзяўшыся, аж да зморы.
І толькі губы шчыльней падціснуць:
Навокал вочы, і неяк сорам

Ісці за нябожчыкам так бадзёра.
Хочаш не хочаш — будуць павінны
Галовы ніжэй нахіляць ад гора,
Каб не рассмяяцца над дамавінай.

Адзін утрымацца не зможа болей —
І смех, як мячык, ад бруку адскочыць,
І ўсе засмяюцца ўслед на волі,
І вуліца ўся загрыміць, зарагоча.

А я, што ад смеху хістаўся, як п'яны,
З кім бор-тугадум рагатаў картава,
Ляжаць, пэўна, буду,
спакойны, рахманы,
І не змагу я ўсміхнуцца нават…

* * *

Здзівіць мяне хочацца
пяцігадоваму хлапчуку,
каменьчыкі ён шпурляе ў раку —
адзін, другі,
каб далёка-далёка разыходзіліся кругі
і хвалькі.
Чакае малы,
калі яго дзядзька пахваліць…

Я старэйшы за яго на паўвека,
словы шпурляю ў сшытак свой,
недарэка,
і хачу,
каб свету стала цёмна ўваччу
ад дзіва,

ды ў адказ — цішыня.
Падвойная гульня…

* * *

З усіх маіх дзён і гадоў,
Якія прасеялі
Навальніцы і замеці,
У залатых ліповачках памяці
Асталася радасці жменька —
Калі не меней, —
Дый тая з горам напалову,
А рэшта
(Ды што тлумачыць урэшце!) —
Палова
        і высеўкі —
Паўнюткае рэшата.

* * *

З ног абмятаю снег,
Нібы бяду-нуду.
Дом — ціхі мой начлег.
Я да сябе іду.
Ступае следам страх:
І сумна, і шкада,
Што не бясконцы шлях
Да любага гнязда…

# Паплечнікам па духу, сябрам па жыцці

## Незабытае, векавечнае

### ВЯСНОВАЯ ЗАМАЛЁЎКА НА БЕРАЗЕ ВАЎЧЭНСКАГА ВОЗЕРА

Возера стаіць, не зварухнецца,
Бо агеньчыкам надкручнай хаты
Аж да дна, нібы цвіком, прыбіта, —
Каб не ссунулася анікуды.

Быццам купінка з сухой іглiцы,
Недаверлівы спяшае вожык,
Чмыхае лычком сваім кірпатым,
Нюхае — ці не прайшла палёўка?..

Драч на непадмазаных калёсах
Туманы сушыць вязе на тоні,
Кнігаўка (за дзень недакрычала!),
Як з хвастом ушчэмленым, галосіць.

Пахнуць туманы аернай рыбай.
Точыцца з зямлі адталай мята…

От і ты зайшоўся ў шчырым спеве.
Добры вечар, салавей знаёмы!

Ты ці помніш пра старога Іцку?
Ён жа ў вёску вёз у бочцы дзёгаць,
Чорт падскочыў, з бочкі шпунт адторкнуў, —
І закапаў на дарогу дзёгаць.

Гэта ж ты яму крычаў з бярозы,
Папярэджваў дзегцяра старога:
— Іцак, Іцак!
Дзёгаць выцек —
Кап, кап,
Ццюрр-руру!..

Выбеглі ў сяле суседзі нашы
З вёдрамі — Максіміха, Казліха,
Ну а ў Іцкі — ані каплі дзёгцю.
Як жа мне шкада было старога.

Дзякуй за ўспамін табе, залётны!..

*1963*

* * *

Апошнія паэты яўрэйскія.
Каму чытаць ім вершы свае на ідыш?
Ці ветру ў полі,
Ці дрэву, якому журба дагінае голле?
Верш кожны на ідыш,
Як той падкідыш, —
Прылашчыць няма каму.
Старыя сваё адсмяяліся, адбедавалі, адплакалі,
Пайшлі да продкаў.
А тыя, што вымудраюцца
Надтачыць век свой кароткі, —
Аглухлі, адвыклі, адвучаныя
Чуць словы балючыя.
І, як чужая, моладзь ані зважае.

На ідыш не адгукаюцца ў мястэчках сабакі.
Па-яўрэйску не чырыкаюць вераб'і-гулякі.
Забыліся й вераб'і з гадамі,
Што іх беларусы называлі «жыдамі».
Ні школаў, ні вучняў.
Толькі сякія-такія словы
Па дарозе на перавозе
Упалі ў далоні цёплыя беларускай мовы.
Мне цьмяна прыгадваецца, наплыўна бачыцца,
Як, не разбудзіўшы грук,
Ляцелі з вокан на перадваенны брук
Кніжкі з незразумелымі літарамі.
Здавалася, гэта не літары хітрыя,
А на снезе ля нашае хаты
Птушыных лапак прайшлося багата.
Зачыняліся школы ў мэтах адзінамоўя
Ці нібыта ўзаемапаразумення —
Перад лютай зімою для анямення.
Хоць дагэтуль вякамі
Янка й Янкель, Зося й Зэлда
Кожны па-свойму мовілі, гаварылі, гукалі
І адно аднаго разумелі.
…Кнігаўкамі сумнакрылымі
Кніжкі яўрэйскія на брук забыцця ляцелі
Перад чарговай вайною.

…Гляджу на кнігавак беларускіх
І тых сумнакрылых выгнанак
Успамінаю з бездапаможнай віною.
Успамінаю й баюся.

…Вольна жывецца скрусе
На Беларусі…

*2000*

## НАД ЯМАЙ

Галовы схілім
Над жахлівай Ямай.
Яна нямая,
Бо не мае дна.
Ахвяраў наглыталася яна.
Суцішымся над Ямай
Прагнай самай.

Палеглі тут
Прапраўнукі Майсея,
Вясёлыя і сумныя ў жыцці,
Каб травамі журботнымі ўзысці,
Пакуль зямля лысее ды лясее.

Аблокі думак
Счэзлі ў змоўклай Яме,
І шлях з Егіпту
Абарваўся тут.
Іскрынкі веры на адчаю трут
Красаліся ў апошняе праяве.

А неўміручасць крэсіва трымала,
І неба жалю
Хмурыла чало,
Каб ветах Запавету
Ліў святло
У сямісвечнік
Смутна і трывала.

…Ці прамянём сягай,
Ці ледзьве кламай —
Адно ў краіну ценяў
Прыйдзеш ты,
Па радасці і па бядзе браты,
Мы ўсе стаім
Над апраметнай ямай…

*1992*

* * *

Шалом, Ерусалім,
Чалом, святое месца.
Святлом сваім амый і ацалі.
Нібы ў дзяжы, ў душы
Тут падыходзіць цеста,
Каб веры хлеб
Не звёўся на зямлі.

І нашых мрояў
Ластаўкі зямныя
У вырай спадзеву
Лятуць сюды.
Шкляныя зоры,
Ліўні ільняныя
Напіцца думаюць жывой вады.

Тут, як вачніца,
Зеўрае пячора.
Тут самаўкрыжаваўся небасхон.
Тут наша заўтра
Звечарэла ўчора.
Тут блізка Бог.
І ўсё пачуе Ён…

***1997***

## *З ЦЫКЛА «СТАНЕ ВІФЛЕЕМАМ СЭРЦА…»*

* * *

Каля Гасподняй Дамавіны –
Укленчыць
І апасці ніц,
Як ліст,
Што адляцець павінны
Пад блаславенне бліскавіц.

Пліта халодная, як розум,
Паразумеецца з душой.
Спакой
Абдасць такім марозам,
Што ў гэтым свеце
Ўспомніш той.

Чый Бог
Адзін за ўсіх хварэе,
Смяецца з нашых звадаў лёс.
Бо ў старасці мы ўсе –
Яўрэі,
Як малады Ісус Хрыстос.

* * *

Ён ступаў
Па маладой зямлі,
Выратоўца, босаю нагою.
Дома доўга тлеюць вугалі,
Домам пахне родны дым ізгою.

Ён пакінуў
Босыя сляды
На спякотных камянях і ў чыстых
Душах.
І дагэтуль цень худы
К вечару расце
І пыл не выстыг.

Каб людскому не згарэць галлю,
З ласкі Боскай
Мусіць свет да скону
Найсвятую ўсёй зямлі
Зямлю
Уздымаць над прахам,
Як ікону!

## СЦЯНА ПЛАЧУ

Сцяна не адгароджвае.
Яна
Названа прышласцю
Сцяною Плачу.
Як покуць,
Свету цэламу відна.
Тут кожны думае:
Свой сум растрачу —
І зробіцца нявіннаю віна.

А за Сцяною
Ці чуваць Яму
І наш самотны плач,
І наша гора?
Трымаюць сцены хату
І турму.
Адзін Гасподзь –
Надзейная апора
Ўсяму, што Ім задумана,
Ўсяму.

Паразбуралі нашы храмы ўсе.
І, мабыць, гэта
Перад развітаннем
Слёз ціхіх хмары
Ветрам прынясе,
І мы жывой Сцяною Плачу
Станем,
Каб затупіцца даць ад нас
Касе.

Стах страх.
Маўчыць таемнасць,
як сцяна.

У небасхілу
Зацякла спіна…

# ЕРУСАЛІМ

*Міхаілу А. Фарфелю*

Млечны Шлях, як радасны кілім,
Любяць развінуць нябёсы поўначы,
Каб душа, йдучы ў Ерусалім,
Не блудзіла ў цемры,
Бога помнячы.

Колеры світання й палыну,
Колеры няспыннасці й нязменнасці
Апранаюць міг у даўніну,
Важаць час
Празрыстымі бязменамі.

Як на мулкіх зорах,
Горад лёг
На пагорках, дзе начуе раніца.
Блізка лог,
Дзе ўсіх збірацьме Бог
Судным днём,
Што ўсім апошнім станецца.

А вядуць не ўсе дарогі ў Рым,
У Ерусалім
Ідуць нястомнікі.
На магільніку,
як дым, сівым,
Скалянелі камяні-паломнікі.

Тут да Бога блізка, як нідзе,
Аж чуваць,
Як Немінучасць дыхае.
З Вока яснага сляза ўпадзе –
Стане Віфлеемам сэрца ціхае.

* * *

Страх свой не абтрасеш, як прах.
Цяжка смерці зазірнуць у вочы.
На Галгофу далёкі шлях,
Не чаканы,
Як сон сірочы.

У самім жа сабе згарыш,
Сам наблізіш сваю катастрофу,
Сам жа мусіш свой несці крыж,
Узысці на сваю Галгофу.

І праступяць у людзях,
У тлях
Цудадзейнасць, вар'яцтва,
Калецтва.

Да Галгофы кароткі шлях –
Даўжынёй на ўсё чалавецтва…

## СВЯТАРНАЕ СВЯТЛО

*Трыпутнік*

### III

Раскрыжаваныя рукі,
Нібы
Разнятыя для палёту крылы.
І голас архангельскае трубы
З крыніцы смагі
Нап'ецца сілы…

І ўбачыш такое ў сабе самім,
Што пабаішся пасвіць вачыма…

Аднойчы ўвайшоўшы ў Ерусалім,
Не зможаш
Выйсці з Ерусаліма…

* * *

Чым Бог бліжэйшы да зямлі,
Тым Ён нябеснейшы…
І тут, відаць,
Прывычна дзіва здзейсніўшы,
Уборы, што з блакіту,
Лёгка скіне – і,
Нябачны, ўбачыцца
Сляпым і жабракам.
Як выдых, выйдзе
З ветрасценнай скініі,
За Сынаў боль
Даруючы цвікам…

*1993*

# Марку Шагалу

## СУСТРЭЧА

У Нью-Ёрку, у Вашынгтоне
сустракаўся я з Віцебскам
маладосці мамы маёй,
з вулачкамі-крывулачкамі,
з анёламі
                    сумнымі і вясёлымі,
са скрыпкамі —
                                   паветранымі скрынкамі,
з аптэкамі з цудадзейнымі лекамі,
з казой-дзеразой,
што бегла цераз масток
і ўхапіла кляновы лісток.

І тут, у Цэнтры Пампіду
(а дзедаўшчына Пампіду, дарэчы,

у Заслаўі, у гасподзе Рагнеды),
сустракаюся зноў з Віцебскам,
бо Шагал родны свой горад,
у прадчуванні наступных навал,
спяшаўся захаваць на палотнах,
хоць і палотны таксама,
як гарады, гараць.

Шагал — сам бежанец з зямлі
на нябёсы —
Віцебск насіў у сабе,
каб ніхто не выкраў,
Віцебск, з усёй яго люднасцю,
жыўнасцю.
Так у свой час Суцін
з хлеўчука ў Смілавічах
у парыжскі салон загнаў
ружовую свінню.

Кожны мастак багаты
сваёй радзімай.
Я сустракаўся з шагалаўскім Віцебскам
у Еўропе і за акіянам,
але ні разу не сустракаўся
з Маркам Шагалам у нашым Віцебску.
Чакаю…
Dum spiro, spero.

*1988*

## МАРК ШАГАЛ

Жыццё працякала —
І не стараўся
Залапіць гарбаты дах.
Губляў галаву
І не спяшаўся
Яе адшукаць.
Ягоны сусед Макар

Пасвіў цялят
Недзе ў Маркаўшчыне
Ці на Пескавацiку,
А ён пераганяў коз
З Елісейскіх палёў
На Млечны Выган.
Козы былі з Віцебска,
Дзе дагэтуль
На глухаватай вуліцы
Чакае яго мураванка
І на падваконні
Гараць бальзамінкі
Зоркамі малалецтва
У цёплым космасе
Незабытай бацькаўшчыны.

*1988*

## ВЯРТАННЕ СНОЎ

Шалом табе, хата Марка Шагала, —
Пад небам віцебскім сірата.
Ты ў хмарах знявагі
Шукала прагалу,
Каб пацяплела да дому вярста.

Чалом табе, мураванка-буслянка,
Адкуль адляталі ў выгнанне сны,
Шагалавы сны, ды жыла калыханка.
І сны вяртаюцца з даўніны.

Датуль чалавек
Доўжыць шлях свой зямны,
Пакуль жывуць
Ягоныя сны.

*1992*

## ДА ПАРТРЭТА МАРКА ШАГАЛА

І засланяецца ён вачыма,
Яшчэ блакітнымі,
Каб нікому
Убачыць было немагчыма
Маркоту ягоную й стому.

Сканчаецца справа зямная…
Не дбае мастак пра надзелы…
Самога сябе ўспамінае,
Самотны,
Як космас ссівелы…

*1995*

## ЦВІКІ

У падстрэшшы
сцішыліся скразнякі.
Пераступае з нагі на нагу
Сон вусаты.
Прымроілася:
Марк Шагал пытаецца пра цвікі
У вокнах ягонай віцебскай хаты…

*2003*

## Рыгору Рэлесу

### НА ДЗЕВЯЦЬ ДЗЕСЯТКАЎ

*

Верш на ідыш —
Не бедны падкідыш,
Ён крывіцкаму не чужы.
Рыфмаў поўнагалосныя дзіды
Перагукваюцца ў імжы.

У імжы стагоддзяў суровых
Да габрэяў і да крывічоў
Толькі вечнасць тоіць у сховах
Панацэю для нашых моў…

*

Ад куфра мудрасці годна
Рэлес трымае ключы.
Як і мудрасць,
Надзея ані старэе,
Што да стодваццацігоддзя ягонага
Нарастуць чытачы —
Успомняць нарэшце
Мову сваю яўрэі.

*2003*

# Заіру Азгуру

## НАТУРШЧЫКІ

Натуршчыкі —
падзёншчыкі мастацтва,
Супернікі натурыстых майстроў,
Вам лёс дазволіў сведкамі застацца,
Каб перажыць уладу ўладароў.
Вы захавалі мудрае дзівацтва,
Здзівіўшыся,
здзіўляць усіх паноў,
Ад тлену ратаваць і ратавацца,
За жабракоў адказваць, за паноў.
Прыўшоўшы з Лонданаў,
з Бычкоў, з Парыжаў,
Цярпелі ўсё,
а дух і нораў выжыў.
Вы за натуру мелі медзякі,
А потым вас шаноўна неслі ў храмы,
Не шкадавалі пазалот на рамы,
Каб за сваіх прызналі вас вякі!

*1984, 1986*

# Рыгору Барозкіну

* * *

З пасмаю дыму ад папяроскі,
Заламанай па-кавалерску за вухам,
Дыміўся кратэрам

Рыгор Бярозкін —
Кволы здароўем, дужы духам.

Турмы, лагеры, фронт, уцёкі
Прайшоў з усмешкай нялёгкай
Смела.
Ён чуў здалёку Паэзіі крокі,
Якая яшчэ і хадзіць не ўмела.

Сябры яго звалі вясёла
Рэбэ.
Настаўнік быў сам
Да навукі ахвочы.
Дасюль глядзяць мне ў душу,
Як неба,
Ягоныя вечныя, біблейскія вочы.

*1991*

# Навуму Кісліку

## ХВАЛА ПАПЕРЫ

А дрэва ведаў
Цяжка карылася,
За вайну ўкарэла кара.
А энцыклапедыя
Не курылася,
Сварылася іскрамі з ёй махра.
Не думалі пра тыл і пра фронт
Бракгаўз і Эфрон.
Мары курцоў
(Гэта ўжо дэталі)
У тыле збыліся
У шпіталі,
У вінадарным Тбілісі.

У пяціпавярховым корпусе
Педінстытута
Крычалі, стагналі горка,
Курчыліся ад пакуты.
Бібліятэка не запылілася,
Каб кніга дзе завалілася.
А кніга любая выдатная
Прыдатная
Пад курыва.
Смаліла махру братва салдатная
З-пад Смаленска,
Іркуцка, Турава.
А ўчарнела-чарнявы
Салдацік з асколкам у галаве
За дзівака слыве,
Нібыта да ўсіх не мае справы.
Да дзірак зачытвае энцыклапедыю —
Непаважаную кнігу курцамі.
З томам снедае,
З томам абедае,
Вядома,
Дні свае скарачае.
Сем месяцаў лютаснага чытання
Пад усмешкі дзядзькоў несуровыя
Усё ўмесцяць,
Раўнавага настане,
Але і сёння ўспамін скіроўвае
Ягоны верш,
Паэму,
Баладу
У тую палату
У вінадарным Тбілісі,
Дзе першыя рыфмы ўзвяліся.
Хвала паперы,
Што не курылася,
Хвала таямніцы,
Якая адкрылася!

*1986*

* * *

Ён не зважаў на літграмы,
Пісаў, перакладаў тамы,
Не паважаў на славу хворых.
Яшчэ з вайны ў франтавіка
Радок вастрэйшы ад штыка
І думкі спрасаваны порах.

*1985*

* * *

Галавы сваёй кавун
Пакладу на шалі
Лёсу
За цябе, Навум,
І яшчэ дэталі,
Зрыфмаваўшы, пакладу,
Каб праз сорак
Дужа
Павітаць:
— Хаў ду ю ду!
Дзякуй, мудры Дружа!

*1985*

* * *

Перакладаў не што папала,
А Куляшова ды Купалу.
Радку гранёнаму Навум —
Вясёлы сват і пільны кум.

*Надпіс на кнізе*
*«Абразы без абразы», 1985*

* * *

Мінае бум на гвалт, на тлум,
Кішыць жыццёвая арэна,
Ды толькі розум твой, Навум,
Ды толькі талент твой, Навум,
Належаць вечнасці нязменна.

*Надпіс на кнізе*
*«Маўчанне перуна», 1986*

* * *

Талмачу, барадачу,
Любаму Навуму,
Ціха дзякаваць хачу,
Не ўсчынаўшы шуму.
Без лішніх выкрунтасікаў
Па даручэнню класікаў.

*Надпіс на кнізе*
*«Кахаць — гэта значыць...», 1986*

* * *

Наум, ты — ум эпохи,
Честь партии нужна, она
В замену счастья нам дана,
А с нею шутки плохи.

*Надпіс на кнізе*
*«Самота паломніцтва», 1991*

* * *

Сем дзясяткаў.
Каб сорак яшчэ!
Вой, былі б вясёлыя скокі,
Пан Навуме!

Рэчка часу цячэ.
І лысеюць і горы, й прарокі.
Дзякуй, дружа Навуме,
За ўсё!
След паэзіі толькі босы
Ямбамі адчуваюць пракосы.
Хай не гнецца сціла кассё!

Я суцешыць цябе магу,
Непаўторнага ветраслова, —
І бязважкае мае вагу,
Бо цяжэй ад золата
Слова.
Маладога хмелю глячок
Асушыў ты.
Пайшла атава.
Я табе хоць маладзічок
Папрашу ў поўні веку
Ласкава.

*Надпіс на кнізе*
*«Евангелле ад Мамы», 1995*

* * *

Навум!
Ты ненавідзіш тлум,
Ты — жрэц развагі і спакою.
Дазволь тады спытаць:
Warum
Жыццё бязглуздае такое?

*Надпіс на кнізе*
*«Аратай, які пасвіць аблокі», 1996*

## Абраму Рабкіну

### НА ВЫСТАВЕ

Няхай жыве ў вяках Абрам,
Што ўзвёў руплівым пэндзлем
Храм
Крывіцкае зямлі святое.
Шалом, чалом яму за тое,
Што з намі паяднаў свой лёс.
*P. S.*
Хай будзе менш дамоў на знос.

*2000*

## Аляксандру Дракахрусту

* * *

Слава Аляксандру Дракахрусту
Не старалася адкроіць лусту,
Шчодрая была адна вайна —
Усяго адмерыла спаўна.
І Берлін, і Порт-Артур павінны
Помніць колісь чорную чупрыну!

*1969*

## ПАМЯЦІ АЛЯКСАНДРА ДРАКАХРУСТА

Ціха,
Як некалі на заданне,
Адыходзяць апошнія франтавікі,
Сустракаць іх
Маўкліва выходзяць вякі.
Адлятаюць
Зямных непамыснасцяў здані.
Што ім прывідны дым
Падружоўленай славы.
Радасць не засланіў
Морак парахавы.
Не спыніць толькі
Наступ зялёнай травы.
Не стамляецца жыць
Промень сонца рухавы.

Ды не можа ніяк
Памаўчаць вайна,
Хоць і ведае,
Што вінавата яна.

*2008*

# Ванкарэму Нікіфаровічу

## МІКРАРАЁН

Па ордэру выдадзены мікрарай,
які называецца — мікрараён.
Будаўніцтва жыллёвага —
пярэдні край,
напоўнены грукатам да краёў.
Яшчэ тут у спёку будучы сквер
трымае пах палыновы густы,

млее на сонцы кмен.
А ў суседзі да комінаў лезуць
пад самы верх
і прарастаюць на дахах
кусты
тэлеантэн…
Зімою нанач
прыносяць з двара прасціны.
Яны, злубянелыя,
пахнуць марозам.
Лезуць пішчом
вятры-валацугі праз сцены.
Завіруха зблудзілася ў полі,
галосіць, нібы малое.
На мікраraён,
як гусакі,
сыкаюць асабнякі.
На спланаваны, правешаны,
забудаваны
і незавершаны
мікраraён нашай планеты
з макраraёна Сусвету
вачыма сінімі
пазірае Вега.
Мне зразумелы мікраraён —
неспакойны сын
неспакойнага веку…

*1963*

* * *

Хай звады пойдуць ўсе калом,
Хай зайздрасць шчэрыцца дарэмна,
Хай будзе за маім сталом
Нікіфаровічна ды Рэмна!

*1977*

## ІНТЭЛЕКТ ЗЯМЛІ

Небу ўсе гімны, легенды,
Долу —
Бугроў мазалі.
Космас інтэлігентны,
Ды ёсць
Інтэлект зямлі.

Ён самы грунтоўны —
У грунце
Глыбока яго карані.
Як людзі,
Не б’е сябе ў грудзі
Зямля
Між касмічнай радні.

Памяць вякоў глухая,
Чуйная памяць зямлі.
Зямлю апрамецці жахалі,
Але запыніць не змаглі.

Асколкі заселі ў паушар’ях,
Запала надброўе пячор.
Клёк гартаваўся ў пажарах,
У прысаку згаслых зор.

Лёсам людскім і росам
У сонцы гарэць і ў крыві.
Зямлі аратайны розум
Ніколі душой не крывіў.

Праносяцца — не марудзяць! —
Вякоў залатыя чмялі.
Сузор’ям усім неўміручасць
Дае інтэлект зямлі.

*1980*

* * *

Пакуль са мною мудры Рэм,
Паўсюль all right — няма праблем.
З тынянкі ўшацкай слоў бярэма
У дзве рукі бяру для Рэма.
Ані пахісная пашана
Мая
Да сына Валяр'яна.

*1985*

* * *

Тут на прызнанні месца мала,
Ды я цябе, шчырэйшы Рэм,
Люблю пашанліва і стала,
Бо без цябе і глух, і нем.

*1985*

* * *

Рэм, мой прадаўні друг,
Табе жадаю дужа:
Няхай бягуць памалу
Дзён непрыемных коні,
Хай хопіць сілы ралу
На маладым загоне.

*Надпіс на кнізе*
*«Кахаць — гэта значыць...», 1986*

* * *

Мне Рем, как Рим,
Всегда любим.
Рем, как и Рим,
Неповторим.

*1988*

* * *

Ванкарэму,
Без якога
Пуста ў Менску,
Як у свеце.
Дружа,
Веру я прыкмеце,
Што вяртаецца дарога!

*Надпіс на кнізе*
*«Трэба дома бываць часцей...», 1994*

## РАДЗІМА СНОЎ

Дзе пупок адрэзаны,
Дзе слупок абрэзаны,
Куток дарагі.
Плач зрэзанай бярэзіны
Стукне ў берагі
Соннай рэчкі памяці
Ды ў скроні араллі,
Дзе стане сум снапамі ці
Ветрам у быллі.
Стрыечны Край Айчымавіч
На зерне зірне,
З якога ўжо магчыма і
Узыдзе рунь і не
Закаласіцца роспаччу,
А ўсцешнасцю…
І зноў
Сустрэнецца на ростанях
Душа з радзімай сноў…

*2001*

## ПЯЦІЗОРКАВЫ СМУТАК

А сябра сапраўдны,
Як і каньяк,
Чым больш гадоў,
тым шчырэйшы,
Таму так
Вярэдзіць душу пяцізоркавы смутак
І поўніцца смагай узгадкавы гляк.

Праз ростані, праз акіян,
Праз тугу,
У свет блаславёная цёплай Радзімай,
Спяшае сцяжынка сустрэчы магчымай,
Заняўшы за ціхай самотай чаргу.

Чарга йдзе марудна ў дагоду гадам,
Не кожнаму выпадзе тут дачакацца,
Усе мы па-свойму самаашуканцы —
Сябе суцяшаем:
Сустрэнемся там…

*2004*



# Якаву і Міры Серперам

* * *

Каб лішняга ніхто не вякаў,
Бясспрэчнае скажу адно:
Харошы ўшацкі малец Якаў,
А ўсе астатнія даўно
Не гэткія, як быць павінны.
*P. S.*
Яшчэ не кепскі — сын Куліны…

*1978*

* * *

Продкі ані мае, ні твае
Сваёй зямлі не мянялі.
І зараз ім гэтай зямлі стае
У хвойніку пад крыжамі,
У бярэзніку пад камянямі.

Кавалі твае лемяшы, вухналі,
Мае дзірваны ўздзіралі.
І мелі круглыя, як нулі,
На путах вузлоў каралі.

Спрадвеку зямля мела дзве рукі —
Гарбелі каваль і араты.
І пераводзіць маглі землякі
Хіба мазалі на караты.

Твой ножны сталіў,
Моў авечку стрыг.
І тых інтрыг,
Што малых местачкоўкі
Вучылі цвяліць крамароў старых:
— Ці прадаюцца свіныя падкоўкі?

І толькі канфлікту таго было
У бытавым пытанні.
Не дужа давілася салам кубло.
Падбрыкваў азадак баранні.

Дзве мовы чулі бары і палі.
Раслося флянцам і парасткам.
І зелле вяселля продкі пілі:
Мой — квартай,
А твой — напарсткам.

І мы не адзін асушылі гляк,
І мы не ў даўгу перад крамаю.
Тваё здароўе,
Мой друг і зямляк,
Шаноўны Якаў Абрамавіч!

*1978*

* * *

*Міры Серпер-Салавей на 50-годдзе*

Ушацкая — а значыць гэта,
Што прыгажэй цябе няма.
Ступаеш — свеціцца планета,
Рухавая, як ты сама.
Хоць не было пра тое ў друку
Паведамленняў,
Не заціх
Да нашых дзён на ўшацкім бруку
Грук ад абцасікаў тваіх.

З усіх крутых вяршынь Паміра
І з параснікаў жаніхі
Выглядвалі, дзе ходзіць Міра, —
Ва Ўшачу ўсе вялі шляхі.
І кожны безнадзейна плакаў,
Што не абраннік Мірын ён.
Крычаў яшчэ ў калысцы Якаў:
«Гіб, Міра, лапачкі!» — праз сон.

Ты чарацінку паўтарыла з азёр.
Не толькі землякоў —
Прыйшла, пабачыла, скарыла
Цельпукаватых мінчукоў.

Туга Амерыкі, ОВИРа
Расце,
І ўсе ў тузе не спяць,
Бяры ў палон красою, Міра,
Табе заўсёды дваццаць пяць!

Я да цябе ў прызнаннях шчыры.
Жадаю Яшу па начах
У Міры выбіцца ў куміры,
Кахаць да зорак у вачах!

*1989*

* * *

*Памяці*
*Якава Абрамавіча Серпера*

Як з небасхілу маладзік,
З крывіцкіх местаў і мястэчкаў,
Не распачаўшы з лёсам спрэчкаў,
Калі яўрэйскі профіль знік?

Мне не хапае дружбака,
Суседа, лекара, дарадцы.
Бяседа стала папярхацца,
Як п'яніца ад першака.

Без коміна
Няўтульна хатцы,
А небу — без маладзіка…

***1994***

# Барысу Забораву

* * *

У нас мастацкая сям'я:
І тата мой мастак, і я.
Мастацтвазнаўцам стаў мой брат —
Праславіць нас ён будзе рад!

***1969***

## САЛЮТ ПАРЫЖУ

Гуляка і філосаф закаханы,
Транжыр і мот, гультай і працаўнік,

На экспарт звык збываць свае заганы,
Ажно запыхкаўся вякоў цягнік.

Глядзіць з нябёс анёл закалыханы
На той, напханы Сенаю сяннік.
Грудзей красунь спякотныя барханы
Турбуеш, каб нашчадны пал не знік.

Чырвона-жоўты шалік —
фара ў фуру —
На Елісейскіх выпасах да твару
Табе,
пастух вачэй і душ,
Парыж.

Прыняць хацеў бы, як заслугу, кару.
Тваю насмешку ўбачыць марна мару
Я — ўшацкай араллі азяблы глыж.

*1987–1988*

## У МАЙСТЭРНІ Ў БАРЫСА ЗАБОРАВА

Слівіна з выбалелымі сукамі
Адцвіла. Зацвітае каштан.
Пранырлівы, як сам шайтан,
Верабей у мураве зялёнае
Нешта шукае.

Маэстра з чорнай яшчэ барадою
Вераб'я па-гаспадарску пасе,
Як пад Мінскам бычка-трацячка па расе
Разам з бадліваю чарадою.

Пыл вясковых дарог
Успамінае мінчук карэнны.
Ірына ў гарачую бульбу
Кладзе па-ўшацку кроп.
Мастака з Амерык, з Азій, з Еўроп
У Беларусь скіроўваюць гены.

Забыўся мой гатэль на Распаі.
Як некалі ў мамы маёй, гасцюем, сябры,
Дыміцца бульба ў парыжскім двары.
Быкава адно не хапае.

Барыс у марах не ў ба́рах —
У бара́х зялёных,
Якія забрала чарнобыльская чума.
Карцін у майстэрні амаль няма —
Яны ў дарозе, яны ў салонах.

Забораўскі конь не чуе сутрыму…
Дзядзінцы крывіцкія
Праступаюць з імжы…
Мастак у Парыжы,
І з-за мяжы
Слава вяртаецца на радзіму.

*1991*

* * *

Душа,
Ад нецярплівасці згарыш,
Захочаш вобраз
паўтарыць
абрысавы,
Папросішся ў забораўскі Парыж —
Чупрыністы,
Ірыніста-Барысавы.

*1993*

* * *

Барыс!
Тут словы ёсць,
Табе адрасаваныя.

Былую весялосць
Прыгадваем з пашанаю.

*Надпіс на кнізе*
*«Аратай, які пасвіць аблокі», 1996*

* * *

Туга жыве ў паглядзе.
Жывеш,
Пакуль гарыш.
Сугуччы п’е суладдзе:
Барыс,
Парыс,
Парыж.

*Надпіс на кнізе*
*«Евангелле ад Мамы», 1996*

## Самсону Палякову

### ЦЫГАНСКАЯ ПРАФЕСІЯ

Кіно — цыганская прафесія,
Дзе папрасі,
А дзе змахлюй,
Каб высякала іскры крэсіва,
Рабі з расы і слёзаў месіва,
Малі багоў,
Чарцей малюй.

Блазноцься як дурней
З артыстамі,
І смех за брэх,
І брэх за смех
Прымай з парадамі вятрыстымі,

Сабе самому кукіш выставі,
Разгрызшы поспеху арэх.

Кіно — паганскае відовішча,
Яшчэ ў пячоры на сцяне
Агонь скакаў,
Каб страху сховішча
Ноч не прысвоіла адно яшчэ,
Пакуль прамень экран пратне.

І музы,
Як align="left"знаабранніцы,
Забыўшы рэўнасць,
Заадно
Шчырэюць смела,
Каб шматганіцца.
І верыць кожная старанніца,
Што толькі ёй жыве кіно!

*1995*

* * *

Клянуся сівай барадою,
Што я зусім не выпадкова
Люблю Самсона Палякова,
Люблю й віншую з Калядою.
*P. S.*
Хай доўга-доўга
Понас Хронас
Не томіцца гукаць:
«Самсонас!»

*Надпіс на кнізе*
*«Аратай, які пасвіць аблокі», 1996*

# Міхаілу Герчыку

## ЧАЛАВЕК

Не хлеба кус
І сала шмат,
А сэнс ядра зямнога
Разгрызці трэба акурат.
Спраў шмат.
Турбот замнога:

Чарэпаць золата і гразь,
За д'ябла і за бога,
За ўсіх адказным быць,
Іграць
Яшчэ сябе самога.

Нябыт пільнуе кожны міг,
І шчэрыцца знямога.
Усё ён ведае і ўсіх,
Апроч сябе самога!

***1977***

* * *

*Да 60-годдзя*

«Такая глуш, а гэтак шыюць!» —
Кравец бабруйскі пра Парыж
Казаў.
Бабруйск эпоху жывіць,
Бабруйскі — самы спрытны стрыж.
Бабруйск —
Сталіца ўсіх сталіцаў,
Бабруйск і ў гандлі рэй вядзе.
І Герчык мусіў нарадзіцца

Адно у Бабруйску,
А не дзе.
Лёс —
Ён не хлопчык-гутаперчык,
Лёс не шкадуе,
Б'е ззаўха.
Прывык шурупіць змалку Герчык,
Каб не паехала страха.

Хмялеў ад дам і не ад чаю,
Быў верным сябрам для сяброў.
Вяртаўся на мяжу адчаю
І ведаў час гаспадароў.
І як рэдактар да завалаў
Звык,
Бо пры ўсіх дырэктарах
Макулатуру генералаў
Ён разграбаў,
Забыўшы страх.

На працы не дыміць — палае,
Не лічачы свае гады.
Казала партыя былая:
«Дзе Герчык —
Поспех там заўжды!»

*1992*

## Давіду Сімановічу

* * *

У модзе то крымплен, то твід,
То зноўку лён і воўна.
Мне Сімановіч,
Мой Давід,

Галоўны усё роўна.
Дзе Сімановіч —
Поспех там
У тэлегледачоў,
У дам!

*1987, Віцебск*

* * *

Сімановіч без Віцебска,
Як слова без націску.
Віцебск без Сімановіча,
Як слон без слановішча.
У Віцебску быць
І не ўбачыць Давіда,
Як у Парыжы,
Не маючы гіда.
Ад Сіма ці Адама
З’явіцца антыподыку?
Хачу і ў новым годзіку
Я падабацца Додзіку
І Віцебску — таксама!

*1990*

## ЗОРКА ДАВІДА

Двухшчыт Давідаў
Зоркай шасціконцай
Акрэсліўся ў вячніне на сцяне.
Заступніцай выгнанніцкага сонца
Заззяла зорка ў горкім тумане.

Выводзіла не з аднаго палону
Па ўсёй зямлі
Давідаву радню.
Двухшчыт Давідаў пад сваю заслону
Браў будучай Айчыны чысціню.

Бо прашчур лашчыць мог
І прашчу, й гуслі,
Псалмамі звекавечыць звон крыві.
І ворагі ў балоце глупства грузлі,
Давіду Бог дазволіў быць:
— Жыві!

Вясёлае жыццё бывае звонку.
Самота й гарката ў душы на дне.
І крэсліў лёс на сынавым пярсцёнку:
*Усё мінае, й гэта праміне…*

***1997***

## Грыне Сляповіч

### ЭСЭМЭСКА

Утравець баіцца сцежка,
Бо па ёй ідуць штодня
Дзядзька Жарт
І цётка Ўсмешка —
Босай ісціны радня.

Іх чакаюць пагасціны
І прыгадак праснакі
У спадарыні Ірыны,
Мудрай Якавай дачкі.

У руплівай завіханкі
Пан Настрой
Вядзе свой рэй.
Мовіць Жарт:
— А грэйсэ данке!
Ўсмешка ўслед:
— А зохэн вэй!

***2011***

# Уладзіміру Ідэльсону

## НЯПРОСТА

*Да 70-годдзя*

Ад малатка як уцячы цвіку?
Як ямбу перакінуцца харэем?
Адчуў ты добра на сваім вяку,
Што ўсе вякі не проста быць яўрэем.

Адным магу суцешыць —
Не прасцей
І беларусам быць у Беларусі.
Зярняты год
Праз сіта сноў прасей.
Мы ўсе —
Мігцінкі ў зорнай пацярусе.

І як твой род ні секлі, ні мялі,
Ты выжыць здолеў.
І ў табе прачула
Загаварыла мова той зямлі,
Што прадзедаў аднойчы прыхінула.

Мы на адной зямлі.
Мы ўсе свае.
Але сваё хай кожны прышануе.
Нам моц і немач Бог Адзін дае.
І неба шчодрыць лусту праліўную…

***1996***

# Заўвагі

Азгур Заір Ісакавіч (1908–1995) — скульптар, народны мастак СССР.

Барсук Захар (1915–1942) — паэт, пісаў на ідыш. Загінуў на фронце падчас Вялікай Айчыннай вайны.

Бялік Хаім Нахман (1873–1934) — ураджэнец Валыншчыны (Украіна). Класік яўрэйскай літаратуры, паэт яўрэйскага нацыянальнага адраджэння. (Падрадкоўнікі вершаў зроблены Аронам Скірам.)

Бярозкін Рыгор Саламонавіч (1918–1981) — літаратуразнавец. Двойчы рэпрэсаваны (у 1941 г. і 1949 г.), рэабілітаваны ў 1956 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

Гардон Міхл (1823–1890) — ураджэнец Вільні. Паэт і празаік, пісаў на іўрыце і ідыш.

Герчык Міхаіл Навумавіч (1932–2008) — пісьменнік, выдавецкі рэдактар.

Дракахруст Аляксандр Абрамавіч (1923–2008) — паэт, ваенны журналіст, пісаў на рускай мове. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

Забораў Барыс Абрамавіч (1935) — мастак. З 1981 г. жыве ў Парыжы.

Ідэльсон Уладзімір Барысавіч (1926) — журналіст, перакладчык, выдавецкі рэдактар.

Каган Сара Рувімаўна (1895–1941) — паэт і празаік, пісала на ідыш. Загінула ў Мінскім гета.

Кацнельсон Іцык (1886–1944) — ураджэнец Міншчыны. Паэт, пісаў на іўрыце і ідыш. Падчас Другой сусветнай вайны змагаўся ў Польшчы ў падполлі супраць нацыстаў, загінуў у Асвенціме.

Кіслік Навум Зіноўевіч (1925–1998) — паэт, пісаў на рускай мове. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

Мальцінскі Хаім Ізраілевіч (1910–1986) — паэт і перакладчык, пісаў на ідыш. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Рэпрэсаваны ў 1948 г. , рэабілітаваны ў 1956 г. З 1975 г. жыў у Ізраілі.

Надзір Мошэ (Іцхак Райз; 1885–1943) — ураджэнец Усходняй Галіцыі. Паэт, навеліст, драматург, тэатральны крытык. Пісаў на ідыш.

Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр’янавіч (1934) — публіцыст, літаратуразнавец, перакладчык. З 1993 г. жыве ў ЗША.

Палякоў Самсон Германавіч (1938) — журналіст, кінасцэнарыст. Выехаў у Ізраіль.

Платнер Ісак Ізраілевіч (1895–1961) — паэт і празаік, пісаў на ідыш. Рэпрэсаваны ў 1949 г., рэабілітаваны ў 1956 г.

Рабкін Абрам Ісакавіч (1925) — ураджэнец Бабруйска, мастак. Жыве ў Санкт-Пецярбургу. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

Рэйзін Рува (Рувім Шоламавіч; 1911–1942) — паэт, пісаў на ідыш. Загінуў на фронце падчас Вялікай Айчыннай вайны.

Рэлес Рыгор Львовіч (1913–2004) — паэт і празаік, пісаў на ідыш.

Серпер Якаў Абрамавіч (1938–1994) і Серпер-Салавей Міра Захараўна — землякі, выехалі ў ЗША.

Сімановіч Давід Рыгоравіч (1932) — паэт і перакладчык, піша на рускай мове. Аўтар праекта «Шагалаўскія дні» ў Віцебску.

Сляповіч Ірына Якаўлеўна — перакладчык, рэдактар.

Талалай Леў Барысавіч (1906–1942) — паэт, пісаў на ідыш. Загінуў на фронце падчас Вялікай Айчыннай вайны.

Харык Ізі (Ісак Давыдавіч; 1896–1937) — паэт, адзін з заснавальнікаў савецкай яўрэйскай літаратуры. Рэпрэсаваны і расстраляны ў 1937 г., рэабілітаваны ў 1956 г.

Шагал Марк Захаравіч (1887–1985) — ураджэнец Віцебска. Графік, жывапісец, тэатральны мастак, майстар манументальных і прыкладных відаў мастацтва, паэт (пісаў на ідыш). Жыў у Францыі. (Падрадкоўнікі вершаў зроблены Львом Берынскім.)

Шведзік Генадзь Барысавіч (1917–1942) — паэт, пісаў на ідыш. Загінуў на фронце падчас Вялікай Айчыннай вайны.

*Ірына СЛЯПОВІЧ*

# Змест

**Барадулін, Р.**

**Б24** Толькі б яўрэі былі!.. : кніга павагі і сяброўства / Рыгор Барадулін ; склад. Н. Давыдзенкі, прадм. В. Нікіфаровіча ; заўв. І. Сляповіч. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 244 с.

ISBN 978-985-6976-88-2.

Кніга народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна, як заўсёды, незвычайная, змястоўная. Яе склалі артыкулы і ўспаміны пра знаных дзеячаў яўрэйскай культуры, пераклады паэзіі Х.-Н. Бяліка, М. Надзіра, М. Шагала, І. Харыка, Х. Мальцінскага, Р. Рэлеса і многіх інш.

Аснова апошняга раздзела — вершы, прысвячаныя яўрэйскім святыням, а таксама вершы і дарчыя надпісы (захаваныя ў рабочых блакнотах) творцам, блізкім сябрам і калегам — Н. Кісліку, А. Дракахрусту, Я. і М. Серперам, В. Нікіфаровічу, Б. Забораву, Д. Сімановічу і інш., асабліва кранальныя сваёй журбой і вясёлай пяшчотай.

**УДК 821.161.3**
**ББК 84(4Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Барадулін** Рыгор Іванавіч

**Толькі б яўрэі былі!..**

*Кніга павагі і сяброўства*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Наталля Давыдзенка
Вёрстка Ларысы Ваўчок
Карэктар Марына Аляксеева

Падпісана да друку 16.05.2011. Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$.
Друк на рызографе. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 10,25. Ум. друк. арк. 12,81.
Наклад 300 асобнікаў. Зак. 411.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33,
тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.